

«Звери, ходящие
в пустыни,
знают ямы
своя; птицы,
летающие
по воздуху,
ведают гнезда
своя; рыбы,
плывущие
по морю и
в реках, чуют
виры своя;
пчелы и тым
подобная
боронять
ульев своих.
Тако ж и люди,
игде зродилися
и ускормлены
суть по бозе,
к тому месту
великую ласку
имають».

Францыск Скарына

# ЧАЛАВЕК ГРАМАДСТВА ДЗЯРЖАВА

Вучэбны дапаможнік для 9 класа агульнаадукацыйнай школы з беларускай мовай навучання

У ЧАТЫРОХ КНІГАХ

Кніга другая

# СВЕТ ЛЮДЗЕЙ

Пад рэдакцыяй доктара філасофскіх навук, прафесара Ю. А. Харына

Дапушчана Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь

МІНСК «НАРОДНАЯ АСВЕТА» 2001

УДК 316(075.3=826)
ББК 60я721
Ч-16

Аўтары:
*А. В. Бяляева* — § 13—15; *Н. М. Ганушчанка* — «Заключэнне»; *М. П. Грышчанка, А. В. Гурына* — § 26—29; *А. М. Данілаў* — § 16—18; *У. І. Міськевіч* — § 5, 6; *С. В. Паноў* — логіка-структурныя схемы; *В. У. Пазнякоў* — § 14, 15; *А. А. Палоннікаў* — § 11, 12; *І. А. Рабкоў* — § 16, 17, 18, 19—25; *Э. А. Фонатава* — § 9, 10; *Ю. А. Харын* — «Уводзіны», § 1—4, 7, 8, 16, 17, 18, 19—25, «Заключэнне».

Пераклад з рускай мовы *А. А. Дзераш, Н. Ю. Перавалавай.*

Ч-16 **Чалавек. Грамадства. Дзяржава:** Вучэб. дапам. для 9-га кл. агульнаадукац. шк. з бел. мовай навучання. У 4 кн. Кн. 2. Свет людзей/ А. В. Бяляева, Н. М. Ганушчанка, М. П. Грышчанка і інш.; Пад рэд. Ю. А. Харына / Пер. з рус. мовы А. А. Дзераш, Н. Ю. Перавалавай.— Мн.: Нар. асвета, 2001.— 239 с.: іл.
ISBN 985-12-0294-0.



УДК 316(075.3=826)
ББК 60я721

ISBN 985-12-0294-0 (кн. 2)
ISBN 985-12-0043-3





# Чалавек — мера ўсіх рэчаў

## «Чалавек немагчымы па-за грамадствам»

Гэта кніга «Свет людзей» працягвае размову аб чалавеку, грамадстве і дзяржаве. У папярэднім раздзеле курса «Мой свет» (8-ы клас) гаворка ў асноўным ішла аб змесце і псіхалагічнай структуры нашага «Я», духоўных каштоўнасцях людзей, матэрыяльных умовах іх жыцця, асаблівасцях нашага фізічнага і маральнага развіцця. Мы з вамі быццам паглыбляліся ў свет уласных унутраных перажыванняў, калі ішлі ўслед за мудрай парадай «Пазнай самога сябе». І вы памятаеце: у роздумах пра ўласнае «Я» мы ўвесь час былі вымушаны суадносіць сябе з іншымі людзьмі, з норавамі і культурай грамадства. І гэта зразумела, бо, як заўважыў Л. М. Талстой (і ці толькі ён?), «чалавек немагчымы па-за грамадствам».

Зараз мы павінны зрабіць наступны крок, *зазірнуць у «свет людзей» і ўсвядоміць надзвычайную складанасць чалавечага існавання.* Мудра сказана, што «быць на Зямлі — гэта быць чалавекам, а гэта значыць: будаваць, жыць, мысліць» (Марцін Хайдэгер).

Усіх нас парадніла Зямля — калыска чалавецтва. І хоць у кожнага з нас свой уласны асобасны свет, унікальны і непаўторны, усе мы прыналежныя да лёсаў «планеты людзей».

У чым сусветнае прызначэнне чалавека і якія яго рэальныя магчымасці? Якое я сам маю значэнне ў навакольным свеце? Якія мае правы ў грамадстве? Ці магчыма разумна растлумачыць рэчаіснасць? Што такое ісціна? Гэта няпростыя пытанні. Бывае, што людзі ўсё жыццё пакутліва разважаюць над імі і часта не знаходзяць адказу. Тады адны звяртаюцца да догмаў рэлігійнай веры, іншыя шукаюць ісціну ў філасофскіх вучэннях.

Дадзеная кніга пазнаёміць вас з некаторымі філасофскімі вучэннямі і іх высновамі. Уласна філасофія — гэта асобы і складаны прадмет. І многія з вас яшчэ будуць вывучаць яго

**Што можна прачытаць**

Кочетов А. И. Начало семейной жизни. Мн., 1987.
Ліцвінка Васіль. Святы і абрады беларусаў. Мн., 1997.
Никольский Н. М. Происхождение и история белорусской свадебной обрядности. Мн., 1956.

# § 10. «Бацькі і дзеці»

## Інтарэсы сям'і і грамадства

Паўнакроўнае сямейнае жыццё пачынаецца з нараджэння дзіцяці. Дзеці — крыніца шчасця і натхнення. Разам з дзецьмі з'яўляюцца дадатковыя правы і абавязкі. У мужа і жонкі змяняюцца погляды на многае, а таксама ўзаемаадносіны. Бескарыслівае каханне да дзяцей дапамагае бацькам пазбавіцца непазбежных на першы час эгаістычных установак. Бацькоўскае каханне ўзбагачае каханне мужа і жонкі. Эмацыянальная атмасфера ў сям'і становіцца больш багатай. Дзеці цэментуюць сям'ю ва ўсіх адносінах. Яны ўмацоўваюць яе сувязь з грамадствам.

Ва ўсе часы ўзнаўленне пакаленняў з'яўлялася галоўнай задачай сям'і. Невыпадкова ва ўсіх народаў існуюць свае звычаі, абрады, звязаныя з нараджэннем дзіцяці. Але ў апошнія дзесяцігоддзі ў многіх краінах дакладна абазначылася тэндэнцыя да зніжэння нараджальнасці. У Беларусі праблема нараджальнасці таксама існуе. Гэта можа адмоўна адбіцца на развіцці эканомікі, культуры, навукі і г. д.



П. Пікасо. Маці і дзіця

Падлічана, што, калі б усе сем'і былі аднадзетнымі, хуткае выміранне насельніцтва Беларусі стала б непазбежным, бо адно дзіця аднаўляе колькасць бацькоў толькі напалову. Калі б ва ўсіх сем'ях было б толькі па двое дзяцей, то ў перспектыве, праз 300 гадоў, засталося б менш за 1 % цяперашняга насельніцтва Зямлі. Гэта адбываецца таму, што не кожная дзяўчына выходзіць замуж, не кожная становіцца маці, таксама як і не кожны юнак становіцца мужам, і не кожны муж становіцца бацькам. Таму, каб не ўзнікала дэмаграфічных праблем, пажадана, каб сям'я арыентавалася на траіх дзяцей.

У аднадзетнай сям'і ўзнікаюць цяжкасці з фарміраваннем асобы дзіцяці. Адзінае дзіця ў сям'і адзінокае. Яно з дзяцінства пазбаўлена зносін з братамі і сёстрамі. Таму нярэдка становіцца эгаістычным, разбэшчаным, канфліктным.

Устаноўлена таксама, што ў сем'ях, у якіх два ці больш дзіцяці, менш скасаванняў шлюбу.

## Жыццё ў любві

У сям'і чалавек упершыню знаёміцца з любоўю. Гэта бацькоўская любоў да дзяцей, дзяцей да бацькоў, мужа і жонкі адзін да аднаго, дзяцей паміж сабой. Любоў у шырокім сэнсе слова і ёсць тая аснова, на якой трымаецца самае моцнае аб'яднанне людзей — сям'я. Менавіта сям'я вучыць чалавека жыць у любві.

Бацькоўская любоў да дзяцей — правобраз любві старэйшых да малодшых. Дзіця — плод кахання, гэтым ён такі дарагі і каштоўны. Яно расце, мужнее, з часам само становіцца паўнакроўным грамадзянінам, бацькам, маці. Але бацькі тым не менш па-ранейшаму клапоцяцца аб тым, каб дзіця было здаровым і жыло шчасліва.

Любоў дзяцей да бацькоў — гэта прыклад адносін малодшых да старэйшых. Дзіця ўяўляе бацькоў як нешта вялікае, незвычайна важнае і каштоўнае, з якім трэба быць пяшчотным, каб не прымусіць пакутаваць ці непакоіцца. Менавіта так адносяцца добра выхаваныя дзеці да сваіх бацькоў і калі вырастаюць.

Любоў дзяцей паміж сабой — гэта любоў да роўнага. Яго асновы таксама закладваюцца ў сям'і.

Каханне мужа да жонкі і жонкі да мужа — гэта форма адносін паміж асобамі рознага полу. Яно больш складанае, чым усякая іншая любоў. Палавое каханне ўзнікае ў момант

# ЛЮБОЎ – АСНОВА СЯМ'І І ШЛЮБУ

**ПРЫХІЛЬНАСЦЬ** ДУШ / РОЗУМУ / ЦЕЛА **НАРАДЖАЕ** ДРУЖБУ / ПАВАГУ / ЖАДАННЕ

**ЛЮБОЎ**

**СЯМ'Я ВУЧЫЦЬ ЧАЛАВЕКА ЖЫЦЬ У ЛЮБВІ**

наступлення фізіялагічнай сталасці чалавека. У палавым каханні, як і ў іншых відах кахання, ёсць элемент ідэальнага, узвышанага ўяўлення. Успомніце пачуццё, што ўспыхнула ў Таццяны Ларынай да Яўгена Анегіна:

> Ты чуть вошел, я вмиг узнала,
> Вся обомлела, запылала
> И в мыслях молвила: вот он!
> Не правда ль, я тебя слыхала:
> Ты говорил со мной в тиши,
> Когда я бедным помогала...

Што ж ідэалізуецца закаханым у іншым чалавеку? Аднаму падабаюцца ў ім вочы, іх колер; другому — колер валасоў, іх даўжыня; трэцяму — грацыёзны поступ, усмешка і г. д. Палкае ўяўленне закаханага ўзводзіць знешнюю прыгажосць у ранг ідэальнай.

Разам з тым шлюб быў бы нетрывалым, калі б галоўным пры выбары сямейнага партнёра была б яго знешняя прывабнасць. Ёсць яшчэ і іншы элемент, які моцна звязвае сямейную пару. Гэта душэўны, духоўны свет закаханых, які дае магчымасць ва ўзаемным адзінстве раскрыцца кожнаму з іх — зведаць радасць жыцця, атрымаць асалоду ад поўнага ўзаемаразумення, зведаць пачуцці суперажывання і спачування, якія напаўняюць іх сэрцы пачуццём дабрыні і пяшчоты. Вельмі правільна ў індыйскім пісанні «Галінкі персіка» гаворыцца:



> Влечения душ порождают дружбу.
> Влечения ума порождают уважение.
> Влечения тела порождают желание.
> Соединение трех влечений порождает любовь.

## Бацькі, дарослыя, дзеці

Амерыканскі псіхолаг Эрык Берн звярнуў увагу на тое, што ў сям'і ў кожнага з нас фарміруюцца тры ўнутраныя духоўныя станы (ядры) адзінага «Я». Ён абазначыў іх як *Бацька* (Б), *Дарослы* (Д) і *Дзіця* (Дз).

Бацька — гэта комплекс маральных норм, перакананняў, жыццёвых прынцыпаў, традыцый і забабонаў, якія атрыманы людзьмі не толькі ад бацькоў, але і ад далёкіх продкаў. Бацькоўскае ядро асобы забяспечвае выхаванне дзяцей. Вучыць іх адчуваць радасць ад працы, прытрымлівацца запаведзей «не забі», «не ўкрадзі» і г. д. Тым самым чалавек, калі пасталее, імкнецца ацэньваць навакольную рэчаіснасць так, як рабілі гэта яго бацькі. Гэта частка ўласнага «Я» — найбольш кансерватыўная ў чалавеку. Памятайце, што ў кожным з нас жыве бацька. Ён уплывае на нашы паводзіны, як правіла, пазітыўна. Аднак, калі мы ведаем пра некаторую кансерватыўнасць гэтай часткі «Я», не трэба слепа пераймаць старыя ўяўленні аб жыцці, таму што вы не ў стане будзеце правільна ацаніць падзеі сённяшняга дня.

Дарослы стан у нашым «Я» — гэта здольнасць асобы атрымліваць, зберагаць і перапрацоўваць інфармацыю на падставе свайго жыццёвага вопыту. Гэта здольнасць аналізаваць





Р э м б р а н т. Вяртанне блуднага сына. 1668—1669 гг.

сітуацыю, быць незалежным ад прадузятасці Бацькі, умець рабіць уласны выбар і самастойна знаходзіць выйсце з цяжкіх сітуацый. Дарослы стан «Я» не мае прамых адносін да нашага ўзросту. Вядомы смелыя паводзіны дзяцей на пажарах; дзеці сачыняюць музыку, пішуць вершы і г. д.

Стан жа Дзіцяці ў нашым «Я» — гэта здольнасць думаць, адчуваць, рэагаваць на падзеі так, як мы рабілі гэта ў дзяцінстве, ва ўзросце ад 2 да 6 гадоў,— імпульсіўна і шчыра. Без такой «дзіцячай» якасці асоба страчвае непасрэднасць пачуццяў, цеплыню, прыгажосць нечаканасці і ператвараецца ў робата. Як хочацца часам і даросламу пагуляць у сняжкі, атрымаць падарунак ад Дзеда Мароза!

Працэс узаемадзеяння паміж усімі трыма часткамі «Я» дазваляе кожнаму з нас знаходзіць аптымальнае выйсце з канфліктных сітуацый, ствараць магчымасці для радасных зносін. У выпадку, калі ўзаемадзеянне паміж часткамі «Я» кожнага, хто ўступае ў зносіны, праходзіць у форме паралельных вектараў, зносіны носяць прыемны і радасны характар.









І насупраць, калі зносіны паміж часткамі «Я» праходзяць у форме вуглавых і крыжаваных вектараў, тады яны носяць канфліктны характар.

Напрыклад, калі Бацька звяртаецца да вас з просьбай як да Дарослага: «Схадзі, калі ласка, у аптэку за лекамі» і ты адказваеш: «Добра, я зараз схаджу», то канфлікту не будзе, таму што ты адказаў яму як Дарослы Бацьку. Але, калі б на яго просьбу ты адказаў як дзіця: «У мяне няма часу. Я хачу пагуляць з сябрамі», тады, безумоўна, узнікла б канфліктная сітуацыя.

**Вывады.** *1. Паўнакроўнае сямейнае жыццё пачынаецца з нараджэння дзіцяці. 2. Каханне ў шырокім сэнсе слова і ёсць тая аснова, на якой трымаецца самы моцны з аб'яднанняў (саюзаў) людзей — сям'я. 3. Спасціжэнне сябе праз фарміраванне ў сям'і ўнутраных духоўных станаў (ядраў) адзінага «Я» (Бацька, Дарослы, Дзіця) вучыць нас зносінам з людзьмі.*

### Слоўнік

**Абрад** — сукупнасць устаноўленых звычаяў, дзеянняў, у якіх увасабляюцца якія-небудзь рэлігійныя ўяўленні ці бытавыя традыцыі.

**Праваобраз** — пажаданы ідэал узаемаадносін паміж людзьмі.

?
1. Колькі дзяцей пажадана мець у сям'і з пункту погляду яе інтарэсаў і грамадства?
2. Якія віды любві існуюць у сям'і?
3. Чаму ўзнікаюць канфлікты ў сям'і і як іх пазбегнуць?

## ПРАКТЫКУМ

### ПАДУМАЙЦЕ

### Сямейныя традыцыі і абрады ў Беларусі

У першую ванну для дзяўчынкі лілі малако, сыпалі цукар, каб была прыгожай і каб яе кахалі; для хлопчыка клалі сталь, каб быў дужым.

У некаторых вёсках, калі купалі дзяўчынку, ваду вылівалі на парог, каб яна, калі вырасце, «не заседзелася ў дзеўках», калі хлопчыка — то пад печ, каб быў добрым гаспадаром.

Вельмі цікавая традыцыя выбару імя для дзіцяці. Да сённяшняга часу дзяцей часта называюць у гонар дзеда ці бацькі. У ёй тым самым прасочваецца жаданне родных перадаць нованароджанаму станоўчыя рысы старэйшага сваяка або як можна даўжэй захаваць памяць аб нябожчыку.

Якія яшчэ сямейныя традыцыі і абрады вам вядомы (вясельныя, радзільныя, памінанне продкаў)?

### ТЭСТ

### «Бацькі і дзеці»

1. Ці лічыш ты, што ў цябе ёсць узаемаразуменне з бацькамі?
2. Ці размаўляеш ты са старэйшымі шчыра, адкрыта, раішся па «асабістых пытаннях»?
3. Ты цікавішся працай сваіх бацькоў?
4. Ці ведаюць бацькі тваіх сяброў?
5. Сябры бываюць у вас дома?
6. Ты дапамагаеш бацькам па гаспадарцы?
7. Табе нудна дома, ты любіш праводзіць свой вольны час па-за домам?
8. Ці ёсць у цябе агульныя са старэйшымі заняткі і захапленні?
9. Ты прымаеш удзел у падрыхтоўцы сямейных свят?
10. А «дзіцячыя святы» ты любіш праводзіць без дарослых?
11. Ты абмяркоўваеш з бацькамі кнігі, што прачытаў?
12. Ты абмяркоўваеш з бацькамі тэлевізійныя перадачы і фільмы?
13. Ці бываеце вы разам у тэатрах, музеях, на выстаўках і канцэртах?



14. Бацькі ходзяць з табой у турпаходы ці на прагулкі?
15. Ты любіш праводзіць выхадныя дні разам з імі ці не?

Сцвярджальны адказ ацаніце двума ачкамі. Калі адказ выражаецца словамі «часткова», «раз ад разу» — адным ачком. Калі ён адмоўны — 0. Падлічыце, колькі ачкоў вы набралі.

Калі больш за 20 ачкоў — вашы адносіны са старэйшымі ў сям'і ў асноўным можна лічыць добрымі.

Калі ад 10 да 20 — адносіны можна ацэньваць як здавальняючыя, але недастаткова рознабаковыя. Падумайце самі, у чым прычына гэтага.

Калі менш за 10 — вашы кантакты з бацькамі яўна недастатковыя. Неабходна вырашаць, як іх палепшыць.

### ПРЫСЛУХАЕМСЯ

***Дарагая тая хатка, дзе радзіла мяне матка.***

***Нашто мне і клад, калі ў дзетках лад?***

***Многа дзяцей — многа клопатаў, але і радасці шмат.***

*Народныя прымаўкі*

***Уславім жанчыну — маці, чыя любоў не ведае перашкод, чыімі грудзямі ўскормлены ўвесь свет! Усё цудоўнае ў чалавеку — ад праменяў сонца і ад малака маці, вось што насычае нас любоўю да жыцця!***

*М. Горкі*

***Адносіны да дзяцей — беспамылковая мера духоўнай годнасці чалавека.***

*Янка Брыль*

***Каханне да бацькоў — аснова ўсіх дабрадзейнасцей.***

*Цыцэрон*

***Стаць бацькам зусім лёгка. Быць бацькам, насупраць, цяжка.***

*В. Буш*

***Любоў і павага да бацькоў без усякага сумнення ёсць пачуццё святое.***

*В. Р. Бялінскі*

*Непавага да продкаў ёсць першая прымета амаральнасці.*

*А. С. Пушкін*

*Віну продкаў выкупляюць нашчадкі.*

*Курцый*

**Што можна прачытаць**

Розинаева Г. Супружество, материнство и отцовство. Мн., 1984.
Сысоў У. М. З крыніц спрадвечных. Мн., 1997.

# § 11. Калі цяжкасці з іншымі

## Што такое канфлікт?

Давайце супаставім некалькі сітуацый: у класе ідзе шумная спрэчка наконт маршруту новага паходу; сусед па парце катэгарычна адмаўляе даць спісаць кантрольную работу па матэматыцы; бацькі не хочуць купляць неабходны, як вам здаецца, відэамагнітафон, а купляюць непатрэбную, як вам здаецца, плацяную шафу. Што агульнае ва ўсіх гэтых знешне розных выпадках? Іх аб'ядноўвае адна з'ява, якую лёгка знайсці,— сутыкненне розных інтарэсаў або, адным словам, канфлікт. *Пад канфліктам разумеюць, як правіла, сутыкненне супрацьлеглых поглядаў і імкненняў; разлад, рознагалоссе, спрэчку, якая пагражае ўскладненнямі.*



Х. Бідструп. Гумарыст

Філосафы вызначаюць канфлікт як крайні выпадак абвастрэння супярэчнасцей. Псіхолагі падкрэсліваюць наяўнасць у канфлікце вострага адмоўнага перажывання, знешне наглядаемых, эмацыянальна афарбаваных перажыванняў чалавека. Канфлікт, гавораць яны, гэта разуменне або боязь хаця б аднаго боку таго, што яго інтарэсы парушае, ушчамляе або ігнаруе іншы бок.

Але, паколькі мы ўсе розныя, нашы мэты і імкненні не супадаюць, у нас рознае разуменне сітуацый і іх вынікаў, сумеснае жыццё людзей без канфліктаў становіцца проста немагчымым. Вось чаму важна навучыцца іх прадугледжваць і кіраваць імі. Канечне, канфлікты бываюць розныя і па характару, і па глыбіні, але ў іх заўсёды ёсць нешта агульнае, што вучоныя называюць *заканамернасцю* або *механізмам.* Вось аб такіх механізмах канфлікту і пагаворым далей.

## Як «пабудаваны» канфлікт

Перш за ўсё пагадзімся з тым, што для разгортвання канфлікту неабходна канфліктная сітуацыя. У яе звычайна ўключаюць *удзельнікаў* сутыкнення і *аб'ект* канфлікту — тое, праз што адбылося сутыкненне. Не ва ўсякім сутыкненні людзі адчуваюць сябе праціўнікамі (зведваюць варожыя пачуцці), таму дакладней вызначыць удзельнікаў канфлікту як *«апанентаў»*, што ў перакладзе з лацінскай мовы азначае «супрацьлеглы праціўнік у спрэчцы». Зрэдку апанентаў у канфліктнай сітуацыі можа быць больш за два.

Апаненты ў канфлікце валодаюць нейкай «вагой», і гэта «вага» вызначае магчымасць перамогі. Звычайна «вагу» звязваюць з аўтарытэтам апанента, з характарам інтарэсаў, якія ён абараняе. Адна справа, калі адстойваюць інтарэсы грамадскія, іншая — калі чые-небудзь асабістыя. У гэтым выпадку размова ідзе не аб праваце апанентаў, а толькі аб значнасці пазіцыі. Веданне або інтуітыўная здагадка аднаго з апанентаў аб гэтых абставінах можа прывесці да хітрасці — «накачвання вагі», калі знарок завышаецца статус сваёй пазіцыі, калі асабісты інтарэс выдаецца за калектыўны або нават дзяржаўны.

«Вага» апанента залежыць таксама ад яго гатоўнасці да сутыкнення і ведання мэт свайго дзеяння.

Як ужо гаварылася, у структуру канфліктнай сітуацыі

ўваходзіць і аб'ект канфлікту — тое, на што накіраваны інтарэс бакоў, якія канфліктуюць. Вызначэнне аб'екта канфлікту заўсёды справа складаная, ва ўсякім выпадку, невідавочная, часам гэта адбываецца ўжо пасля завяршэння канфліктнага ўзаемадзеяння. Бацькі, скажам, могуць папракаць вас за неахайнасць па розных прычынах: праз сваю любоў да чысцаты і парадку, праз свае ўладарныя або педагагічныя меркаванні. Вы ж можаце абараняць у спрэчцы не свае права на беспарадак, як часам думаюць бацькі, а свае права на самастойнасць і роўнасць думак у сям'і. Зразумела, што ад таго, як будзе вызначаны аб'ект канфлікту, залежаць яго развіццё і вынік.

Для таго каб канфліктная сітуацыя пачала дзейнічаць, важна такая характарыстыка аб'екта канфлікту, як яго непадзельнасць, калі ў нас на трох тры яблыкі, тады і магчымасць канфлікту малая. Калі ж яблык адзін... можа пачацца «Траянская вайна».

Рух (дынаміка) канфлікту звязаны з дзеяннем бакоў, якое накіравана на авалоданне аб'ектам або на ўстанаўленне перавагі над праціўнікам. Гэта дзеянне звычайна называюць *інцыдэнтам.* Такім чынам, ***канфлікт** — гэта канфліктная сітуацыя плюс інцыдэнт.* Інцыдэнт можа быць рэальным і ўяўным, выпадковым і заканамерным. Для чалавека, які імкнецца да развіцця канфлікту, любыя абставіны могуць тлумачыцца як інцыдэнт.

Развіццё канфлікту адбываецца, як правіла, па такой схеме: *складванне канфліктнай сітуацыі, развіццё канфліктнай сітуацыі, інцыдэнтныя дзеянні апанентаў, кульмінацыя канфлікту, развязка.*

У апошнія дзесяцігоддзі актыўна развіваецца новы напрамак у псіхалогіі — *канфлікталогія.* Канфліктолагі лічаць, што канфліктаў баяцца не трэба. Супярэчнасці — непазбежны спадарожнік нашага жыцця. Важна ўмець правільна пераўтвараць і паспяхова выкарыстоўваць іх стваральныя магчымасці.

## Як кіраваць канфліктам?

Адна з важнейшых умоў вырашэння канфліктаў — уменне кіраваць сабой. Ацаніць абставіны ў цэлым, усвядоміць свой інтарэс, дакладна вызначыць імкненне апанента, высветліць



аб'ект канфлікту — усё гэта трэба ўмець зрабіць, каб разабрацца ў канфліктнай сітуацыі. Па сутнасці, размова ідзе аб уменні ўсвядоміць вобраз магчымай або рэальнай канфліктнай сітуацыі. Але тут не ўсё так проста, як, напрыклад, з рашэннем інтэлектуальнай задачы, паколькі ў гэтым выпадку мы маем справу з нашымі пачуццямі.

Эмацыянальная сфера чалавека — самае ўразлівае месца ў канфлікце. Паспрабуем гэта высветліць. *Прынята падзяляць усе канфліктныя сутыкненні на дзелавыя і асобасныя.* Апошнія адрозніваюцца ад першых асобым пачуццём варожасці, якое мы адчуваем да апанента. Яны ж вельмі зменлівыя, часта непрадказальныя, цяжка паддаюцца кіраванню.

Варожасць можа выступаць у выглядзе страху, непрыязнасці, зайздрасці, імкнення дагадзіць. Часта яны — знакі таго, што нашы эмоцыі выходзяць з падпарадкавання і пачынаюць намі кіраваць. Гэтыя абставіны набываюць асобае значэнне ў выпадку неабходнасці ўзгодненых сумесных дзеянняў. У выніку развіцця канфлікту па асобаснаму тыпу яны становяцца наўрад ці магчымымі.

Паяўленне варожых пачуццяў гаворыць аб уразлівым самалюбстве, дэфармацыі самаацэнкі, а значыць, аб зусім зразумелым супрацьдзеянні. У выніку можа адбыцца падмена аб'екта канфлікту — яго зместам становіцца барацьба самалюбстваў. Чым больш вострае міжасобаснае сутыкненне, тым больш складанае канструктыўнае вырашэнне канфлікту.

Але, нават калі канфлікт складваецца і развіваецца па асобаснаму тыпу, канфліктолагі лічаць, што, нягледзячы на ўсю яго складанасць, палажэнне можна выратаваць. Так, да інцыдэнту (сутыкнення) важна аб'ектыўна ацаніць канфліктную сітуацыю і свае месца («вагу») у ёй. Часам пераасэнсаванне сітуацыі індывідам вядзе да прадухілення канфлікту. У некаторых выпадках прыходзіцца карыстацца паслугамі трэцяй, незалежнай, асобы. Каб расказаць ёй усё, вам давядзецца рацыяналізаваць (выказаць словамі) сваю эмоцыю, а гэта значыць — усвядоміць яе і, па сутнасці, авалодаць ёю.

Калі канфлікт перайшоў у фазу інцыдэнту, тады лепшым спосабам кіраваць эмоцыяй будзе адтэрміноўка развязкі. У спрэчцы гэта выглядае як затрымка адказу. Час тушыць эмоцыю.

7. Зак. 148.




Але вось канфлікт аказаўся разбуральным, вы не змаглі ім авалодаць. Усё ж не губляйце надзею і пастарайцеся атрымаць з гэтай сітуацыі хоць якую-небудзь карысць. Асэнсоўвайце, аналізуйце тое, што адбылося, але з такой устаноўкай: ці ўсё я зрабіў для таго, каб канфлікт атрымаў больш спрыяльны выхад. Такая ўстаноўка дазволіць спадзявацца на лёгкае завяршэнне наступнай магчымай канфліктнай сітуацыі.



**Вывады.** *1. Супярэчнасці паміж людзьмі ў сваіх вострых формах прымаюць характар канфлікту. 2. Канфлікт ёсць канфліктная сітуацыя плюс інцыдэнт. 3. Канфлікты можна рэгуляваць і кантраляваць.*

**Слоўнік**

**Апанент** — праціўнік у спрэчцы, удзельнік канфлікту.
**Інцыдэнт** — выпадак, здарэнне, сутыкненне.
**Канфлікт** — сутыкненне інтарэсаў, поглядаў і думак людзей.
**Канфліктaлогія** — галіна навукі, якая вывучае канфлікты.

**?**
1. Што такое канфлікт?
2. Якая структура канфлікту?
3. Як можна кіраваць канфліктам?

## ПРАКТЫКУМ

### ПАДУМАЙЦЕ

Якія з прыведзеных выказванняў найбольш разбуральныя ў канфлікце?

1. Не, ты не разумееш, што...
2. Ай, ды кінь ты!
3. Мне здаецца...
4. Ці не памыляюся я, калі мяркую...
5. Чалавеку гавораць, а ён...
6. Калі я цябе правільна зразумеў...
7. Не нярвуйся, але ты не маеш рацыі.

Абгрунтуйце свой пункт гледжання.

### Стоп-практыкаванне

1. Вы адчуваеце, як у вас «закіпае» раздражненне. Вось-вось яно выйдзе наверх.
Скамандуйце сабе: стоп!
2. Падыдзіце да люстэрка, уважліва паглядзіце на свой твар. Спытайце сябе: няўжо гэты раз'юшаны тып з грымасай гневу — я?
3. Задайце сабе пытанне: ці трэба?
Навошта ўсё гэта?
Магчыма, справа не каштуе выедзенага яйка?

У час гэтага практыкавання:

а) не шкадуйце сябе, калі абвінавачваеце іншых;

б) ні ў якім выпадку не пачынайце гаварыць з іншымі людзьмі (нават у думках) да той пары, пакуль раздражненне не пройдзе;

в) калі пачняце гаварыць, сачыце, каб у вашых выказваннях адсутнічала абвінавачванне каго-небудзь у чым-небудзь;

г) пахваліце сябе: вам удалося «праскочыць» небяспечную зону;

д) цяпер час пажартаваць з сябе, паскардзіцца на стомленасць.

Увага!

Вам ужо вядома правіла: калі адчуваеце прыступ гневу, лічыце да дзесяці, а потым пачынайце гаварыць?

Калі гнеў вялікі — лічыце да ста. Паспрабуйце.

**ПРЫСЛУХАЕМСЯ**

***Трэба двое для сваркі, не будзьце ніколі адным з іх.***

*Дж. Лебок*

***Часцей лепш не заўважаць крыўду, чым помсціць за яе.***

*Публій Сір*

***З дваіх, якія сварацца, больш вінаваты той, хто разумнейшы.***

*І. Гётэ*

***Усякі чалавек ведае, што яму трэба рабіць не тое, што раз'ядноўвае яго з людзьмі, а тое, што аб'ядноўвае яго з імі.***

*Л. М. Талстой*

**Што можна прачытаць**

Бабосов Е. М. Основы конфликтологии. Мн., 1997.
Бородкин Ф. М., Коряк Н. М. Внимание: Конфликт! Новосибирск, 1984.
Ушакова Н. В., Козлов Н. И., Егидес А. П. Основы психологии общения. М., 1990.
Крижановская Ю. С., Третьякова В. П. Грамматика общения. М., 1999.



# § 12. Калі цяжкасці з самім сабой

## Ці можна ўступіць у канфлікт з самім сабой?

Большасць з тых, хто прачытае назву гэтага раздзела, мабыць, здзівяцца. Як можна ўступіць у канфлікт з сабой? Гэта можа адбывацца толькі з псіхічна хворым чалавекам, які перапоўнены рознымі галасамі і не ў стане ў хаосе і нагрувашчванні гукаў пазнаць свой асабісты голас. Але ж мы нармальныя людзі!

Аднак і ў нас часта бывае незадаволенасць сабой, сапсаваны настрой, пачуццё вінаватасці або сораму. Адным словам, нават у здаровага чалавека ўзнікаюць унутраныя канфлікты, якія народжаны, напрыклад, нязгоднасцю нашага «Я» з уласнымі несамастойнымі, залежнымі, дзіцячымі паводзінамі. Назавём гэты тып канфлікту *ўнутрыасобасным* або *ўнутрыролевым*. Другі тып канфлікту з самім сабой псіхолагі называюць *міжролевым*, які абумоўлены тым, што розныя людзі па-рознаму, часта супрацьлеглым чынам, прадстаўляюць сабе абавязкі, якія звязаны з адной і той жа роляй. Любы грамадскі стан (напрыклад, вучань) прадстаўляе сабой цэлае мноства адносін («вучань — вучань», «вучань — бацькі», «вучань — адміністрацыя школы»), і ўдзельнікі гэтых груп чакаюць ад вучня паводзін, якія не заўсёды супадаюць (выканання ролі). Так, скажам, у групе равеснікаў можа быць не прынята добра вучыцца, але гэта наўрад ці задаволіць бацькоў.

Міжролевы канфлікт — нязменны спадарожнік нашага з вамі жыцця. Магчымы выпадкі, калі сутыкаюцца нашы ролевыя функцыі і прадстаўленні аб сваім «Я». Мы паважаем сябе за сумленнасць і прынцыповасць, а жыццёвыя абставіны, чаканні людзей навокал дыктуюць нам камфортныя (як усе) паводзіны. Нават канфлікт з іншым чалавекам, як правіла, звязаны з унутраным канфліктам чалавека з самім сабой. Вось толькі прыслухоўваемся мы да сябе не часта.

## Зразумець сябе

Якія ж спосабы вырашэння ўнутрыасобаснага канфлікту, што чалавек выкарыстоўвае для самаарганізацыі і прыняцця рашэння? Іх два: адзін заключаецца *ў валявым намаганні*

і пераадоленні непажаданай тэндэнцыі ў вашым унутраным свеце, другі — на аснове сваіх асабістых каштоўнасных пераваг *у ажыццяўленні выбару*. Пачнём з першага.

Уявіце сабе такую карціну. Мы ўваходзім у краму, якая перапоўнена таварамі. Тут шмат розных рэчаў, якімі нам вельмі хочацца валодаць, і прадаўцоў паблізу не відаць. Як мы паступім у гэтай сітуацыі? Хутчэй за ўсё з палёгкай уздыхнём, калі з'явіцца прадавец, бо ён дапамог нам зняць непрыемнае перажыванне. Імкненне валодаць, яшчэ да з'яўлення работніка крамы, хутчэй за ўсё было блакіравана двума перажываннямі — страхам быць выкрытым у гэтай правіннасці і пачуццём віны нават ад самой думкі, што вы маглі б такое зрабіць. *Наша сумленне — чуткі манометр, які фіксуе любыя маральныя хістанні ўнутранага свету.* Страх звычайна ўзгадняецца з формулай: «Калі не будзе пажаданых паводзін, негатыўныя вынікі наступяць адразу. Адплата непазбежная».

***Віна** — больш складанае і глыбокае перажыванне нашага ўнутранага свету.* Яе існаванне тлумачыцца наяўнасцю ў асобы тых правіл і каштоўнасцей, з якімі яна дастаткова жорстка атаясамлівае сябе. Калі ўзнікае разыходжанне паміж рэальнымі паводзінамі і гэтым атаясамліваннем, на якім уласна і будуецца самапавага, тады прачынаецца сумленне, якое нагадвае чалавеку аб сабе пачуццём віны. Паводзіны не абавязкова павінны быць рэальнымі, яны могуць быць і ў думках. Вы, відаць, заўважалі, што за некаторыя думкі становіцца сорамна.

*Страх і віна, як унутраныя рэгулятары асобага роду, ажыццяўляюць сваю функцыю праз механізм падаўлення, пры дапамозе псіхалагічнага працэсу, які завецца **воляй**.* Страх або віна ад зробленага (пажаданага), але недапушчальнага па грамадскіх або асабістых меркаваннях, можа насычаць энергіяй валявое намаганне, арганізоўваць адпаведныя эталону паводзіны. Так лічаць некаторыя псіхолагі. На іх думку, жаданне, якое выціснута, блакіравана, не знішчаецца канчаткова, яно пераходзіць у падсвядомасць і нагадвае аб сабе «ненарматыўнай» агрэсіяй, нервовым напружаннем. Гэта тым больш прыметна, чым больш патрабавалася намаганняў волі. У выпадку злоўжывання воляй унутраны канфлікт толькі «глыбей хаваецца».

Не заўсёды чалавек можа кантраляваць свае паводзіны






ў выпадку ўнутранага канфлікту праз намаганне волі. Прыхільнікі «схаванага канфлікту» лічаць, што існуе іншая форма валявых паводзін, значна больш дасканалая, чым тая, аб якой ішла гаворка вышэй. Такія паводзіны магчымы таму, што імкненне, якое звязана са значнымі для чалавека мэтамі і задачамі, валодае для яго большай пабуджальнай сілай, чым іншыя патрабаванні і імкненні. Уявіце, напрыклад, урача, які папаў на поле бою пасля страшнай бітвы. Сэнс і мэта яго з'яўлення тут — аказанне дапамогі салдатам, якія

засталіся жывымі. Побач з ім арудуюць марадзёры — вечныя спадарожнікі ўсіх войнаў і катастроф. Яны выхваляюцца нарабаваным дабром, заклікаюць урача рабіць тое ж самае: мёртвым каштоўнасці не патрэбныя. Аднак пабуджальная сіла спакусы блакіруецца ўсведамленнем асобай місіі медыцынскага работніка, і ў выніку заклік марадзёраў не знаходзіць водгуку ў нашага героя, больш таго, нічога, акрамя пагарды да гэтых сцярвятнікаў, ён не адчувае.

На гэтым простым і відавочным прыкладзе лёгка ўбачыць той механізм, які дазваляе па-іншаму вырашыць унутраную канфліктную сітуацыю. Тут ужо разгортваецца не альтэрнатыўны варыянт: або — або. У дадзеным выпадку наш герой пераадольвае канфлікт не шляхам валявога выбару прымальнага спосабу паводзін, а за кошт іншага асэнсавання сітуацыі. У ёй знойдзены другі, *вышэйшы сэнс*, які і пераводзіць унутраны канфлікт у іншую плоскасць аналізу.

Такім чынам, асэнсаванне канфліктнай сітуацыі і самавызначэнне ў ёй на базе ўласных мэт і каштоўнасцей дапамагае нам пераадолець канфліктную супярэчнасць і не шляхам выключэння адной з альтэрнатыў, а шляхам знаходжання новага бачання ўмоў, якія склаліся. На гэта заўсёды патрэбен час, а значыць, рашаючы сэнс набывае паўза, прыпынак.

*Навучыцца рабіць прыпынак, уважліва ўглядацца ў сутнасць унутранага канфлікту і разумець яго* — вось што пажадана кожнаму ў падобных канфліктных абставінах.

**Вывады.** *1. Чалавек нярэдка бывае ў стане канфлікту з самім сабой. 2. Унутрыасобасны канфлікт аслабляецца шляхам валявога намагання і пераасэнсавання канфліктнай сітуацыі.*

### Слоўнік

**Віна** — перажыванне чалавекам неадпаведнасці таму, што ён выбраў для сябе ў якасці абавязковага.

**Самавызначэнне** — унутранае абгрунтаванне і выбар мэты і дзеяння.

**Страх** — эмацыянальная рэакцыя чалавека на пэўную пагрозу.

? 1. Якія тыпы канфліктаў з самім сабой можна выдзеліць?
2. Якія існуюць спосабы вырашэння ўнутрыасобаснага канфлікту?



## ПРАКТЫКУМ

### МІНІ-КУРС САМАПАДТРЫМКІ

Паўтарайце кожны дзень:

**1.** *Да чаго я імкнуся: жыць у міры або канфлікце з самім сабой?*

Калі я імкнуся дасягаць унутранай раўнавагі, буду паступаць так, каб аддаваць сябе людзям, рабіць нешта для іх. Калі я хачу жыць у стане канфлікту з самім сабой, мяне будзе больш займаць спроба нешта атрымаць. У выпадку няўдачы — я буду папракаць лёс, абставіны і людзей, праз якіх, як мне здаецца, я не змог атрымаць жаданае.

Спытайце сябе пра кожнае выказванне: ці з'яўляецца яно адлюстраваннем любві да людзей або да сябе самога? Ці не спрыяе яно паглыбленню ўнутранага канфлікту?

**2.** *Я не ахвяра навакольнага свету.*

Усе падзеі, якія адбываюцца ў знешнім свеце, прымаюць тую або іншую афарбоўку ў залежнасці ад майго ўнутранага стану. Я заўсёды пераношу ў знешні свет тыя думкі, адчуванні і пачуцці, якія ўласцівы мне самому. Сёння я хачу ўбачыць свет па-іншаму, таму што я мяняю свае адносіны да таго, што бачу.

Паўтарайце на працягу дня ў тыя моманты, калі вам здаецца, што вы можаце стаць ахвярай абставін.

Усё рэальнае ў гэтым свеце — мой стан і мая любоў да людзей навокал. Менавіта з гэтага пункту погляду я буду адносіцца да сітуацыі (канкрэтызуйце яе для сябе) або да гэтага чалавека (назавіце яго імя).

**3.** *Я магу адмовіцца ад думак, якія робяць мне балюча.*

Мае думкі або робяць мне балюча, або радуюць мяне. Я пастаянна выбіраю, аб чым думаць, таму што ніхто іншы не зробіць гэты выбар за мяне. Сёння я выбіраю: поўнасцю адмовіцца ад страху, віны і асуджэння — і сябе, і людзей навокал і паўтараю:

Я магу адмовіцца ад усіх думак, якія робяць мне балюча.
Я сам вызначаю свае погляды на жыццё.
Я выбіраю свае адчуванні і настрой.
Я стаўлю перад сабой мэту.
Я атрымоўваю толькі тое, да чаго свядома або несвядома імкнуўся.

ПРЫСЛУХАЕМСЯ

*Чалавек часта сабе злейшы вораг.*

Цыцэрон

*Самы вялікі недахоп людзей заключаецца ў тым, што ў іх шмат маленькіх недахопаў.*

Жан Поль

*Здольнасць да абурэння складае важнейшую частку ўяўлення ўсякага сумленнага чалавека.*

Дж. Лоўэл

*Самае першае і самае важнае ў жыцці — гэта імкнуцца авалодаць самім сабой.*

В. Гумбальт

*Пераадолець сябе і вярнуцца да належнага ў сябе — вось што такое сапраўдная чалавечнасць. Быць чалавечным або не быць — гэта залежыць толькі ад вас саміх.*

Канфуцый

*Той, хто хоча развіваць сваю волю, павінен навучыцца пераадольваць перашкоды.*

І. П. Паўлаў

**Што можна прачытаць**


Зимбардо Ф. Застенчивость. М., 1991.
Семенов В. Д. Быть собой. М., 1989.
Гаджиева Н. М., Никитина Н. Н., Кислинская Н. В. Основы самоусовершенствования. Тренинг самосознания. Екатеринбург, 1998.


# ТЭМА IV ЖЫЦЦЁ ГРАМАДСТВА

## § 13. Чалавек і грамадства

### Мы жывём разам

Старажытнагрэчаскі філосаф Арыстоцель лічыў грамадскае жыццё галоўным адрозненнем людзей і гаварыў, што чалавек — гэта грамадская жывёла. У старажытнасці людзі жылі вялікімі сем'ямі, у якія ўваходзілі не толькі блізкія, але і далёкія сваякі. Сем'і разрасталіся ў вялікія калектывы. Гісторыя сведчыць, што людзі ніколі не жылі паасобку, каб потым аб'ядноўвацца. Мы заўсёды былі разам і толькі з часам маглі адасабляцца ад «статка», ад «натоўпу».

Грамадства вызначаецца, вядома, не колькасцю людзей. І два чалавекі могуць стварыць сям'ю, а тры — пярвічную арганізацыю партыі. Важна не колькасць удзельнікаў, а сувязі, якія наладжаны паміж імі. *Узаемадзеянне дапамагае нам задавальняць асобыя, чалавечыя патрэбнасці.* Нават прасцейшыя патрэбы мы задавальняем падобным чынам: нам неабходна не толькі ежа, але і сервіроўка стала; не проста адзенне, але часам моднае; мы хочам мець не проста жыллё, а «хатні ачаг» — сімвал бяспекі і душэўнага цяпла. Тым больш вышэйшыя імкненні чалавека — любоў, дружба, павага людзей, магчымасць самарэалізацыі — могуць ажыццяўляцца толькі ў грамадстве.

Для жывёл самарэалізацыя не мае сэнсу, кожны трус непазбежна рэалізуе тую ж «праграму», што і іншы трус. Чалавеку важна праявіць сваё індывідуальнае і шматаблічнае «Я». Парадокс заключаецца ў тым, што для гэтага неабходна не адасабляцца ад людзей, а актыўна з імі ўзаемадзейнічаць. У гэтых кантактах мы знаходзім сваю непаўторнасць, а калі дасягаем поспеху — адчуваем значнасць сваёй асобы.

Вядома, чалавеку часам хочацца застацца аднаму, каб разабрацца ў сабе, ды і геніі часта стваралі свае працы ў адзіноцтве. Але гэта не азначае, што яны страчвалі сувязь з ін-

шымі людзьмі. Па-першае, заставацца ў адзіноцтве можна тады, калі ты маеш дастаткова высокі ўзровень культурнага развіцця і можаш развівацца самастойна. Па-другое, калі асоба застаецца адна і разважае аб сабе як аб чалавеку, яна ўстанаўлівае сваё адзінства з людзьмі ў цэлым, з чалавецтвам.

Трэба яшчэ раз задумацца над тым, што грамадства — гэта нешта большае, чым людзі, з якімі мы сустракаемся. Мы падтрымліваем сувязі і аказваем узаемныя паслугі не толькі знаёмым, але і незнаёмым людзям. На працы мы робім тое, што прыносіць карысць усім. Калі мы займаемся сваімі паўсядзённымі справамі, мы ўступаем з людзьмі ў грамадскія зносіны — эканамічныя, сацыяльныя і інш. Мы адчуваем, як адбіваецца на нашым жыцці палітыка, якую праводзяць улады. Такім чынам, ***грамадства** — гэта сістэма разнастайных адносін і ўзаемадзеянняў людзей.* Іх канкрэтную сукупнасць цяпер часта называюць ***соцыумам.*** У нашай кнізе паняцці «грамадства» і «соцыум» ужываюцца як сінонімы.






Свае адносіны мы замацоўваем у розных прадметах, якія ствараем. Будынкі і кнігі, прылады працы і грошы сведчаць: нас зрабіў чалавек. Пакуль мы жывём сярод тварэнняў рук чалавечых, мы адчуваем агульнасць з усімі людзьмі. А калі хто-небудзь гаворыць «мне не даюць жыць па-чалавечаму», гэта значыць, што чалавек адчувае дэфіцыт сацыяльнай падтрымкі, яму не хапае або матэрыяльных даброт, або душэўнай увагі з боку членаў грамадства. Значыць, мы невыпадкова жывём разам, гэта дапамагае нам адчуваць сябе людзьмі ў поўным сэнсе слова.

## Што або хто рухае гісторыю?

*Чалавечае грамадства з часам мяняецца, гэта значыць развіваецца.* Рух у часе называюць ***гісторыяй.*** Гісторыяй таксама называецца навука, якая даследуе гэта развіццё. Адна з асноўных яе праблем заключаецца ў тым, каб зразумець: рухаецца гісторыя сама па сабе ці яе рухаюць людзі? І тое і гэта сцвярджэнне нібыта справядлівае. Сапраўды, кожны чалавек клапоціцца аб сваіх інтарэсах і паступае ў адпаведнасці з імі. Калі б людзі не будавалі, не гандлявалі, не ваявалі, усё гэта не адбылося б само сабой. Гісторыя складаецца з намаганняў жывых людзей.

З другога боку, тое, што ўтвараецца ў выніку дзейнасці чалавека, непадобна на тое, што кожны чакаў. Грамадства ідзе сваім шляхам, які не залежыць ад нашых жаданняў, мы ўдзельнічаем у падзеях, над ходам якіх мы не маем улады. Адзін чалавек і нават арганізаваная група не могуць накіроўваць іх выключна па сваёй волі. Можна пачынаць будаўніцтва, здзяйсняць рэформу або весці вайну, але гэта не значыць, што ўсё пойдзе так, як задумалі ініцыятары. Чым жа вызначаецца сапраўдны ход падзей?

Па гэтым пытанні вучонымі было выказана шмат тэорый. Адны лічылі, што гісторыя развіваецца па вызначанаму плану (боскаму або магічнаму) і людзі, свядома або несвядома, праводзяць гэты план у жыццё. Іншыя думалі, што характар грамадства і яго развіццё вызначаюцца матэрыяльнымі фактарамі. Прырода чалавека (добрая або злая), геаграфічнае месцазнаходжанне і клімат падштурхоўваюць людзей да той ці іншай дзейнасці. Трэція выказалі ідэю аб тым, што заканамернасці гісторыі — гэта раўнадзейная ўсіх намаган-

няў не ўдзельнікаў. Усе інтарэсы, імкненні, эмоцыі складваюцца, «варацца» ў агульным катле, і ў выніку атрымоўваецца падзея. Тэорый грамадскага развіцця сапраўды вельмі шмат, кожная з іх ствралася не на пустым месцы. Усе яны ў нейкай ступені схапілі момант «ісціны», але рэальнасць заўсёды аказваецца больш складанай, чым уяўлялася.

Як мы ўжо адзначалі, мае значэнне і свядомая дзейнасць людзей, і аб'ектыўны ход падзей. Калі народ чаго-небудзь пажадае, яго воля стане непарушным законам (напрыклад, краіна, якая была калоніяй, стане свабоднай). І наадварот: калі наспелі передумовы падзей, тады заўсёды знойдуцца зацікаўленыя асобы і падштурхнуць працэс. Гэта зацікаўленасць невыпадковая, таму што тое, чаго нам хочацца, моцна залежыць ад таго, што ўжо ёсць, ад рэальнага становішча спраў. Вось і атрымоўваецца, што мы імкнёмся да таго ж, да чаго «ідзе гісторыя». Аднак у гэтым руху няма прадвызначанасці. *У гістарычных абставінах закладзены розныя магчымасці іх далейшага развіцця. Выбар даецца асобам, якія дзейнічаюць, без іх удзелу не адбудзецца нават вельмі верагодная падзея.*

## Роля асобы ў гісторыі

Вялікую ролю ў гістарычных пераменах адыгрываюць не толькі масы людзей, але і асобы. Гісторыя ведае прыклады, калі адзін чалавек мяняў увесь ход падзей. Да ліку вялікіх гістарычных асоб часцей за ўсё адносілі цароў і военачальнікаў: Аляксандра Македонскага, Юлія Цэзара, Івана Грознага, Напалеона. Толькі потым сталі звяртаць увагу на тое, што не меншы ўплыў на лёс чалавецтва аказалі людзі навукі: Еўклід са сваёй геаметрыяй, якую мы вывучаем да гэтага часу; М. Капернік, чыё адкрыццё стала сімвалам новага навуковага светапогляду; М. Фарадэй, што вывучаў прыроду электрычнасці, асноўнага віду энергіі, якім карыстаюцца людзі. Вялікае значэнне мелі намаганні мудрацоў, філосафаў, рэлігійных дзеячаў: Канфуцыя і Мухамеда, Лютэра і Гандзі. Здабыць славу можна рознымі шляхамі. Але не трэба паступаць так, як зрабіў Герастрат, які спаліў храм Артэміды Эфескай, каб захаваць сваё імя ў гісторыі. Слава Герастрата — ганьба, яна сведчыць аб нікчэмнасці асобы, а не аб яе вялікасці.



**РУХАЮЧАЯ СІЛА Ў ГІСТОРЫІ ГРАМАДСТВА**

**ГРАМАДСТВА–СІСТЭМА АДНОСІН І ЎЗАЕМАДЗЕЯННЯЎ ЛЮДЗЕЙ**

| НАРОД (МАСЫ ЛЮДЗЕЙ) | АСОБНЫЯ ЛЮДЗІ |
|---|---|

**АСОБАСНАЯ ГРАМАДЗЯНСКАЯ ПАЗІЦЫЯ**

| МАЯ ХАТА З КРАЮ... | КАЛІ НЕ Я, ТАДЫ ХТО? |
|---|---|

**ЖЫЦЬ У ГРАМАДСТВЕ І БЫЦЬ СВАБОДНЫМ АД ГРАМАДСТВА НЕЛЬГА**

*У гісторыі ёсць магчымасць для самавыказвання не толькі вялікіх асоб, але і самых звычайных людзей.* Гісторыя неабыякавая да лёсу асобнага чалавека, бо тое, што робіць кожны з нас, можа быць вельмі важным. Ніхто не ведае, каму дадзена сказаць рашаючае слова ў гісторыі, але кожны павінен імкнуцца гэта зрабіць. Вось чаму важна займаць у грамадстве адказную грамадзянскую пазіцыю, разумець, што гэта тваё грамадства, твая краіна. Трэба самому рашаць, якімі яны будуць. Калі трымацца прынцыпу «мая хата з краю», усё гэта вырашаць другія. Вось чаму *ўсведамленне сябе гістарычнай асобай — гэта не самаўзвышэнне, а адказнасць за тое, што адбываецца ў свеце, у краіне.*

**Вывады.** *1. Чалавек становіцца самім сабой толькі ў грамадстве і дзякуючы яму. 2. Грамадства ёсць сістэма разнастай-*

*ных сувязей паміж людзьмі. 3. Гісторыя мае аб'ектыўныя заканамернасці. 4. Асоба ўплывае на гістарычныя падзеі і нясе за гэта адказнасць.*

**Слоўнік**

**Асоба** — актыўны суб'ект дзейнасці, носьбіт сацыяльна значымых рыс.

**Гісторыя** — развіццё чалавечага грамадства ў суадносінах з прыродай і навука аб гэтым працэсе.

?
1. Як Арыстоцель вызначыў сутнасць чалавека?
2. Што такое «слава Герастрата»?
3. Якія тэорыі аб рухаючых сілах гістарычнага працэсу вам вядомы?
4. Якія асобы аказалі ўплыў на гісторыю?

## ПРАКТЫКУМ

### ПАДУМАЙЦЕ

1. Чалавек жыве ў грамадстве — з каго складаецца ваша грамадства?

2. Нямецкі філосаф Гегель параўноўваў дзеянні чалавека ў гісторыі з дзеяннямі падпальшчыка: адзін селянін ненавідзеў свайго суседа і падпаліў яго хату, але быў моцны вецер, і таму згарэў не толькі гэты дом, але ўся вёска згарэла. Якія гістарычныя наступствы нашых дзеянняў з пункту погляду гэтага прыкладу?

3. Гавораць, што гісторыя вучыць таму, што яна яшчэ ніколі нікога не навучыла. А як вы лічыце?

4. Вялікія асобы аказваюць моцны ўплыў на лёс свету. Ці заўсёды ён станоўчы? Прывядзіце прыклады з гісторыі.

5. «Дзеянні Напалеона і Аляксандра, ад слова якіх залежала, здавалася б, адбудзецца падзея або не адбудзецца,— былі таксама мала адвольнымі, як і дзеянні кожнага салдата, які ішоў у паход па жэрабю або набору. Гэта не магло быць інакш таму, што для таго каб воля Напалеона і Аляксандра... была выканана, неабходна было супадзенне шматлікіх абставін, без адной з якіх падзея не магла адбывацца. Неабходна было, каб мільёны людзей, у руках якіх была сапраўдная сіла... пагадзіліся выканаць гэту волю адзінкавых і слабых людзей і былі прыведзены да гэтага безліччу складаных разнастайных прычын.



Чалавек свядома жыве для сябе, але служыць несвядомым сродкам для дасягнення гістарычных, агульначалавечых мэт... Чым вышэй стаіць чалавек на грамадскай лесвіцы, чым з большымі людзьмі ён звязаны, тым большую ўладу ён мае на іншых людзей, тым відавочней прадвызначанасць і непазбежнасць кожнага яго ўчынку. Гісторыя, гэта значыць, несвядомае, агульнае, роевае жыццё чалавецтва, усякай хвілінай жыцця цароў карыстаецца для сябе як прыладай для сваіх мэт... У гістарычных падзеях так званыя вялікія людзі па сутнасці ярлыкі, што даюць найменне падзеі, якія, таксама як ярлыкі, менш за ўсё маюць сувязі з самой падзеяй». (Л. М. Талстой. «Вайна і мір».)

Прааналізуйце, як трактуе Л. М. Талстой суадносіны свядомай волі людзей з гістарычнай неабходнасцю.

### ТЭМА ТВОРЧАГА САЧЫНЕННЯ

Якую асобу ў гісторыі я лічу вялікай.

### ПРЫСЛУХАЕМСЯ

***Стварае чалавека прырода, але развівае і адукоўвае яго грамадства.***

*В. Р. Бялінскі*

***Ствараецца грамадства пачаткамі маральнасці.***

*Ф. М. Дастаеўскі*

***Пахвальна тое, што маральнае.***

*Андрэй Волан*

***Жыць у грамадстве і быць свабодным ад грамадства нельга.***

*У. І. Ленін*

***Амаль усякі чалавек — асоба; цяжкасць у тым, каб захаваць сваю індывідуальнасць і не стаць пры гэтым ні банальным, ні лёгкаважкім.***

*А. Маруа*

***Не святыя гаршкі лепяць.***

*Руская прымаўка*

8. Зак. 148.

***Чалавек зламысны не можа быць вялікім. Вы вольныя расхвальваць яго дальнабачнасць і шырокія задумы, захапляцца яго дзеяннямі, расхвальваць яго ўменне выбраць найлепшыя сродкі і найбольш кароткія шляхі да мэты, але, калі сама мэта дурная, значыць, яна неразумная, а дзе няма розуму, там няма і вялікасці.***

*Ж. Лабруер*

***Ёсць вялікія людзі сярод маленькіх людзей, а ёсць вялікія людзі сярод вялікіх людзей.***

*Б. Шоў*

***Раб, народ и победитель***
***Осознали уж давно:***
***Высшее земное счастье***
***В личности заключено.***

*І. Гётэ*

**Што можна прачытаць**

Философия истории: Антология. М., 1995.

# § 14. Сферы грамадскага жыцця

## Вытворчая сфера

Як вы ўжо ведаеце, грамадства ўяўляе сабой сістэму ўзаемасувязей паміж людзьмі. Звычайна выдзяляюць чатыры асноўныя віды сацыяльных сувязей, якія і ляжаць у аснове чатырох галоўных сфер грамадскага жыцця — вытворчай, сацыяльнай, палітычнай і духоўнай.

З паняццем «вытворчасць» мы знаёміліся яшчэ ў 8-м класе. *Вытворчасць неабходна для таго, каб забяспечыць чалавецтва дабротамі.* Аднаму можна толькі падтрымаць сваё біялагічнае існаванне, але немагчыма жыць «па-чалавечаму». Людзі ў грамадстве без наладжанай вытворчасці страчваюць усякія сацыяльныя, палітычныя, маральныя сувязі.

Спосаб вытворчасці матэрыяльных даброт можна апісаць як узаемасувязь *прадукцыйных сіл* і *вытворчых адносін.* Прадукцыйныя сілы — гэта ў першую чаргу чалавек з яго ведамі, уменнямі і навыкамі, ён — галоўны фактар вытворчасці. Чалавек выкарыстоўвае прылады працы — ад простых інструментаў да складаных тэхнічных прылад. З іх дапамогай ён уздзейнічае на *прадмет працы* і атрымоўвае неабходны прадукт. Адзінства *сродкаў працы* (да іх, акрамя прылад, адносяцца будынкі, транспарт, сувязь), прадмета працы і чалавека з яго інтэлектуальным патэнцыялам і вытворчым вопытам утварае прадукцыйныя сілы грамадства.



У працэсе вытворчасці людзі ўступаюць у адносіны паміж сабой. Самыя важныя з іх — адносіны ўласнасці. Хто з'яўляецца ўласнікам сродкаў вытворчасці, той аказваецца і ўласнікам прадукта вытворчасці, уплывае на далейшы працэс яго размеркавання, абмену і спажывання ў грамадстве. Таму важна, каб вытворчыя адносіны былі наладжаны па магчымасці справядліва. Таксама важна, каб яны былі натуральнымі, а не навязваліся эканоміцы па чыёй-небудзь волі.

## Сацыяльная і палітычная сферы

Нашы адносіны паміж сабой залежаць ад асаблівасцей кожнага з нас. Але нават вельмі арыгінальны чалавек мае нешта агульнае з іншымі людзьмі, з тымі, з якімі ён утварае сацыяльную групу (слой). Узаемадзеянне гэтых груп і ўтварае *сацыяльную структуру грамадства.*

Ёсць групы, якія створаны як бы прыродай: мужчыны і жанчыны (па полу), дзеці, падлеткі, моладзь, дарослыя, старыя (па ўзросце). Другі від сацыяльных груп, якія гістарычна склаліся,— *этнічны.* У старажытнасці гэта былі роды і плямёны, затым народнасці і нацыі. Кожны з нас адчувае сваю прыналежнасць да такой групы, і гэта адчуванне называецца *нацыянальнай самасвядомасцю.* Сутнасць яго не толькі ў гордасці за свой народ, але і ў адчуванні духоўнай самакаштоўнасці кожнага этнасу. Таму этнічныя групы, якія моцна адрозніваюцца паміж сабой, валодаюць у чалавечым грамадстве роўнымі правамі і статусам.

Выдзяляюць таксама сацыяльныя групы па спосабу валодання маёмасцю (класы), па месцы жыхарства (горад або вёска), па прафесіі, па месцы ў кіраванні, па памеры даходаў і г. д. У кожнай групе ёсць свае асобыя інтарэсы. Каб іх рэалізаваць і абараніць, прадстаўнікі розных груп (слаёў) грамадства імкнуцца да ўлады. *Сфера барацьбы за дзяржаў-*

*ную ўладу называецца* ***палітыкай***, а палітычныя адносіны ў многім вызначаюць рух грамадства ў цэлым. Ад таго, хто стаіць ля штурвала, залежыць, куды плывуць усе. Але трэба памятаць, што гісторыя і чалавечае жыццё не складаюцца з адной палітыкі, яна толькі сродак дасягнення вызначаных інтарэсаў.

## Духоўная сфера

Людзі не толькі вырабляюць, спажываюць або імкнуцца да ўлады — «не хлебам адным жыве чалавек». Грамадства — гэта яшчэ і духоўная ўзаемасувязь, сувязь розумаў, калі мы, як істоты разумныя, здзяйсняем сваю здольнасць да мыслен-








**ня.** Калі духоўная ўзаемасувязь распадаецца, ніякая эканамічная неабходнасць не здольная ўтрымаць грамадства ў цэласнасці. Вялікія імперыі распадаліся таму, што іх духоўныя каштоўнасці страчвалі прывабнасць.

Духоўныя адносіны ў грамадстве не абмяжоўваюцца міжасобаснымі сувязямі і ўзаемаразуменнем паміж канкрэтнымі людзьмі. Часта кантакт ажыццяўляецца завочна: праз сродкі масавай інфармацыі, праз творы мастацтва, праз навуковыя веды. Калі мы атрымоўваем адукацыю, мы падключаемся да рэзервуара духоўнага жыцця, засвойваем яго каштоўнасці і пры гэтым «адукоўваем» саміх сябе. Вось чаму духоўная сфера такая важная для асобы. Калі іншыя сферы служаць сродкам для самавыказвання, тады духоўнае развіццё свайго **«Я»** — гэта мэта. У сацыяльнай сферы мы разыгрываем розныя ролі, у духоўнай — кожны становіцца сам сабой.

Такім чынам, грамадскае жыццё складаецца з чатырох сфер: вытворчай, сацыяльнай, палітычнай і духоўнай. Усе яны важныя, усе яны ўзаемазвязаныя і ўплываюць адна на адну.

## Грамадска-эканамічная фармацыя

Сацыялогія (ад *лац.* societas — грамадства і logos — слова, вучэнне) ужо даўно спрабуе выявіць у грамадстве тое, што дазваляе яму функцыяніраваць у якасці цэлага. Так, англійскі сацыёлаг Г. Спенсер параўноўваў грамадства з жывым арганізмам. Ён лічыў, што грамадства складаецца з індывідаў і функцыяніруе падобна таму, як функцыяніруе арганізм, які складаецца з клетак.

Аднак многіх вучоных не задавальняе погляд на грамадства як на арганізм. Яны імкнуцца знайсці ўласна сацыяльныя фактары, якія аб'ядноўваюць людзей у іх сумесным жыцці. Такімі фактарамі яны лічаць рэлігійныя, маральныя або палітычныя каштоўнасці, якія падзяляе большасць людзей. Напрыклад, руска-амерыканскі сацыёлаг П. Сарокін выдзяляў у гісторыі суперсістэмы, у аснове якіх ляжаць тыя тыпы светапогляду, якія пераважаюць.

Яшчэ адна група сацыёлагаў (у тым ліку французскі вучоны А. Турэн) прытрымліваецца думкі, што характар грамадскага ўладкавання вызначае тэхніка і тэхналогія. У залежнасці ад іх развіцця і ўплыву на жыццё чалавека яны



Карл Маркс

даюць наступную перыядызацыю гісторыі: «даіндустрыяльнае грамадства», «адзінае індустрыяльнае грамадства», «постіндустрыяльнае грамадства».

Згодна з матэрыялістычным тлумачэннем гісторыі, якое прапанаваў у XIX ст. К. Маркс, фундаментам сацыяльнага будынка з'яўляюцца не самі па сабе прылады працы і тэхналогія, а ў цэлым спосаб вытворчасці матэрыяльных даброт. На яго думку, узровень развіцця прадукцыйных сіл і асабліва характар вытворчых адносін вызначаюць, якія будуць у грамадстве сацыяльныя групы (класы), які тып дзяржавы, рэлігіі і маралі будзе перамагаць. Сацыяльнае цэлае, якое арганізавана на такіх пачатках, К. Маркс называў *грамадска-эканамічнай фармацыяй.*

З ростам прадукцыйных сіл старыя вытворчыя адносіны пачынаюць тармазіць развіццё вытворчасці. Напрыклад, вытворчасць у эпоху феадалізму ажыццяўлялася ў невялікіх майстэрнях рамеснікаў, дзе ўсё рабілі ўручную і амаль не было падзелу працы. З развіццём машыннай вытворчасці, калі на змену майстэрні рамесніка прыйшлі спачатку мануфактура, а затым фабрыка, сталі фарміравацца капіталістычныя вытворчыя адносіны, заснаваныя на шырокім падзеле працы і рыначных механізмах. У выніку адбылася змена грамадска-эканамічнай фармацыі, змяніўся ўвесь лад грамадскага жыцця, дзе замест рамесніка з яго чаляднікамі і вучнямі з'явіліся прадпрымальнік (уласнік сродкаў вытворчасці) і наёмны рабочы. З гэтага пункту погляду ўся гісторыя напамінае прыступкі, па якіх чалавецтва ўзвышалася да больш дасканалых форм грамадства.

Згодна з тэорыяй К. Маркса, у гісторыі выдзяляюць *першабытнаабшчынную, рабаўладальніцкую, феадальную, капіталістычную* і *камуністычную* фармацыі. Акрамя гэтага, К. Маркс часам лічыў магчымым вычляняць у эвалюцыі чалавецтва такія перыяды, як першасная (архаічная), другасная (эканамічная) і трацічная (камуністычная) грамадскія фармацыі.

Такім чынам, тэорыя грамадска-эканамічных фармацый дазволіла яе аўтару выдзеліць фактар, які аб'ядноўвае соцыум у адзінае цэлае (спосаб вытворчасці), і растлумачыць механізм змены грамадскіх сістэм, выдзеліць агульныя для ўсіх народаў заканамернасці ў іх руху па шляху прагрэсу.

**Вывады.** *1. Духоўная культура, палітыка, сацыяльныя адносіны, вытворчасць — асноўныя сферы жыцця грамадства. 2. Грамадска-эканамічная фармацыя — грамадства, якое знаходзіцца на вядомай ступені развіцця, што вызначаецца спосабам вытворчасці, які пераважае*

**Слоўнік**

**Вытворчасць** — грамадскі працэс стварэння матэрыяльных даброт.

**Грамадства** — сістэма адносін і ўзаемадзеянняў людзей.

**Духоўны** — нематэрыяльны, які адносіцца да вышэйшых здольнасцей чалавечай свядомасці.

**Палітыка** — сфера дзейнасці людзей па заваяванні, утрыманні і выкарыстанні дзяржаўнай улады.

**Сацыяльная група** — сукупнасць людзей, якія аб'яднаны агульнымі прыметамі, інтарэсамі.

**Соцыум** — грамадства.

**?**
1. Якія існуюць віды грамадскіх адносін?
2. Што такое грамадска-эканамічная фармацыя?
3. Якія грамадска-эканамічныя фармацыі вядомы ў гісторыі чалавецтва?

## ПРАКТЫКУМ

### ПАДУМАЙЦЕ

1. Я глыбока перакананы, што велізарныя матэрыяльныя перспектывы, якія змяшчае ў сабе навукова-тэхнічны прагрэс, пры ўсёй іх выключнай важнасці і неабходнасці, не вырашаюць усё ж лёс чалавецтва самі па сабе. Навукова-тэхнічны прагрэс не

прынясе шчасця, калі не будзе дапаўняцца надзвычайна глыбокімі зьмяненнямі ў сацыяльным, маральным і культурным жыцці чалавецтва.

*А. Д. Сахараў*

На якую супярэчнасць нашага часу ўказвае вядомы вучоны і грамадскі дзеяч?

2. У згуртаваннях жывёл ёсць свая «іерархія» (у чарадзе — важак, у рабочых пчол — матка).

Чым, на вашу думку, адрозніваюцца сацыяльныя групы людзей ад «іерархіі» ў жывёл?

**ПРЫСЛУХАЕМСЯ**

***Грамадства не складаецца з індывідаў, а паказвае суму тых сувязей і адносін, у якіх гэтыя індывіды знаходзяцца адзін да аднаго.***

*К. Маркс*

***Мы нарадзіліся, каб жыць разам; наша грамадства — купал з камянёў, які разваліўся б, калі б адзін не падтрымліваў другога.***

*Сенека*

***Калі б не існавала такіх кропак, у якіх зыходзіліся б інтарэсы ўсіх, не магло б ісці і размовы аб якім-небудзь грамадстве.***

*Ж. Ж. Русо*

***Прагрэс — не выпадковасць, а неабходнасць.***

*Г. Спенсер*

***Прагрэс грунтуецца на разумовым развіцці, карэнны бок яго заключаецца ў поспехах і развіцці ведаў.***

*М. Г. Чарнышэўскі*

**Што можна прачытаць**

Маркс К. К критике политической экономии. Предисловие // Маркс К., Энгельс Ф. Соч. Т. 13.

Основы современной философии. СПб., 1999.



# § 15. Цывілізаванае грамадства

## Альтэрнатывы варварству

У гісторыі грамадства выдзяляюцца не толькі агульныя з'явы і структуры, якія паўтараюцца (напрыклад, фармацыйныя ступені), але і асаблівыя і нават адзіночныя, непаўторныя рысы. Да апошніх адносяцца ў першую чаргу спецыфіка культуры, лад жыцця людзей, тыпы тэхналогій, традыцыі, звычаі і абрады народаў свету. Яны захоўваюць самабытнасць культуры асобных народаў і перадаюцца нашчадкам як унікальны вопыт. У цэлым гэта дае магчымасць уявіць *культурна-гістарычны працэс як адзінства разнастайнага,* што і перадаецца ў паняццях «грамадска-эканамічная фармацыя» і «цывілізацыя» (цывілізаванае грамадства).

Калі мы гаворым аб грамадстве людзей і выкарыстоўваем тэрмін «грамадска-эканамічная фармацыя», мы разглядаем



яго ў першую чаргу з пункту гледжання развіцця і змены тыпаў вытворчасці і форм уласнасці. Успомніце з курса сусветнай гісторыі: першабытны лад — абшчынная ўласнасць, эпоха рабаўладальніцтва — поўная ўласнасць рабаўладальніка на сродкі вытворчасці і раба, перыяд феадалізму — поўная ўласнасць феадала на сродкі вытворчасці і няпоўная на работніка — прыгоннага селяніна.

Пры цывілізаваным падыходзе праяўляюцца іншыя істотныя грані соцыума. Тут важныя перш за ўсё якасныя адрозненні ў духоўнай і матэрыяльнай культуры народаў, спосабе і ўзроўні жыцця людзей, а таксама ў сацыяльна-палітычных інстытутах, норавах і традыцыях этнасаў.

Само паняцце ***«цывілізацыя»*** (ад лац. civilis — грамадзянскі, дзяржаўны) з'явілася яшчэ ў сярэдзіне XVIII ст. Тады яго трактавалі як альтэрнатыву «варварству». Але і да сённяшняга дня захавалася паняцце цывілізацыі як асобай, больш высокай стадыі ў жыцці грамадства. Таму ў яго гісторыі выдзяляюць этапы дзікасці, варварства і цывілізацыі. *Дзікасць* — гэта эпоха, калі пераважае прысвойваючая гаспадарка, калі людзі прысвойвалі «дары прыроды». *Варварства* — час, калі пераважае жывёлагадоўля і земляробства. *Цывілізацыя* — гэта перыяд, калі з'яўляюцца рамёствы, гарадскія пасяленні, развіваюцца сродкі працы, прамысловая вытворчасць, мастацтва, навукі.






Цывілізаванае грамадства, якое сфарміравалася ў перыяд Новага часу, працягвае развівацца. Пры гэтым адрозніваюць такія яго тыпы, як *традыцыйнае* і *тэхнагеннае.* Некаторыя сучасныя сацыёлагі, напрыклад амерыканскі гісторык і сацыёлаг О. Тофлер, трактуюць цывілізаванае развіццё як хвалі, што змяняюць адна адну: *аграрна-рамесная, індустрыяльная, постіндустрыяльная.* Постіндустрыяльная цывілізацыя характарызуецца шырокай аўтаматызацыяй дзейнасці чалавека на аснове інфармацыйных тэхналогій. Сёння, па перакананні шэрага вучоных, чалавецтва ідзе да ўстанаўлення на Зямлі адзінай формы існавання грамадства — *інфармацыйна-камп'ютэрнай цывілізацыі.*

## Культурна-гістарычны тып

Рускі вучоны М. Я. Данілеўскі (1822—1885) выказаў сваю трактоўку цывілізацыі. У ёй ён зрабіў упор не столькі на фіксаванні вызначанай стадыі гісторыі чалавецтва, колькі на выяўленні асаблівасцей культуры і грамадскага жыцця асобных рэгіёнаў, краін і народаў. *У сваёй тэорыі М. Я. Данілеўскі назваў цывілізацыю культурна-гістарычным тыпам* і вызначыў у якасці адасобленых цывілізацый егіпецкую, кітайскую, індыйскую, яўрэйскую, германа-раманскую і інш.

Англійскі гісторык А. Тойнбі (1889—1975) разглядаў гістарычны працэс як кругазварот лакальных цывілізацый, якія змяняюць адна адну (*кітайскай, вавілонскай, егіпецкай, антычнай, арабскай, заходнееўрапейскай, руска-сібірскай* і інш.), праходзяць усе стадыі ад нараджэння да разлажэння. Сапраўды, усе вышэйпералічаныя цывілізацыі мелі свой самабытны характар праз некаторую адасобленасць (у часе і прасторы), адрозніваліся своеасаблівасцю перш за ўсё ў сістэме фундаментальных каштоўнасцей.

Напрыклад, для старажытнагрэчаскай цывілізацыі была характэрна полісная арганізацыя жыццядзейнасці людзей. Ёй былі ўласцівы рысы, адзінства якіх перадае своеасаблівасць дадзенага тыпу грамадскага ўладкавання: грамадзянская абшчына, заснаваная на прыватнай і дзяржаўнай уласнасці; Народны сход як вярхоўны орган кіравання; роўнасць правоў грамадзян поліса; адносная аўтаномія ўласнікаў

і інш. У сістэме каштоўнасцей поліс выступаў як вышэйшае дабро, а дабро індывідаў звязвалася з дабрабытам цэлага — поліса.

Адметныя рысы ўласцівы і сучаснай заходняй цывілізацыі: імкненне да пастаяннага абнаўлення, прагматызм, высокі ўзровень навукі і тэхналогіі, развіццё камунікацый, дамінаванне горада ў культурным жыцці грамадства. Прасочваецца тэндэнцыя да фарміравання адзінай эканамічнай, ваеннай, палітычнай і культурнай прасторы: утварэнне наддзяржаўных арганізацый, адзінай валюты і інш.

## Супярэчнасці сучаснай цывілізацыі

Адасобленасць ранніх цывілізацый чалавецтва адыходзіць у мінулае. Сучасны свет становіцца ўсё больш узаемазалежным. Сёння існуючыя розныя цывілізацыі, народы, культуры ўсё бліжэй аб'ядноўваюць развіццё сучаснай тэхнікі, навукі і тэхналогіі, патокі інфармацыі праз тэлебачанне і Інтэрнэт, адукацыя, спорт, турызм, міжнародныя інстытуты (ААН, ЮНЕСКА і інш.). Важнымі інтэграцыйнымі каштоўнасцямі становяцца правы чалавека, клопат аб захаванні навакольнага асяроддзя, мір паміж народамі і інш.

Між тым у развіцці сучаснага цывілізаванага грамадства ўсё больш праяўляюцца крызісныя з'явы і глыбокія супярэчнасці.

Бытавы камфорт і якасць жыцця часта дасягаюцца коштам разбурэння прыроды. Стандартызацыя і ўсё больш хуткі рытм жыцця сутыкаюцца з натуральным імкненнем чалавека захаваць сябе, сваю непаўторнасць. Так і ў адносінах народаў, нацый. Панаванне каштоўнасцей заходняй цывілізацыі вядзе да сцірання нацыянальна-культурных своеасаблівасцей народаў.



На занятках у школе





Мінск. Мікраараён «Усход»

Праблема захавання каштоўнасцей сваёй нацыянальна-культурнай самабытнасці стаіць перад многімі народамі. Актуальная яна і для нашай краіны, таму што Беларусь знаходзіцца на скрыжаванні культурных уплываў Захаду і Усходу, Поўначы і Поўдня.

Небяспечнасці і супярэчнасці сучаснай цывілізацыі востра ставяць пытанне аб прагрэсе чалавечага згуртавання. Прагрэсам, як вядома, называюць рух наперад, да больш дасканалага стану грамадства. З чаго ж сёння трэба зыходзіць пры вызначэнні «прагрэсіўнасці» згуртавання? З аднаго боку, калі браць асобныя бакі сучаснага грамадскага жыцця (напрыклад, прадукцыйныя сілы), відавочна, што яно ў параўнанні з папярэднімі цывілізацыямі пайшло далёка ўперад. Але, з іншага боку, разам з больш дасканалымі прыладамі працы чалавек стварыў і не менш дасканалыя сродкі для свайго знішчэння. А сённяшнія вострыя агульначалавечыя праблемы: экалагічная, харчовая, дэмаграфічная, энергетычная і іншыя гавораць аб тым, што карысць ад прагрэсу зводзіцца толькі да ўзроўню тэхнічнага развіцця. Прагрэс — з'ява вельмі супярэчлівая. У гэтай сувязі не менш важнай умовай прагрэсу з'яўляецца гарманічны, адносна раўнаважны стан узаемаадносін чалавека, прыроды і сацыяльнага свету. Гэта значыць, што ў аснову прагрэсу павінен быць закладзены прынцып гуманістычнага, цэласнага, гарманічна-

га ўзаемадзеяння чалавека, грамадства і прыроды ва ўсёй разнастайнасці іх адносін.

**Вывады.** *1. Тэрмін «цывілізацыя» ў сучаснай сацыялогіі мае два значэнні: а) як больш высокая стадыя гістарычнага развіцця чалавецтва; б) як культурна-гістарычны тып. 2. Тое грамадства больш прагрэсіўнае, у якім больш паспяхова дасягаецца гармонія паміж чалавекам, грамадствам і прыродай.*

## Слоўнік

**Культура** — усеагульная форма адносін чалавека да свету, якая прадстаўлена ў вышэйшых дасягненнях творчай дзейнасці, мера развіцця чалавека.

**Прагматызм** — (ад *грэч.* pragma, pragmatos — справа, дзеянне) устаноўка выключна на выгаду, на асабістую карысць.

**Традыцыя** — універсальная форма перадачы культурнага вопыту.

**Цывілізацыя** — грамадства з развітой самабытнай культурай, якое супрацьстаіць дзікасці і варварству; асобы культурна-гістарычны тып.

?

1. Якія існуюць вызначэнні цывілізацыі?
2. Як вы думаеце, што агульнае і што рознае ў паняццях «культура» і «цывілізацыя»?
3. Што такое прагрэс? Як вы яго разумееце ў дачыненні да сучаснай цывілізацыі?

## ПРАКТЫКУМ

### ПАДУМАЙЦЕ

1. Англійскі гісторык і сацыёлаг А. Тойнбі вызначыў цывілізацыю як «непадзельную цэласнасць, якая складаецца з узаемазвязаных і ўзаемазалежных частак».

Вы можаце назваць гэтыя часткі?

2. Тэхналогія прапануе вам больш значныя інфармацыйныя і камунікацыйныя рэсурсы, чым калі-небудзь мела чалавецтва. Гэтыя рэсурсы такія вялікія, што відавочна: мы ўступаем у новую эру — інфармацыйнае стагоддзе... Яна — толькі адна яго характарыстыка з цэлага веера магчымасцей: асноўным відам яго эканамічнай дзейнасці ва ўсё ўзрастаючай ступені становіцца вытворчасць, захаванне і распаўсюджванне інфармацыі.

*У. Дайзард*



Дапоўніце характарыстыку інфармацыйнага грамадства.

Як уплываюць сучасныя інфармацыйныя тэхналогіі, сродкі масавай камунікацыі на наша з вамі жыццё?

3. Са смяротных грахоў цывілізаванага чалавецтва — гэта 1) перанасяленне Зямлі; 2) спусташэнне натуральнай жыццёвай прасторы; 3) бег чалавецтва наперагонкі з самім сабой, які падштурхоўвае развіццё тэхнікі і не пакідае часу для асэнсавання таго, што адбываецца; 4) знікненне моцных пачуццяў; 5) генетычная дэградацыя; 6) разрыў з традыцыяй; 7) уніфікацыя поглядаў, культур, амасаўленне свядомасці; 8) ядзерная зброя.

*К. Лорэнц*

У чым сутнасць кожнага з «грахоў»? Як ад іх пазбавіцца чалавецтву?

4. Арганізуйце канферэнцыю: «Сучасная цывілізацыя і яе супярэчнасці».

### ПЫТАННІ ДА ДЫСКУСІІ

Якія культурна-цывілізацыйныя прыметы характэрны для Беларусі? У чым іх самабытнасць?

Што збліжае нашу краіну з іншымі цывілізацыямі?

### ПРЫСЛУХАЕМСЯ

***Важнейшая задача цывілізацыі — навучыць чалавека думаць.***

*Т. Эдысан*

***Цывілізацыя — гэта бесперапынны пошук мірных шляхоў вырашэння канфліктаў, усеагульнае імкненне да міру.***

*М. Эскалі*

***Мір — дабрадзейнасць цывілізацыі, вайна — яе злачынства.***

*В. Гюго*

***Прагрэс навукі і машын — гэта карысны сродак. Але адзінай мэтай цывілізацыі з'яўляецца развіццё чалавека.***

*Э. Флаяна*

*Сэнс жыцця нашага — бесперапынны рух.*

*Якуб Колас*

*Прагрэс чалавецтва заключаецца ў ліквідацыі ўсяго, што ставіць у залежнасць і падпарадкаванне чалавека ад чалавека, адзін клас ад іншага класа, адзін пол ад іншага полу.*

*А. Бебель*

*Прагрэс заключаецца ва ўсё большай і большай перавазе розуму над жывёльным законам барацьбы.*

*Л. М. Талстой*

**Што можна прачытаць**


Боннар А. Греческая цивилизация. М., 1995.
Древние цивилизации / Под ред. Г. М. Боггард-Левина. М., 1991.
Цивилизации современного Запада. М., 1992.


# ТЭМА V ГРАМАДСТВА І ДЗЯРЖАВА

## § 16. Што такое дзяржава?

### Важнейшы элемент палітычнай структуры

Сучаснае цывілізаванае грамадства мае развітую палітычную структуру, якая забяспечвае спалучэнне інтарэсаў розных груп людзей і здзяйсняе рэгуляванне сацыяльных працэсаў. *Важнейшы элемент палітычнай структуры — дзяржава.* У яе таксама ўваходзяць палітычныя партыі, грамадскія арганізацыі і рухі, прафсаюзы і г. д., якія ўтвараюцца з мэтай уздзеяння на дзяржаўную ўладу.

Дзяржава існавала не заўсёды. Яна ўзнікла як вынік натуральнага развіцця грамадства ў працэсе распаду першабытнага ладу. Прычын для гэтага было шмат: ускладненне ўсіх умоў жыцця людзей, паглыбленне грамадскага падзелу працы, узнікненне прыватнай уласнасці, класаў і эксплуатацыі, пашырэнне гаспадарчых і іншых сувязей, сканцэнтраванне функцый кіравання ў асобных людзей.

Што такое дзяржава? Ёсць шмат вызначэнняў. Але галоўнае з іх тое, што *дзяржава — гэта арганізацыя, якая вылучылася з грамадства і гістарычна абумоўлена яго эканамічным ладам.* Ажыццяўляючы палітычную ўладу пры дапамозе спецыяльнага апарату, дзяржава абараняе грамадскія адносіны, якія пануюць. У той жа час яна выступае і як афіцыйны прадстаўнік усяго грамадства.

Якія ж асноўныя прыметы дзяржавы? Гэта перш за ўсё — асаблівая сістэма органаў і ўстаноў, якія здзяйсняюць функцыі дзяржаўнай улады (парламент, урад, мясцовыя органы ўлады). Далей — гэта вызначаная тэрыторыя, на якую распаўсюджваецца кіраванне дзяржавы. Для ажыццяўлення ўлады дзяржава мае яшчэ неабходныя органы і сродкі (*армія, паліцыя, служба бяспекі, суд* і г. д.). Яна мае манаполію на выданне законаў і прававых актаў, якія абавязковыя для ўсяго насельніцтва. Калі казаць коратка, то ***дзяржава** — гэта асаблівая арганізацыя палітычнай улады, якая афіцыйна*

*прадстаўляе ўсё грамадства, валодае апаратам прымусу, суверэнітэтам і надае сваім распараджэнням агульнаабавязковы характар.*

Для чаго неабходна дзяржава ў нашы дні, якія яе функцыі? Аб некаторых з іх вы можаце, відаць, сказаць самі. Так, дзяржава клапоціцца аб адукацыі насельніцтва, аб захаванні і развіцці нацыянальнай культуры і традыцый народа. Яна кантралюе захаванне грамадзянамі прававых норм, збірае падаткі, прадстаўляе інтарэсы краіны ў міжнародных арганізацыях, абараняе свае межы. Дзяржава перш за ўсё забяспечвае нармальнае функцыяніраванне палітычнай сістэмы, якая склалася, рэгулюе эканамічныя і сацыяльныя адносіны.

## Арганізацыя дзяржаўнай улады

Для выканання сваіх шматлікіх функцый дзяржава фарміруе комплекс спецыяльных органаў і ўстаноў. У сукупнасці яны ўтвараюць арганізацыйную структуру дзяржавы. У сучасным грамадстве гэта перш за ўсё *прадстаўнічыя органы дзяржаўнай улады.* Яны падзяляюцца на мясцовыя (тэрытарыяльныя) і вышэйшыя органы ўлады. Іх прызначэнне — непасрэднае кіраванне справамі краіны. Органы дзяржаўнай улады ажыццяўляюць заканадаўчую, выканаўчую і судовую дзейнасць. Зараз у большасці краін свету, у адпаведнасці з гэтымі трыма асноўнымі функцыямі органаў дзяржаўнай улады, прыняты *прынцып падзелу ўлад.* Гэты прынцып стварае сістэму свайго роду стрымання і процівагі ў ажыццяўленні ўлады трыма яе галінамі, надзейна гарантуе захаванне правоў чалавека, вызначае функцыі палітычных органаў.

*Парламент* распрацоўвае і прымае законы. *Урад* і органы мясцовай выканаўчай улады рэалізуюць прынятыя законы і пастановы на тэрыторыі краіны і ва ўзаемаадносінах з іншымі дзяржавамі. *Органы судовай улады* ажыццяўляюць правасуддзе, вырашаюць канфлікты і спрэчкі, караюць за парушэнне законаў.

У састаў дзяржавы, акрамя прадстаўнічых устаноў, уваходзяць таксама пракуратура, органы кантролю і аховы грамадскага парадку (міліцыя, паліцыя), органы дзяржаўнай бяспекі, узброеныя сілы (армія).

Гісторыі вядомы розныя тыпы дзяржаў, што звязана з характарам сацыяльна-палітычных адносін, якія яны рэгулю-






юць: дзяржавы рабаўладальніцкія, феадальныя, буржуазныя і сацыялістычныя. Зразумела, могуць быць і розныя іх мадыфікацыі, пераходныя тыпы дзяржаў. Таму вельмі важна выяўляць канкрэтную своеасаблівасць функцыяніравання той або іншай дзяржавы. Гэта залежыць ад яе формы. Паняцце «форма дзяржавы» дастаткова ёмістае. Па-першае, яно абазначае форму кіравання ў краіне, спосаб арганізацыі дзяржаўнай улады. З курса гісторыі вы ведаеце, што адрозніваюць дзве асноўныя формы дзяржаўнага кіравання: манархію і рэспубліку.

***Манархія*** (ад *грэч.* monarchia — адзінаўладдзе) — гэта форма кіравання, пры якой улада поўнасцю або амаль поўнасцю сканцэнтравана ў руках адзінаўладнага главы дзяржа-




вы — манарха (караля, імператара, шаха, цара і да т. п.). Існуюць *неабмежаваныя* (абсалютныя) і *абмежаваныя* (канстытуцыйныя) манархіі.

***Рэспубліка*** (ад *лац.* respublica — грамадская справа) — форма дэмакратычнай улады, пры якой органы кіравання выбіраюцца народам і для народа, служаць яго інтарэсам. Выдзяляюць тры асноўныя разнавіднасці рэспублікі: прэзідэнцкую (са значнай роляй прэзідэнта ў сістэме дзяржаўных органаў); парламенцкую (дзе ўрад фарміруецца на парламенцкай аснове і адказны перад парламентам); змешаную (спалучэнне моцнай прэзідэнцкай улады і эфектыўнага кантролю парламента за дзейнасцю ўрада).

Па-другое, тэрмін «форма дзяржавы» характарызуе рэжым улады. *Палітычны рэжым — гэта тое, як ажыццяўляецца дзяржаўная ўлада, як у краіне захоўваюцца правы чалавека і грамадзяніна.* Дзяржава можа быць дэмакратычнай або недэмакратычнай (дыктатарскай, таталітарнай, аўтарытарнай). У краінах з таталітарным рэжымам дзяржава кантралюе не толькі палітычную, але і ўсе іншыя сферы жыцця грамадства. Тут пануе аднапартыйнасць, адзіная ідэалогія, сістэма паліцэйскага кантролю.





Рэспубліка. Скульптура Ж. Шынара. 1794 г. Пад правай рукой — пліта з надпісам «Правы чалавека»

Абсалютная большасць эканамічна развітых краін зараз маюць дэмакратычныя рэжымы. У такіх дзяржавах ажыццяўляецца прынцып падзелу ўлад, прадстаўнічыя органы выбіраюцца насельніцтвам, дзейнічае ўсеагульнае выбарчае права. Для палітычнай сістэмы характэрна шматпартыйнасць, плюралізм думак, захаванне правоў чалавека.

Нарэшце, паняцце «форма дзяржавы» азначае асаблівасці дзяржаўнага ўладкавання. У сучасным свеце існуюць розныя яго формы. Гэта, па-першае, *унітарная (адзіная) дзяржава,* якая складаецца з адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак, якія не валодаюць якой-небудзь уласнай аўтаноміяй. Па-другое, *федэрацыя* — складаная, саюзная дзяржава, у састаў якой уваходзяць утварэнні (штаты, кантоны, рэспублікі, землі і да т. п.), якія валодаюць вызначанай палітычнай самастойнасцю. Па-трэцяе, *канфедэрацыя* — складаная дзяржава, саюз юрыдычна і палітычна самастойных дзяржаўных адзінак, якія ўтвораны ў агульных мэтах.

Акрамя гэтага, пры характарыстыцы дзяржавы сёння шырока выкарыстоўваюцца таксама паняцці «прававая» і «сацыяльная» дзяржава. ***Прававая дзяржава*** *абмежавана ў сваіх дзеяннях правам, якое абараняе свабоду асобы і падпарадкоўвае ўладу волі народа.*

***Сацыяльная дзяржава*** *тая, што імкнецца да забеспячэння годных умоў жыцця сваіх грамадзян.* Яна шляхам саўдзелу ў кіраванні эканомікай турбуецца аб задавальненні іх матэрыяльных і духоўных запатрабаванняў.




**Вывады.** *1. Дзяржава ажыццяўляе палітычную ўладу ў грамадстве. 2. Існуюць розныя тыпы і формы дзяржавы. 3. У дэмакратычнай прававой дзяржаве абаронена свабода асобы.*

**Слоўнік**

**Дзяржава** — арганізацыя палітычнай улады ў грамадстве.
**Канфедэрацыя** — саюз дзяржаў, якія захоўваюць незалежнасць.
**Манархія** — форма аднаасобнага дзяржаўнага кіравання.
**Палітычная сфера жыцця грамадства** — галіна ўзаемаадносін паміж вялікімі групамі людзей, класамі, нацыямі, дзяржавамі.
**Прававая дзяржава** — дзяржава, якая абмежавана ў сваіх дзеяннях правам, што абараняе свабоду асобы і грамадства.
**Рэспубліка** — дзяржава з выбарнай формай улады.
**Сацыяльная дзяржава** — дзяржава, якая імкнецца да ўсталявання эканамічнай і палітычнай справядлівасці ў грамадстве.
**Унітарная дзяржава** — адзіная дзяржава.
**Федэрацыя** — аб'яднанне дзяржаў з захаваннем імі вызначанай палітычнай самастойнасці.

?
1. Што такое дзяржава?
2. Якое паняцце больш шырокае: «дзяржава» або «грамадства»?
3. Якія бываюць формы дзяржаўнага ўладкавання?



## ПРАКТЫКУМ

### ПАДУМАЙЦЕ

1. Ці можа быць у дзяржавах адна манапольна пануючая ідэалогія і якія гэта мае наступствы?
2. Чым вызначаецца сіла дзяржавы?
3. Назавіце некалькі краін з манархічнай формай кіравання.
4. Якая форма дзяржаўнага ўладкавання ў Расіі, Польшчы, Югаславіі, ЗША, Германіі, Грэцыі, Беларусі?

### ТЭСТ

Назавіце, што з пералічанага адносіцца да прымет дзяржавы: *а)* тэрыторыя; *б)* насельніцтва; *в)* культура; *г)* звычаі; *д)* традыцыі; *е)* прамысловасць; *ж)* законы; *з)* апарат кіравання; *і)* міліцыя; *к)* сельская гаспадарка; *л)* узброеныя сілы.

Патлумачце свой выбар.

### ПРАКТЫКАВАННЕ

Ніжэй прыведзена некалькі азначэнняў дзяржавы. Прааналізуйце, наколькі яны поўныя і правільныя:

1. «Дзяржава можа быць вызначана як палітычная арганізацыя (або асацыяцыя) групы людзей, якія жывуць на пэўнай тэрыторыі, мэтай якой з'яўляецца садзейнічанне агульным інтарэсам». (Монд, прафесар Вашынгтонскага універсітэта.)
2. «Дзяржава з'яўляецца сапраўдным выразнікам таго клопату аб дабротах бліжняга, які ляжыць у аснове хрысціянскай любві». (Боўдлінг, амерыканскі палітолаг.)
3. «Дзяржава — гэта адзінства, якое ўтворана з простай сумы індывідаў на аснове пачуцця агульнасці думак і ўзаемнасці інтарэсаў, і гэта пачуццё выяўляецца ў стварэнні палітычнай сілы і падпарадкаванні грамадства яе ўладзе». (Уілогбі, англійскі сацыёлаг.)
4. «Дзяржава ёсць машына для прыгнёту аднаго класа другім, машына, каб трымаць у падпарадкаванні аднаму класу іншыя падначаленыя класы». (У. І. Ленін.)
5. «Дзяржава... ёсць адносіны панавання людзей над людзьмі, якое абапіраецца на легітымнае (тое, якое лічыцца легітымным) насілле як сродак». (Вэбер, нямецкі сацыёлаг.)

ПРЫСЛУХАЕМСЯ

*Годнасць дзяржавы залежыць у канчатковым выпадку ад годнасці асоб, якія яе ўтвараюць.*

*Дж. Міль*

*Толькі моцная дзяржава забяспечвае свабоду сваім грамадзянам.*

*Ж. Ж. Русо*

*Рэспубліка з'яўляецца справай народа.*

*Цыцэрон*

*Палітыка — гэта навука кіравання дзяржавай.*

*Л. Залускі*

*Хто з'яўляецца добрым грамадзянінам? — Той, хто трымаецца рашэння бацькоў, права і Закону.*

*Гарацый*

Што можна прачытаць

Вишневский А. Ф., Горбаток Н. А., Кучинский В. А. Общая теория государства и права. Мн., 1999.

Шабайлов В. И. Социальное государство // Чалавек. Грамадства. Свет. 1998. № 4; 1999. № 1.

Обществознание в тестах и заданиях. 9 кл. М., 1998.

# § 17—18. Наша дзяржава

## Асновы канстытуцыйнага ладу Рэспублікі Беларусь

У цяперашні час дзяржаўнае ўладкаванне нашай краіны вызначаецца ***Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь 1994 г.*** (са змяненнямі і дапаўненнямі), прынятай на рэспубліканскім рэферэндуме 24 лістапада 1996 г.

Слова «канстытуцыя» ў перакладзе з латыні азначае «ўладкаванне», «устанаўленне». Канстытуцыя вызначае суб'ект, г. зн. носьбіта дзяржаўнай улады, яе крыніцу, працэдуры і ўмовы яе існавання. У Канстытуцыі на дзяржаўную ўладу ўскладаецца абавязак абараняць правы і свабоды асобы.





Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнка

Канстытуцыя 1994 г. устанавіла ў Рэспубліцы Беларусь прэзідэнцкую форму дзяржаўнага кіравання, згодна якой кіраўніком дзяржавы з'яўляецца *Прэзідэнт.* Першым Прэзідэнтам у гісторыі нашай дзяржавы стаў Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка.

У адпаведнасці з Канстытуцыяй вышэйшай мэтай нашай дзяржавы з'яўляецца забеспячэнне правоў і свабод грамадзян. Пры гэтым дзяржава нясе адказнасць перад грамадзянамі за стварэнне ўмоў для свабоднага і годнага развіцця асобы. Грамадзяне нясуць адказнасць за няўхільнае выкананне абавязкаў, якія ўскладзены на іх Канстытуцыяй.



Рэзідэнцыя Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь



Герб Рэспублікі Беларусь



Сцяг Рэспублікі Беларусь

***Рэспубліка Беларусь*** у артыкуле 1 Канстытуцыі вызначаецца як ***«унітарная дэмакратычная прававая дзяржава»***. Давайце разгледзім гэта пытанне па парадку.

Перш за ўсё, наша краіна — *унітарная дзяржава.* Гэта значыць, што тэрыторыя Беларусі ў адрозненне, напрыклад, ад Расійскай Федэрацыі (у якую ўваходзяць аўтаномныя рэспублікі), ЗША (штаты), ФРГ (землі) не мае ў сваім складзе якіх-небудзь самастойных утварэнняў.

Рэспубліка Беларусь — *дэмакратычная дзяржава.* У перакладзе *дэмакратыя* — улада народа. У дэмакратычнай дзяржаве ўлада ажыццяўляецца самім народам у яго інтарэсах праз свабодна выбраных прадстаўнікоў.

Дэмакратыя як форма ўлады народа ўзнікла і існавала яшчэ ў часы грэка-рымскай антычнасці. Але антычная дэмакратыя была дэмакратыяй рабаўладальніцкай. Тут народам лічыліся толькі свабодныя грамадзяне. Рабы былі выключаны з палітычнага жыцця дзяржавы.

У нашы дні ***дэмакратыяй*** *называюць такі механізм улады, які зыходзіць з роўнасці ўсіх грамадзян і саўдзелу іх у яе здзяйсненні.* У дэмакратычнай дзяржаве рашэнні прымаюцца большасцю грамадзян з улікам неабходнасці захавання правоў меншасці. Устаноўлены кантроль над уладай з боку грамадства. Дэмакратыя прадугледжвае таксама падзел улад, усеагульнасць выбараў у органы ўлады, галоснасць, паслядоўную абарону правоў і свабод грамадзян.

Дэмакратычны характар Рэспублікі Беларусь грунтуецца на разнастайнасці палітычных інстытутаў, ідэалогій і думак. Розныя палітычныя сілы прымаюць удзел у фарміраванні органаў улады праз выбары на альтэрнатыўнай аснове.

Ва ўсіх сферах грамадскага жыцця створаны добраахвотныя недзяржаўныя арганізацыі (грамадскія аб'яднанні). Асноўныя накірункі іх дзейнасці: абарона інтарэсаў працоўных, мацярынства, дзяцінства, правоў пакупнікоў, экалогія, навука і навуковае абслугоўванне, прадпрымальніцтва, развіццё малога і сярэдняга бізнесу, банкаўская сфера, правазнаўства, страхаванне жыцця і маёмасці. Яны выступаюць ініцыятарамі і каардынатарамі розных праектаў, заснавальнікамі камерцыйных прадпрыемстваў, праводзяць нацыянальныя і міжнародныя семінары, распрацоўваюць праекты законаў, указаў, распараджэнняў Прэзідэнта, пастаноў і распараджэнняў урада Рэспублікі Беларусь.

У гэтай сувязі заўважым, што пытанне дэмакратыі датычыцца кожнага грамадзяніна, а не проста звязана з характарам дзяржаўнай улады. Для сучаснага цывілізаванага чалавека дэмакратыя — натуральны вобраз думак і асабістага дзеяння. Паступае дэмакратычна той, хто:

праяўляе ініцыятыву ў грамадскіх справах, не можа мірыцца з несправядлівасцю і прыніжэннем годнасці асобы;

актыўна абмяркоўвае праблемы грамадства і дзяржавы, выказвае сваю думку, уступае ў дыскусію;

удзельнічае ў прыняцці важных рашэнняў, у рэферэндумах, выбарах у прадстаўнічыя органы;

выконвае рашэнні, якія былі выпрацаваны ў працэсе сумеснага абмеркавання, выконвае законы, паважае правы чалавека.

Формы дэмакратычнага дзяржаўнага ўладкавання могуць быць рознымі: канстытуцыйна-прадстаўнічая дэмакратыя, плюралістычная, савецкая ўлада і інш. Аднак агульнай для ўсіх разнавіднасцей дэмакратычнай улады з'яўляецца форма прававой дзяржавы. Рэспубліка Беларусь — *прававая дэмакратычная дзяржава.* Гэта замацавана ў артыкулах 3, 4 нашай Канстытуцыі. Кожнаму грамадзяніну гарантуецца «стварэнне ўмоў для свабоднага і годнага развіцця асобы».

Гэта значыць, што наша дзяржава не толькі абвяшчае ў Канстытуцыі, але і здзяйсняе ахову правоў асобы праз сваю эканамічную і сацыяльную палітыку. Тым самым Рэспубліка

## РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ

| |
|---|
| **УНІТАРНАЯ** (АДЗІНАЯ)<br>**ДЭМАКРАТЫЧНАЯ** (ФОРМА ЎЛАДЫ НАРОДА)<br>**САЦЫЯЛЬНАЯ** (ЗАБЕСПЯЧЭННЕ ЎМОЎ ЖЫЦЦЯ)<br>**ПРАВАВАЯ** (АБАРОНА ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА) |

## СУВЕРЭННАЯ ДЗЯРЖАВА

| |
|---|
| **АБАРАНЯЕ НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ І ТЭРЫТАРЫЯЛЬНУЮ ЦЭЛАСНАСЦЬ КРАІНЫ НА МІЖНАРОДНАЙ АРЭНЕ** |
| **ЗАБЯСПЕЧВАЕ ВЯРШЭНСТВА ДЗЯРЖАЎНАЙ УЛАДЫ, КАНСТЫТУЦЫЙНЫ ЛАД, ЗАКОННАСЦЬ І ПРАВАПАРАДАК УНУТРЫ КРАІНЫ** |

Беларусь характарызуецца як *сацыяльная дзяржава.* У такой дзяржаве чалавеку гарантавана права на працу, на абарону эканамічных і сацыяльных інтарэсаў, на адпачынак, на ўласнасць, на ахову здароўя і г. д. (артыкулы Канстытуцыі 41, 42, 43, 44, 45, 46, 47 і інш.).

### Народ — адзіная крыніца ўлады

Артыкул 3 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь устанаўлівае, што *адзінай крыніцай дзяржаўнай улады ў нашым грамадстве з'яўляецца **народ**.* Ён ажыццяўляе сваю ўладу непасрэдна — праз усеагульныя прамыя выбары і ўсенародныя рэферэндумы, а таксама апасродкавана — праз прадстаўнічыя органы.

Палітычная воля народа ажыццяўляецца праз удзел грамадзян у выбарах, праз партыі, палітычныя і іншыя грамадскія аб'яднанні. Артыкулы 37, 38, 40 Канстытуцыі *гарантуюць усім грамадзянам права ўдзелу ва ўпраўленні справамі грамадства* праз рэферэндумы, абмеркаванні праектаў законаў і да т. п. Кожны мае права быць выбраным у дзяржаўныя органы ўлады. Канстытуцыя забяспечвае ўсім грамадзянам у адпаведнасці з іх здольнасцямі і прафесійнай падрыхтоўкай права роўнага доступу да любых пасад у органах кіравання грамадствам і дзяржавай (артыкулы 39, 40).

Важную ролю ў палітычным жыцці грамадства і ўладкаванні дзяржавы адыгрываюць партыі. Разнастайнасць партый адлюстроўвае плюралізм грамадства, гэта значыць наяўнасць розных сацыяльных груп і класаў са сваімі палітычнымі патрабаваннямі і інтарэсамі. Ва ўмовах сучаснай плюралістычнай дэмакратыі ад партый, якія дамагаюцца права ажыццяўляць уладу, патрабуецца паважаць законы дзяржавы. Таму наша Канстытуцыя забараняе ўтварэнне і дзейнасць партый і іншых грамадскіх аб'яднанняў, якія арыентуюцца на гвалтоўнае змяненне канстытуцыйнага ладу або прапагандуюць вайну, нацыянальную, расавую або рэлігійную варожасць.



Увявім сабе, што дзяржава мірылася б з дзейнасцю такіх партый і арганізацый. Яна тым самым садзейнічала б грубаму парушэнню правоў і свабод грамадзян той ці іншай нацыянальнасці або расы, а таксама грамадзян, якія прытрымліваюцца іншых рэлігійных або палітычных поглядаў. Такая дзяржава не магла б быць ні прававой, ні дэмакратычнай.

## Вяршэнства права

У нашай рэспубліцы ***Канстытуцыя** валодае вышэйшай юрыдычнай сілай.* Гэта значыць, што ўсе законы і прававыя акты, якія прымаюцца, не павінны супярэчыць Канстытуцыі як Асноўнаму Закону дзяржавы.

Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь у артыкуле 8 абвясціла прыярытэт агульнапрызнаных прынцыпаў міжнароднага права і тым самым паслядоўна праводзіць фундаментальны дэмакратычны прынцып вяршэнства права.

*Вяршэнства права* азначае, што ў краіне:

ёсць урад народа, якім кіруе народ і які існуе для народа;

праводзіцца падзел улад і ўзаемасувязь паміж заканадаўчай, выканаўчай і судовай уладамі;

забяспечваюцца прадстаўнічая дэмакратыя, працэдурныя і істотныя абмежаванні ў адносінах дзеянняў улад, якія накіраваны супраць прыватных асоб (абарона іх асабістай свабоды і асабістай годнасці);






урад дзейнічае толькі ў межах закону;

гарантуецца судовы разбор незалежнай сістэмай судовых органаў як цэнтральнага механізма правядзення канстытуцыйных законаў у жыццё.

Толькі ажыццяўленне ў сукупнасці пералічаных умоў азначае сапраўды прававы характар дзяржавы, у якой толькі і магчыма забяспечыць правы і свабоды асобы.

## Саюз Беларусі і Расіі

Народы Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі, якія кіруюцца сваёй воляй да аб'яднання і абапіраюцца на агульны гістарычны лёс, заключылі ў снежні 1999 г. дагавор аб утварэнні саюзнай дзяржавы. Саюз Беларусі і Расіі ставіць за мэту мірнае і дэмакратычнае развіццё абедзвюх суверэнных дзяржаў, умацаванне дружбы, павышэнне дабрабыту і ўзроўню жыцця сваіх народаў.

Саюзная дзяржава народаў Беларусі і Расіі грунтуецца на прынцыпах іх суверэннай роўнасці і добраахвотнасці. Па меры станаўлення Саюзнай дзяржавы з мэтай стварэння адзінай эканамічнай прасторы, узгаднення знешняй палітыкі ў галіне абароны і г. д. будзе разгледжана пытанне аб прыняцці яе Канстытуцыі.

**Вывады.** *1. Рэспубліка Беларусь — унітарная дэмакратычная сацыяльная прававая дзяржава. 2. У адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь беларускі народ — адзіная крыніца ўлады, наша дзяржава ажыццяўляе яго волю. 3. Саюзная дзяржава Беларусі і Расіі — выказванне гістарычных, духоўных, эканамічных і геапалітычных сувязей беларускага і рускага народаў; іх імкненне пераадолець крызісныя вынікі распаду СССР.*

### Слоўнік

**Дэмакратыя** — форма дзяржаўна-палітычнага ўладкавання, пры якой народ з'яўляецца крыніцай улады, а асоба валодае шырокім колам грамадзянскіх правоў і свабод.

**Законнасць** — дакладнае і няўхільнае ажыццяўленне нарматыўных палажэнняў Канстытуцыі і законаў, якія ёй адпавядаюць, усімі органамі дзяржавы, установамі, арганізацыямі, службовымі асобамі і грамадзянамі.

**Канстытуцыя** — Асноўны Закон дзяржавы (ад *лац.* constitucio — уладкаванне), які вызначае грамадскае і дзяржаўнае ўладкаванне, парадак і прынцыпы ўтварэння прадстаўнічых органаў улады, выбарчую сістэму, асноўныя правы і абавязкі грамадзян.

**Правапарадак** — грамадскі парадак, які замацаваны юрыдычнымі нормамі.

**?**
1. Як вызначае Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь 1994 г. нашу дзяржаву? Раскрыйце змест артыкула 1 Канстытуцыі.
2. Што значыць палажэнне Канстытуцыі: народ — адзіная крыніца ўлады?
3. Якія прычыны і мэты ўтварэння Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі?

## ПРАКТЫКУМ

### ПАДУМАЙЦЕ

1. Французскі сацыёлаг Р. Арон сцвярджае: «Першая велічыня, якой займаюцца правазнаўцы,— сама Канстытуцыя, якая інтэрпрэтуецца палітыкамі як Асноўны Закон. Адрозніваюць канстытуцыі прэзідэнцкага і парламенцкага тыпаў. Амаль у чыстым выглядзе іх можна знайсці, адпаведна, у ЗША і ў Вялікабрытаніі».

Да якога тыпу вы б аднеслі Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь і на якой падставе?

2. У выпадку прамога парушэння вашых грамадзянскіх правоў якой-небудзь службовай асобай або кім-небудзь яшчэ, куды б вы звярнуліся па дапамогу ў аднаўленні сваіх правоў, калі б вам адмовілі ў гэтым прадстаўнікі выканаўчай улады?

### ПРЫСЛУХАЕМСЯ

***Дабрабыт народа няхай будзе вышэйшым законам.***

*Цыцэрон*

***Свабода заключаецца ў тым, каб залежаць толькі ад законаў.***

*Вальтэр*

***Шчасце чалавечага грамадства залежыць ад дакладнага захавання законаў.***

*Казімір Нарбут*



***Дзе канчаюцца законы, там пачынаецца тыранія.***

*У. Піт*

***Пра ўсякі закон можна сказаць, што ён датычыцца агульнадзяржаўных патрэб.***

*У. І. Ленін*

***Законы — розум краіны.***

*А. Бальзак*

***Не шукай ты шчасця, долі на чужым, далёкім полі.***

*Янка Купала*

***Сутнасць закону — чалавекалюбства.***

*В. Шэкспір*

**Што можна прачытаць**


Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь 1994 года (са змяненнямі і дапаўненнямі). Прынятая на рэспубліканскім рэферэндуме 24 лістапада 1996 г. Мн., 2000.

Договор о создании Союзного государства // Советская Белоруссия. 1999. 11 дек.

Вишневский А. Ф., Довнар Т. И. История государства и права Беларуси (1917—1996). Мн., 1996.

Шабайлов В. И. Строим правовое государство // Беларуская думка. 1999. № 3.

## § 19. Права: мера свабоды і адказнасці асобы

### Права — фундаментальная аснова чалавечай цывілізацыі

У тэме, да якой мы цяпер звяртаемся, спалучаюцца сэнсавыя лініі нашага курса: Чалавек. Грамадства. Дзяржава. Гэта пытанні правоў і свабод чалавека як вышэйшай каштоўнасці грамадства і дзяржавы.

*Прагрэс цывілізацыі забяспечваецца ўзрастаннем ролі прававога рэгулявання ўзаемадзеянняў людзей.* Вы ведаеце, што існуюць патрабаванні, захаванне якіх у грамадстве абавязковае. *Сукупнасць абавязковых юрыдычных норм паводзін называецца **правам**.* Прававыя нормы ўстанаўліваюцца дзяржавай у форме законаў і іншых нарматыўных актаў (указы, дэкрэты, пастановы і г. д.). Дзяржава павінна ў рамках гэтых норм абараняць інтарэсы грамадзян. Калі гаворка ідзе аб такіх інтарэсах, выкарыстоўваецца паняцце *правы чалавека*. Ім перадаецца тое, што ў адпаведнасці з інтарэсамі індывідаў і грамадства вызначае (дазваляе або не дазваляе) права. Пры гэтым трэба адрозніваць права як сістэму юрыдычных прававых норм (так званае *аб'ектыўнае права)* і юрыдычныя магчымасці індывідаў дзейнічаць так або інакш у рамках устаноўленых правіл — норм права *(суб'ектыўнае права)*.

Сусветная грамадскасць на Генеральнай Асамблеі ААН у 1948 г. прыняла Усеагульную дэкларацыю правоў чалавека, палажэнні якой затым знайшлі развіццё ў міжнародных дакументах. Тым самым упершыню быў абвешчаны універсальны і ўсеагульны характар правоў чалавека ў сучасным свеце. У адпаведнасці з дакументамі міжнароднага права Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь у прэамбуле (уводная частка) устанаўлівае, што адной з важнейшых задач нашай



| ПРАВА | |
|---|---|
| СІСТЭМА АГУЛЬНААБАВЯЗКОВЫХ ПРАВІЛ (НОРМ) ПАВОДЗІН, ЯКІЯ ЎСТАНОЎЛЕНЫ ДЗЯРЖАВАЙ У ФОРМЕ ЗАКОНАЎ | СІСТЭМА ПРАВОЎ І СВАБОД ЧАЛАВЕКА, МЕРА СВАБОДЫ І АДКАЗНАСЦІ АСОБЫ |

дзяржавы з'яўляецца імкненне «зацвердзіць» правы і свабоды кожнага грамадзяніна Рэспублікі Беларусь.

Права, як і ўлада, з'яўляецца фундаментальнай асновай чалавечай цывілізацыі. Істотная асаблівасць права заключаецца ў тым, што яно зацвярджае ўсеагульную роўнасць людзей перад законам. Правы чалавека, як і яго свабоды (а ў самым агульным сэнсе свабоды і ёсць правы), гэта такія правы, якія належаць індывіду як чалавеку.

У першабытным грамадстве асноўным рэгулятарам сацыяльных узаемаадносін людзей былі радавыя, племянныя звычаі. Яны абапіраліся на мараль, рэлігію і ўяўлялі сабой свайго роду «перадправа» — мацярынскае, бацькоўскае, «кулачнае» і да т. п. З узнікненнем цывілізацыі з'явілася ўласна права як сістэма норм, правоў і абавязкаў, якія занатаваны пісьмова і падтрымліваюцца сілай дзяржавы. Першыя пісьмовыя помнікі самых старажытных цывілізацый (законы Ману ў Індыі, законы XII табліц у Рыме, законы старажытных Шумера і Вавілона і г. д.) і Сярэдневякоўя (Салічаская праўда, «Руская Праўда» і інш. у Еўропе) замацоўвалі ва ўсеагульнай нарматыўнай форме звычаі, якія панавалі, рашэнні канкрэтных жыццёвых сітуацый і канфліктаў, якія пастаянна паўтараліся, і лагічныя вынікі з іх.

«Перадправа» абшчынна-радавога ладу зацвярджала галоўным чынам забароны, табу ў сістэме звычаяў, рэлігійных вераванняў. Цяпер грамадства праз права арыентуе чалавека на тое, што ў яго ёсць не толькі абавязкі, але і правы. Чалавеку адчыняюцца больш шырокія магчымасці для праяўлення сваёй асобы, індывідуальнасці і грамадскай актыўнасці. Забяспечваецца адпаведная яго аўтаномнасць, асобасная незалежнасць. Тым самым *права вызначаецца як мера грамадска*

*значымых паводзін людзей, як усеагульная мера свабоды асобы.* Тут паяўляецца новая грань пытання аб праве. Атрымоўваецца, што свабода асобы ёсць першапачатак права. Яшчэ нямецкі мысліцель I. Кант пісаў, што права — гэта сукупнасць умоў, пры якіх свабода і самавольства аднаго сумяшчальны з самавольствам і свабодай іншага на аснове ўсеагульнага прынцыпу свабоды і роўнасці.

Пры больш глыбокім асэнсаванні права яго можна разумець як вызначаны парадак узаемаадносін паміж дзяржавай, грамадствам і індывідамі. Гэта значыць, што права нельга атаясамліваць толькі з законамі, якія ўстаноўлены дзяржавай. Яшчэ з часоў антычнасці існуе *тэорыя* так званага *натуральнага права*, якая гаворыць, што самі законы, якія прымае дзяржава, па сутнасці ёсць нешта большае, чым толькі яго воля. Дзяржава, на думку Арыстоцеля, Цыцэрона, павінна прадстаўляць свае законы або як выяўленне парадку светабудовы (макракосмасу), або боскага розуму, або, нарэшце, вечнай чалавечай прыроды, розуму, сацыяльных каштоўнасцей і ідэалаў. Толькі ў такім выпадку права можна трактаваць як увасабленне справядлівасці і ісціны.

Тэорыя натуральнага права атрымала сваё развіццё ў XVII—XVIII стст. у працах Лока, Русо, Дзідро, Радзішчава. Яна была адным з ідэалагічных інструментаў барацьбы буржуазіі супраць феадальных парадкаў.

У другой палавіне XX ст. традыцыі тэорыі натуральнага права зноў аднаўляюцца і ўмацоўваюцца. Аснову права цяпер шукаюць у так званых «неад'емных», «неадчужальных» правах і свабодах чалавека. Тым самым правы чалавека разглядаюцца як «чыстае ўвасабленне права», як рашаючы крытэрый прававога ўладкавання грамадства.

## Правы і свабоды чалавека ў мінулым

У мінулыя эпохі рабаўладальніцтва, феадалізму дзяржаўная ўлада перадавалася ў спадчыну нашчадкам князёў, цароў, каралёў і імператараў. Канстытуцыі, як бы яны не называліся — зборы законаў, кодэксы, законы Ману або Хамурапі, праўды, білі, хартыі і г. д.,— разглядаліся як падараваныя грамадству небам. Аднак і яны ў той ці іншай ступені зацвярджалі і абаранялі правы і свабоды індывідаў, але ў залежнасці ад іх саслоўна-класавай прыналежнасці. Правы



і свабоды выступалі як прывілеі і перавагі адных перад другімі. Гэта выключала роўнасць грамадзян перад законам, судом і ўладай.

Так, напрыклад, у Старажытным Рыме правы людзей вызначаліся ў залежнасці ад іх падзелу на свабодных і рабоў. Раб быў пазбаўлены нават права на жыццё, за нязначны праступак ён мог быць забіты сваім гаспадаром. Больш таго, паміж свабоднымі людзьмі амаль да 212 г. н. э. адсутнічала нават фармальная роўнасць у правах. Толькі ў 212 г. н. э. законам было дадзена рымскае грамадзянства ўсім свабодным падданым імперыі. Але і пасля гэтага рымскае права не прызнавала роўнасці перад законам знатных і беднякоў, а тым больш свабодных і рабоў.

У «Рускай Праўдзе» (XI ст.), якая ў вядомай ступені вызначала грамадскі і грамадзянскі правапарадак Кіеўскай Русі, прадстаўнікі прывілеяваных саслоўяў і простыя людзі за адны і тыя ж злачынствы неслі рознае пакаранне. Яны мелі розныя правы і абавязкі і ў адносінах спадчыны маёмасці, выканання абавязкаў перад дзяржавай і г. д. Разам з тым «Руская Праўда» ўжо давала пэўную абарону асобы і маёмасці свабоднага селяніна — смерда, да вядомай мяжы і закупа (чалавека, які працаваў за купу — пазыку), забараняючы пану караць іх і забіраць маёмасць. У той жа час халоп фактычна не быў абаронены законам, па сутнасці, ён быў пазбаўлены ўсіх правоў.

У далейшым развіццё феадальнага права ў Рускай дзяржаве, затым у Расійскай імперыі грунтоўна не змяніла палажэнне чалавека. Правы і маёмасць індывідаў па-ранейшаму вызначаліся іх саслоўным палажэннем, г. зн. прыналежнасцю да тых або іншых груп насельніцтва — памешчыкаў, духавенства, сялян, гарадскіх жыхароў-мяшчан і г. д. Больш таго, правы памешчыкаў, і ў цэлым дваранства, увесь час пашыраліся. За імі замацоўваліся прывілеі на манапольнае валоданне зямлёй, вызваленне ад павіннасцей, перавага ў судовым працэсе і інш. Найбольш яскравым пацвярджэннем гэтаму быў Маніфест Пятра III у сярэдзіне XVIII ст. «Аб вольнасці дваран». Разам з тым ішоў інтэнсіўны працэс запрыгоньвання сялянства, што вяло да ўсеагульнага бяспраўя гэтай часткі насельніцтва.

У краінах Заходняй Еўропы абарона правоў і свабод асобы таксама мела саслоўна-класавы характар. Так, у 1215 г. у

Англіі ў якасці канстытуцыйна-прававога дакумента была абвешчана «Вялікая хартыя вольнасцей». У ёй феадалы — бароны, графы і г. д. дабіліся ў караля шмат саслоўных і асабістых правоў, у адпаведнасці з якімі ніхто з іх без грунтоўных прычын не мог быць прыцягнуты да суда, пасаджаны ў турму, пазбаўлены маёмасці, у тым ліку нерухомасці, не мог быць выгнаны з дзяржавы.

У XI—XIII стст. у Заходняй Еўропе, некалькі пазней у Вялікім княстве Літоўскім, на аснове каралеўскіх княжацкіх хартый сфарміравалася так званае гарадское права (магдэбургскае права). Яно юрыдычна замацоўвала правы і свабоды гараджан, іх права на самакіраванне. Устанаўліваліся таксама пэўныя правы і свабоды грамадзян — купцоў, рамеснікаў і іншых бюргераў. Да пачатку XII ст. у заходнееўрапейскіх краінах ужо і сяляне мелі абароненыя законам правы. Напрыклад, права трымання (г. зн. часовага карыстання) зямлі свайго сеньёра, права на абарону і заступніцтва,



Свабода, якая вядзе народ (Свабода на барыкадах). Карціна мастака Э. Дэлакруа. 1830 г.



«Дэкларацыя правоў чалавека і грамадзяніна», 1789 г.




права карыстання абшчыннай зямлёй і інш. Зразумела, магчымасці прававой абароны ў сялян у тыя часы былі абмежаваны, паколькі яны маглі абараняць свае інтарэсы толькі ў судзе самога памешчыка.

У ходзе буржуазных рэвалюцый XVIII ст. у Амерыцы і Францыі былі прыняты канстытуцыйныя акты — Дэкларацыя незалежнасці Злу-

| РАЗВІЦЦЁ ІДЭІ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА | |
|---|---|
| **СТАРАЖЫТНЫ СВЕТ** | ЗАКОНЫ МАНУ Ў ІНДЫІ, ХАМУРАПІ Ў ВАВІЛОНЕ, XII ТАБЛІЦ У РЫМЕ |
| **XI ст.** | “РУСКАЯ ПРАЎДА” |
| **1215 г.** | “ВЯЛІКАЯ ХАРТЫЯ ВОЛЬНАСЦЕЙ” |
| **XIII ст.** | МАГДЭБУРГСКАЕ ПРАВА |
| **XVI ст.** | СТАТУТЫ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА |
| **1689 г.** | АНГЛІЙСКІ “БІЛЬ АБ ПРАВАХ” |
| **1776 г.** | “ДЭКЛАРАЦЫЯ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ ЗША” |
| **1789 г.** | “ДЭКЛАРАЦЫЯ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА І ГРАМАДЗЯНІНА” |
| **1948 г.** | УСЕАГУЛЬНАЯ ДЭКЛАРАЦЫЯ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА |

чаных Штатаў Амерыкі (1776 г.), Дэкларацыя правоў чалавека і грамадзяніна ў Францыі (1789 г.). У іх былі абвешчаны роўныя для ўсіх правы і свабоды грамадзян. «Усе людзі створаны роўнымі,— сцвярджалася ў Дэкларацыі Злучаных Штатаў Амерыкі,— і ўсе яны адораны некаторымі неабходнымі правамі, да ліку якіх належаць: жыццё, свабода і імкненне да шчасця».

Французская канстытуцыя 1791 г., якая была распрацавана на аснове Дэкларацыі правоў чалавека і грамадзяніна 1789 г., значна пашырыла правы і свабоды грамадзян. Мэтай дзяржавы было аб'яўлена «забеспячэнне натуральных і неабходных правоў чалавека — свабоды, уласнасці, бяспекі і супраціўлення прыгнёту». Разам з гэтымі асноўнымі правамі абвяшчалася таксама роўнае права ўсіх удзельнічаць у заканатворчасці, права займаць любыя грамадскія пасады на месцах і службах «адпаведна здольнасцям і без якой-небудзь розніцы», права на свабоднае выказванне думак і меркаванняў. Катэгарычна забаранялася і строга каралася законам усякае абвінавачванне, затрыманне або арышт без судовага разбору.

## Годнасць чалавечай асобы

Вы ўжо зразумелі, што ў працэсе замацавання прававых асноў грамадскага жыцця ўзвышаецца годнасць чалавечай асобы. ***Годнасць, або вялікасць, чалавека*** *вызначаецца мерай яго свабоды. Менавіта ў свабодзе закладзены асновы ўсіх правоў і абавязкаў чалавека, як і права ў цэлым.* Нямецкі філосаф І. Кант (1724—1804) бачыў у свабодзе глыбінную аснову маральнай сутнасці, годнасці і значнасці асобы чалавека. «Прыналежнасць да роду чалавечага сама ўжо ёсць годнасць,— пісаў Кант,— і таму кожны чалавек правамоцны дамагацца павагі іншых людзей і, са свайго боку, абавязаны таксама паважаць іншых». Гэтыя і другія падобныя ідэі Канта былі ўспрыняты грамадствам як фундаментальныя каштоўнасці сучаснай цывілізацыі. Цяпер яны патрабуюць трывалага прававога замацавання і абароны перад фактам ўзрастаючай пагрозы асобе, яе свабодзе і годнасці з боку бюракратызаваных структур вытворчага і дзяржаўна-кіраўніцкага апарату і тэхнізаванага соцыуму.

Абарона грамадствам асноўных правоў і свабод чалавека



неабходна таму, гаворыцца ў Міжнароднай Хартыі (Білі) аб правах чалавека (1948, 1966), што гэтыя правы вынікаюць з уласцівай чалавечай асобе годнасці, забяспечваюць яе свабоду і развіццё.

Таму ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь (як і ў канстытуцыях іншых цывілізаваных дзяржаў) абвяшчаецца, што «забеспячэнне правоў і свабод грамадзян Рэспублікі Беларусь з'яўляецца вышэйшай мэтай дзяржавы» (артыкул 21) і яна забяспечвае «свабоду, недатыкальнасць і годнасць асобы» (артыкул 25).

**Вывады.** *1. Права — ёсць аснова цывілізаванага парадку, міру і свабоды грамадства, неабходная ўмова развіцця і ўдасканальвання асобы. 2. Правы і свабоды асобы з'яўляюцца ядром, сутнасцю сучаснага разумення права. 3. Сучаснае ўяўленне аб правах і свабодах чалавека і грамадзяніна — вынік працяглай эвалюцыі грамадства і культуры. 4. У аснове гістарычнага фарміравання правоў і свабод чалавека ляжыць развіццё асобы і яе годнасць.*

### Слоўнік

**Адказнасць** — мяжа свабоды асобы, якая выяўляецца ў яе здольнасці ўсведамляць і ўлічваць наступствы сваіх дзеянняў у адносінах да другіх людзей, да грамадства.

**Закон юрыдычны** — нарматыўны акт, які прыняты вышэйшым органам дзяржаўнай улады ва ўстаноўленым Канстытуцыяй парадку.

**Норма права** — гэта ўстаноўленае або санкцыяніраванае дзяржавай правіла паводзін, якое рэгулюе пэўную разнавіднасць грамадскіх адносін.

**Права** — сістэма агульнаабавязковых правіл паводзін (норм), якія ўстанаўлівае або санкцыяніруе дзяржава ў мэтах рэгулявання грамадскіх адносін; мера свабоды асобы.

**Санкцыяніраваць** — зацвярджаць, дазваляць.

**Свабода асобы** — сацыяльна-гістарычна абумоўленая магчымасць выбіраць, прымаць рашэнне і паступаць на аснове ўнутранага развагання, а не знешняга прымусу.

?

1. Што агульнае і ў чым розніца саслоўна-класавых і асабістых правоў чалавека ў канстытуцыйна-прававых дакументах мінулага?
2. Ці мелі правы рабы? прыгонныя сяляне?
3. У чым заключаецца годнасць асобы?

## ПРАКТЫКУМ

### ПАДУМАЙЦЕ

1. Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека 1948 г. у артыкуле 1 абвяшчае: «Усе людзі нараджаюцца свабоднымі і роўнымі ў сваёй годнасці і правах...» Артыкул 2 канкрэтызуе першае палажэнне: «Кожны чалавек павінен валодаць усімі правамі і ўсімі свабодамі, якія абвешчаны гэтай Дэкларацыяй».

Успомніце і пералічыце асноўныя з абвешчаных Дэкларацыяй правоў і свабод.

2. Як вы разумееце сцвярджэнне, якое запісана ў пачатку прэамбулы Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, аб тым, што «прызнанне годнасці, якая ўласціва ўсім членам чалавечай сям'і, і роўных і неад'емных правоў іх з'яўляецца асновай свабоды, справядлівасці і ўсеагульнага міру на Зямлі»?

3. Ці згодны вы з шырокавядомым выказваннем А. Д. Сахарава аб тым, што правы і свабоды чалавека ў сучасным свеце з'яўляюцца да таго ж і асновай навукова-тэхнічнага прагрэсу? Чаму?

### ТЭСТ

Асноўныя правы і свабоды грамадзян Рэспублікі Беларусь запісаны ў Канстытуцыі. Канстытуцыя — Асноўны Закон нашай дзяржавы. Можна, значыць, сцвярджаць, што нашы правы і свабоды:

а) дадзены нам уладай Прэзідэнта;
б) дадзены ўладай Нацыянальнага парламента;
в) дадзены ўладай урада;
г) дадзены воляй народа;
д) належаць нам ад нараджэння.

Якое з пяці сцвярджэнняў вы лічыце слушным? Патлумачце чаму.

### ПАРАЎНАЙЦЕ

Французскі мысліцель Шарль Мантэск'е ў XVIII ст. пісаў: «Свабода ёсць права рабіць усё, што дазволена законам».

У 80—90-х гг. у перыяд перабудовы ў СССР быў модным тэзіс «Дазволена ўсё, што не забаронена».

Два выказванні абазначаюць адно і тое або ў іх ёсць розніца? Патлумачце.



### З Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека

Артыкул 29 (пункт 2). Пры ажыццяўленні сваіх правоў і свабод кожны чалавек павінен мець толькі тыя абмежаванні, якія ўстаноўлены законам выключна з мэтай забеспячэння належнага прызнання і задавальнення справядлівых патрабаванняў маралі, грамадскага парадку і агульнага дабрабыту ў дэмакратычнай дзяржаве.

Прааналізуйце, у якіх выпадках магчыма абмежаванне правоў і свабод індывіда.

### ПРЫСЛУХАЕМСЯ

***Сутнасць права заключаецца ў раўнавазе двух маральных інтарэсаў: асабістай свабоды і агульнай карысці.***

*У. С. Салаўёў*

***Права моцнага — гэта самае вялікае бяспраўе.***

*М. Эбнер-Эшэнбах*

***Народ павінен абараняць закон, як сваю апору, як ахавальную сваю сцяну.***

*Геракліт*

***Закон ёсць вышэйшае праяўленне чалавечай мудрасці, якое выкарыстоўвае вопыт людзей на карысць грамадства.***

*С. Джонсан*

***Каб краіна магла жыць, неабходна, каб жылі правы.***

*Адам Міцкевіч*

***Закон кіруе людзьмі, розум — законам.***

*Т. Фулер*

***Вялікай пахвалы ў справядлівасці заслугоўвае той, хто ахоўвае непахіснасць устанаўленняў і законаў айчыны.***

*Андрэй Волан*

***Свабода асобы — вялікая справа; на ёй і толькі на ёй можа вырасці свабода народа. У сабе чалавек павінен пава-***

*жаць сваю свабоду і шанаваць яе не менш, чым у блізкім, чым у цэлым народзе.*

А. І. Герцэн

*Права — гэта ўсё тое, што сапраўдна і справядліва.*

В. Гюго

**Што можна прачытаць**


Общая теория прав человека. М., 1996.

Алексеев А. А. Право. Законы, правосудие, юриспруденция в жизни людей: Начальные сведения. 9—11 кл. М., 1998.

Права человека в истории человечества и в современном мире. М., 1989.

Трошкин Ю. В. Права человека: Учеб. пособие. М., 1997.

Рябков И. А. Права и свободы человека // Чалавек. Грамадства. Свет. 1998. № 4.


# § 20. Правы чалавека

## Тры пакаленні правоў

Надзвычай добрыя радкі грэчаскага паэта Яніса Рыцаса (1909—1990): «Свабода — наша маці, і свет — яе дзіця». У іх закладзены глыбокі сэнс: неацэнная роля свабоды для людзей. За апошнія стагоддзі, з пачатку эпохі першых буржуазных рэвалюцый, адбылося значнае пашырэнне правоў чалавека. У гэтым відаць гістарычнае «сталенне» (прагрэс) грамадства, станаўленне ўсё больш шматаспектнай культуры. У гэтай сувязі сацыёлагі, правазнаўцы выдзяляюць у развіцці права Новага і Навейшага часу тры пакаленні правоў, якія адлю-



Свабода. Карціна мастака Н. Валена. 1793—1794 гг. З кап'ём і чырвоным каўпаком у адной руцэ і «Дэкларацыяй правоў чалавека» — у другой яна папіхае ланцугі рабства



**ПАКАЛЕННІ ПРАВОЎ**

- ГРАМАДЗЯНСКІЯ І ПАЛІТЫЧНЫЯ, ЯКІЯ БЫЛІ АБВЕШЧАНЫ Ў ЧАС БУРЖУАЗНЫХ РЭВАЛЮЦЫЙ XVIII ст.
- САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНЫЯ, ЯКІЯ ЎЗНІКЛІ Ў ВЫНІКУ РАБОЧАГА І САЦЫЯЛІСТЫЧНАГА РУХУ Ў XIX – пач. XX ст.
- САЦЫЯЛЬНА-КУЛЬТУРНЫЯ, ЯКІЯ ФАРМІРУЮЦЦА ПАД УПЛЫВАМ НАВУКОВА-ТЭХНІЧНАГА ПРАГРЭСУ
- КАЛЕКТЫЎНЫЯ, ПРАВА САЛІДАРНАСЦІ НАРОДАЎ, РОЗНЫХ СУПОЛЬНАСЦЕЙ, ДЗЯРЖАЎ

строўваюць паслядоўна ўзнікаючыя новыя патрэбнасці грамадства і індывідаў і спосабы іх задавальнення.

*Першае пакаленне* правоў — грамадзянскія і палітычныя правы і свабоды. Яны былі абвешчаны амерыканскай і французскай рэвалюцыямі XVIII ст. *Другое пакаленне* — сацыяльна-эканамічныя правы. Гэтыя правы былі звязаны з рабочым і сацыялістычным рухам, які разгарнуўся ў XIX — пачатку XX ст., і забяспечвалі сацыяльную абароненасць грамадзян (права на працу, адпачынак, адукацыю і г. д.). *Трэцяе пакаленне* правоў складалася ўсё XX стагоддзе па меры эвалюцыі

сучаснага грамадства і перш за ўсё пад уплывам навукова-тэхнічнага прагрэсу. Цяпер стаіць задача юрыдычнага замацавання правоў і свабод чалавека ў адносінах культуры, інфармацыі, узроўню жыцця, міжнародных сувязей і г. д.

Да трэцяга пакалення далучаюцца таксама калектыўныя правы, якія часам называюць правамі салідарнасці, і некаторыя даследчыкі адносяць іх да чацвёртага пакалення правоў. Гэта правы народаў, этнасаў, розных супольнасцей, асацыяцый, дзяржаў. Да такіх правоў адносяцца, напрыклад, правы народаў на самавызначэнне, на распараджэнне ўласнымі прыроднымі рэсурсамі, на чыстае навакольнае асяроддзе і г. д.

Ва ўмовах шматлікіх міжнацыянальных і этнічных канфліктаў у сучасным свеце існуюць складаныя праблемы ўзаемаадносін калектыўных і індывідуальных правоў людзей.

Зразумела, у кожнай краіне канстытуцыйнае замацаванне правоў мае сваю спецыфіку. У той жа час устанаўліваюцца міжнародныя стандарты правоў і свабод, якіх неабходна прытрымлівацца ў любой краіне свету.

## Сучасныя міжнародныя прававыя стандарты

Сёння ўзровень прававой культуры грамадства вызначаецца не толькі паслядоўным пашырэннем правоў і свабод чалавека. Паказальна тое, што пад знакам правоў і свабод чалавека ў наш час праходзяць працэсы дэмакратызацыі і гуманізацыі грамадства, ажыццяўляецца палітыка ўмацавання міру і супрацоўніцтва народаў. Народы свету імкнуцца пераадолець небяспечны раскол і канфрантацыю, што раздзялялі іх на працягу многіх дзесяцігоддзяў. Асабліва наглядна гэта тэндэнцыя прасочваецца ў Еўропе, якая стала ў XX ст. арэнай дзвюх сусветных войнаў і дзе ў 50—60-я гг. існавала небяспека ўзнікнення новай, яшчэ больш жудаснай, атамнай вайны.

У 1990 г. на нарадзе кіраўнікоў 34 дзяржаў Еўропы, ЗША і Канады была прынята Парыжская хартыя для Новай Еўропы. Яна завяршыла Хельсінскі працэс сусветнага збліжэння Захаду і Усходу, які пачаўся ў 1975 г. Парыжская хартыя з новай сілай выказала імкненне народаў Еўрапейскага кантынента да эканамічнага росквіту, сацыяльнай справядлівасці і роўнай бяспекі для ўсіх, яна ўтрымлівала ідэю «цвёрдай



прыхільнасці дэмакратыі, заснаванай на правах чалавека».

Акрамя гэтага, пад эгідай (абаронай) ААН і норм міжнароднага права сусветнае грамадства ўмацоўвае барацьбу супраць расізму і нацыяналізму, апартэіду і генацыду (ізаляванне, знішчэнне супольнасцей людзей, якія маюць этнічныя адрозненні), тэрарызму. Усё гэта — праяўленне прававога нігілізму (адмаўленне агульнапрынятых каштоўнасцей), які несумяшчальны з патрабаваннямі цывілізаванага грамадства.

Права кожнага з нас, хто жыве ў дэмакратычным грамадстве, ведаць свае правы і дзейнічаць у адпаведнасці з імі. Некалькі гадоў таму ў нашай краіне была створана Беларуская ліга правоў чалавека. Ёсць таксама перыядычнае выданне «Права человека», у якім друкуюцца матэрыялы па гісторыі, тэорыі і практыцы абароны правоў чалавека ў Рэспубліцы Беларусь і іншых краінах.

Для чаго гэта патрэбна? Для таго, каб дапамагчы чалавеку абараніць свае правы як асобы ад неправамоцнага ўмяшання, злоўжыванняў і ўціску з боку ўсіх тых, хто валодае ўладай. Разам з тым, згодна з усімі міжнароднымі стандартамі правоў і свабод, ад дзяржавы патрабуецца забяспечыць чалавеку годнае існаванне. Яна павінна праводзіць такую сацыяльную палітыку, якая б гарантавала індывіду неабходную меру сацыяльнай абароненасці.

*У міжнародных дакументах аб правах і свабодах індывід выступае ў якасці суб'екта міжнароднага права нараўне з дзяржавай.*

## Баланс правоў і абавязкаў

*Кожны з нас валодае натуральнымі і неадчужальнымі правамі чалавека. Але ў той жа час мы павінны ведаць і выконваць свае абавязкі перад грамадствам.* Прававыя адносіны ўвогуле складаюцца з узаемных правоў і абавязкаў іх удзельнікаў. Інакш спараджаюцца безадказнасць, самавольства і злачыннасць. Невыпадкова на розных форумах міжнароднага ўзроўню робяцца прапановы дадаткова распрацаваць да Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека яшчэ і Усеагульную дэкларацыю абавязкаў чалавека.

Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь у гэтых адносінах дастаткова далёка прайшла наперад у дасягненні балансу правоў і абавязкаў грамадзян. Яна ўтрымлівае шэраг артыкулаў

(32, 52—57 і інш.), якія абавязваюць грамадзян рэспублікі выконваць Канстытуцыю і законы — беражліва адносіцца да нацыянальных традыцый, ахоўваць прыроду, плаціць падаткі, абараняць Радзіму, бацькі абавязаны клапаціцца аб дзецях, а дзеці — аб састарэлых бацьках і інш. Артыкул 53 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь надае выразную, канкрэтную і ўсеагульную форму абавязкам грамадзяніна — «паважаць годнасць, правы, свабоды, законныя інтарэсы іншых асоб».

Разам з развіццём прагрэсу развіваюцца і ўсё больш ускладняюцца ўзаемаадносіны асобы і грамадства. Прамымі абавязкамі сучаснага чалавека сёння з'яўляюцца: захоўванне чыстым навакольнага асяроддзя; захоўванне не толькі прававых, але і палітычных і маральных норм грамадства; аказанне дапамогі людзям пры небяспецы, няшчасных выпадках або катастрофах; непрымяненне насілля ва ўзаемаадносінах з людзьмі і вырашэнне ўсіх канфліктаў шляхам кампрамісаў, перагавораў або з дапамогай дзяржаўных органаў.

## Шматпланавасць прававой культуры

Усведамленне і разуменне сваіх правоў і свабод, як і абавязкаў, эфектыўнасць іх рэалізацыі значна залежаць ад узроўню правасвядомасці і прававой культуры грамадзян і грамадства ў цэлым. Правасвядомасць асобы, якая ўтрымлівае ў сабе яе адносіны да права і яго прадпісанняў, да прававых з'яў, у значнай меры вызначае сацыяльныя, г. зн. прававыя і маральныя, паводзіны людзей, іх узаемаадносіны паміж сабой і з грамадствам. ***Узровень правасвядомасці*** *з'яўляецца важным паказчыкам прававой і агульнай культуры грамадства і асобы.* Чым вышэйшыя правасвядомасць і прававая культура кожнага з нас, тым мацнейшыя ў грамадстве законнасць і правапарадак, тым больш упэўнены мы ў забеспячэнні і гарантаванасці нашых правоў і свабод, тым больш добрасумленна мы выконваем нашы абавязкі перад людзьмі, грамадствам і дзяржавай.

Паняцце «прававая культура» шматпланавае. Пад прававой культурай грамадства разумеюць стан прававой сістэмы, узровень правасуддзя, праватворчасці, навуковыя дасягненні ў галіне юрыспрудэнцыі. Прававая культура асобных грамадзян азначае высокі ўзровень іх правасвядомасці, юрыдычную дасведчанасць. Сюды ж уваходзіць дзейнасць людзей па выкананні прававых норм у паўсядзённым жыцці, абарона іх прававых перакананняў і ўяўленняў.



Зразумела, усё гэта патрабуе не толькі глыбокага ведання права, але і яго прызнання і павагі. Інакш узнікаюць такія надзвычай разбуральныя для грамадства і асобы з'явы, як прававы нігілізм і маральны цынізм (ад *грэч.* kynismos — нахабныя, пагардлівыя адносіны да агульнапрынятых правіл маральнасці і добрапрыстойнасці).

Асновы прававой культуры закладваюцца ў дзяцінстве. *Юны грамадзянін павінен імкнуцца не толькі ведаць, але і засвойваць нормы права. Яму неабходна ўмець правільна суадносіць уласныя жаданні і мэты з інтарэсамі іншых грамадзян і грамадства.* Важна ўмець выбіраць і выкарыстоўваць на аснове ведання прававых норм найбольш мэтазгодныя спосабы ажыццяўлення сваіх свабод і юрыдычных абавязкаў.

Прававая адукацыя і выхаванне заўсёды былі і застаюцца важнейшай умовай фарміравання высокай прававой культуры і развіцця правасвядомасці. З мэтай вырашэння гэтых задач у глабальным маштабе ААН абвясціла 1996—2005 гг. дзесяцігоддзем вывучэння правоў і свабод чалавека.

**Вывады.** *1. З прагрэсам грамадства і ростам культуры сфера правоў і свабод чалавека пастаянна пашыраецца. 2. У кожнага з нас ёсць не толькі пэўныя правы, але і адпаведныя абавязкі перад іншымі людзьмі і перад грамадствам. 3. Для кожнага грамадзяніна важна ведаць свае правы, абавязкі і паступаць у адпаведнасці з імі. 4. Высокая прававая культура — неабходная ўмова развіцця і ўдасканальвання як асобы, так і грамадства.*

### Слоўнік

**Апартэід** — палітыка тэрытарыяльнай ізаляцыі і пазбаўлення якіх-небудзь нацыянальных меншасцей і этнічных груп палітычных, сацыяльна-эканамічных, грамадзянскіх і іншых правоў. Сучаснае міжнароднае права лічыць апартэід злачынствам супраць чалавецтва.

**Генацыд** — знішчэнне асобных груп насельніцтва па расавых, нацыянальных, этнічных або рэлігійных прыметах; цяжкае злачынства супраць чалавецтва.

**Прававая культура асобы** — глыбокае веданне і разуменне права, актыўная дзейнасць асобы ў адпаведнасці з юрыдычнымі нормамі.

11. Зак. 148.

**Правасвядомасць** — сістэма поглядаў, перакананняў і тэорый аб адносінах індывідаў і сацыяльных груп грамадства да існуючага права.

?
1. У чым сутнасць трох пакаленняў правоў?
2. Што азначае прававая культура грамадства і асобы ў сучасным сэнсе?
3. Якія сацыяльныя абавязкі ўскладае на грамадзян Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь?

## ПРАКТЫКУМ

### ПАДУМАЙЦЕ

Амерыканскі правазнавец Л. Мех'ю сцвярджае, што «па меры развіцця грамадства павялічваецца колькасць прававых і іншых сацыяльных норм, якія рэгулююць паводзіны і дзейнасць чалавека. Але гэта, нягледзячы на бюракратычныя праблемы, якія пры гэтым узнікаюць, у цэлым вядзе да росту свабоды індывідаў і большага «вызвалення творчай энергіі людзей».

Як вы разумееце гэта сцвярджэнне?

### ПРЫСЛУХАЕМСЯ

***Воля сонейку роўня.***
*Якуб Колас*

***Свабода існуе толькі як адказнасць за тое, што робіш.***
*Т. Уайлдэр*

***Мэта права — забеспячэнне міру.***
*В. Ірвінг*

***Пастулай так, як загадвае абавязак чалавека.***
*Цыцэрон*

***Узлёт у імя абавязку напоўнены паэзіяй.***
*К. Маркс*

***Абавязак без права ёсць рабства; права без абавязку — анархія.***
*Ф. Ламенэ*



### Што можна прачытаць

Словарь прав человека и народов. М., 1993
Права человека: Учебник для вузов / Под ред. Е. А. Лукашовой. М., 1999.
Юхо И. А. Правовая культура // Очерки истории нации и культуры Беларуси. Мн., 1996.

# § 21. Чалавек як грамадзянін

## Кожны чалавек мае права на грамадзянства

Пасля распаду Савецкага Саюза ў новых незалежных дзяржавах узнік шэраг сур'ёзных палітычных праблем. Адной з іх стала пытанне аб грамадзянстве, калі частка некарэннага насельніцтва па розных прычынах (дрэннае веданне дзяржаўнай мовы, недастатковы тэрмін пражывання на тэрыторыі краіны і інш.) аказалася пазбаўленай грамадзянства. Многія адразу ператварыліся ў парый, г. зн. у людзей занядбаных і бяспраўных. Гэта выклікала сацыяльную і палітычную напружанасць як унутры гэтых дзяржаў, так і паміж імі. Як такое магло адбыцца?

Справа нават не ў тым, што ў гэтых дзяржавах былі парушаны фундаментальныя нормы міжнароднага права. У прыватнасці, Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека ў артыкуле 2 абвяшчае, што кожны чалавек павінен валодаць усімі правамі без якога-небудзь адрознення ў адносінах расы, колеру скуры, мовы, рэлігіі, палітычных або іншых перакананняў, нацыянальнага або сацыяльнага паходжання, маёмаснага, саслоўнага або іншага палажэння. У артыкуле 15 таго ж міжнароднага дакумента гаворыцца, што *«кожны чалавек мае права на грамадзянства»* і *«ніхто не можа быць пазбаўлены свайго грамадзянства»*.

Грамадзянскія і палітычныя правы і свабоды — найбольш старажытныя з правоў чалавека. Іх узнікненне адносіцца да часоў антычнай дэмакратыі.

У Старажытнай Грэцыі, напрыклад, толькі свабодны грамадзянін мог прама або ўскосна ўдзельнічаць у распрацоўцы дзяржаўных законаў, гэта значыць прымаць актыўны ўдзел у грамадзянскім і палітычным жыцці. У Новы час грамадзянскія і палітычныя правы былі сцягам і сімвалам буржуазных рэвалюцый у Еўропе і Амерыцы.

Само паняцце грамадзянскіх і палітычных правоў было арганічна звязана з ідэяй *грамадзянскага грамадства.*

## Грамадзянскае грамадства

Ідэя грамадзянскага грамадства была адной з цэнтральных у палітыка-прававой думцы Новага часу, важнейшай састаўной часткай так званай *дагаворнай тэорыі дзяржавы.* Згодна з гэтай тэорыяй, грамадзянскае грамадства — гэта перш за ўсё сфера прыватных (сямейна-бытавых, гаспадарчых і г. д.) узаемаадносін людзей. Такія адносіны пачалі складвацца ў грамадстве тады, калі ўзнікла неабходнасць у замене так званага натуральна-прыроднага стану з яго «барацьбой усіх супраць усіх», які характарызаваўся ўзаемнай знішчальнай барацьбой за выжыванне, або, інакш кажучы, «дзікай» свабодай усіх і кожнага.

Таму жыццядзейнасць людзей патрабавала ўпарадкавання і абмежавання любога самавольства. У выніку ў грамадстве ўзнікла неабходнасць строга рэгламентаваць жыццё людзей. Гэту функцыю і павінна была ўзяць на сябе дзяржава, якая, такім чынам, узнікла на аснове добраахвотнай згоды людзей. Дзяржаве ў дадзенай тэорыі адводзілася роля ўсяго толькі вартаўніка парадку, «начнога вартаўніка» або рэгулятара гаспадарчых адносін паміж людзьмі.

*Тэорыя грамадскага дагавору*, канечне, адна са шматлікіх, якая тлумачыць паходжанне дзяржавы, але тут важна розніца, якая праводзілася паміж дзяржавай і грамадзянскім грамадствам. Грамадства грамадзян не можа дапускаць празмернага ўмяшальніцтва ў сваё жыццё. Грамадзянскае грамадства валодае аўтаномнасцю і пэўнай незалежнасцю ад дзяржавы. Мяжой паміж ім і дзяржавай павінны быць натуральныя свабоды чалавека, якія замацаваны ў дзяржаўных нормах і законах і, такім чынам, прымаюць цывілізаваную форму — форму асноўных грамадзянскіх, «натуральных», неадчужальных правоў асобы.

***Грамадзянскае грамадства** сёння — гэта развітыя эканамічныя, культурныя, прававыя, палітычныя адносіны людзей, якія не апасродкаваны дзяржавай.*

Гарантыяй аўтаноміі грамадзянскага грамадства з'яўляюцца канстытуцыйна замацаваныя і абароненыя дзяржавай



**ІДЭЯ ГРАМАДЗЯНСКАГА ГРАМАДСТВА**
(сумесная ўпарадкаваная жыццядзейнасць людзей)

| ПАДТРЫМАННЕ ПАРАДКУ | **УЛАДА, ДЗЯРЖАВА** | ЗАМАЦАВАННЕ І ГАРАНТЫЯ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА Ў ЗАКОНАХ |
|---|---|---|




| АБАРОНА СВАІХ ПРАВОЎ | **ГРАМАДСТВА, ГРАМАДЗЯНІН** | ВЫЗНАЧАНАЯ НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ АД ДЗЯРЖАВЫ |
|---|---|---|

НЕ ДЗЯРЖАВА ДАЕ СВАБОДУ ГРАМАДЗЯНАМ, А ГРАМАДЗЯНЕ – МЕРУ СВАБОДЫ ДЗЯРЖАВЕ

асноўныя правы і свабоды чалавека. Сярод іх — права на жыццё і асабістую бяспеку, на недатыкальнасць асобы і жылля, на ўласнасць, права на ўдзел у палітычным жыцці і кіраванні дзяржавай, права на дабрабыт і шчасце і інш. Разам з тым забаронены прыгнёт чалавека чалавекам, катаванне і бязлітаснае абыходжанне, пакаранне, якое зневажае чалавечую годнасць. Гарантуецца свабода перамяшчэння і выбару месца жыхарства, свабоды сумлення і перакананняў.

У XVII—XIX стст. у разуменні грамадзянскіх і палітычных правоў існавала размежаванне. Грамадзянскія правы лічыліся неад'емнымі, «натуральнымі», якія вынікаюць з самой прыроды. Палітычныя свабоды разглядаліся як падараваныя чалавеку звыш — дзяржавай, уладаром.

У нашы дні такога выразнага размежавання паміж грамадзянскімі і палітычнымі правамі няма.




Грамадзянскія правы і свабоды належаць кожнаму чалавеку, прычым у роўнай ступені як грамадзяніну дадзенай краіны, так і іншаземцу.

Палітычныя правы, якія звязаны з удзелам у палітычным жыцці краіны, належаць толькі яе грамадзянам. У некаторых заходнееўрапейскіх дзяржавах палітычныя правы зараз даюцца і чужаземцам.

Адным з найбольш фундаментальных палітычных правоў грамадзян з'яўляецца *выбарчае права*. Гэта права грамадзяніна выбіраць органы ўлады і быць выбраным у дзяржаўныя органы. У Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь палітычныя правы грамадзян, у тым ліку і такія, як свабода слова, сходаў, мітынгаў, свабоднае выказванне думак і перакананняў і г. д., замацаваны ў артыкулах 33, 35, 37, 38, 39.

У артыкуле 22 Канстытуцыі нашай дзяржавы замацаваны прынцып роўнасці ўсіх грамадзян перад законам. У адпаведнасці з ім грамадзяне маюць права без усякай дыскрымінацыі па прымеце расы, колеру скуры, мовы, рэлігіі і г. д. на роўную абарону іх правоў і законных інтарэсаў.



У сістэме асноўных правоў і свабод грамадзян галоўнымі з'яўляюцца правы чалавека на жыццё і асабістую недатыкальнасць, годнасць, свабоду думкі, сумлення, перакананняў.

## Права на жыццё

*Жыццё — вышэйшая каштоўнасць чалавека.* Таму права на жыццё — выключнае, фундаментальнае права кожнага. Без яго належнага забеспячэння нельга гаварыць што-небудзь аб іншых правах і свабодах.

*У сучасным свеце права на жыццё — адна з асноўных міжнародных норм права, і любое абмежаванне права на жыццё прызнаецца і ажыццяўляецца толькі на аснове закону*, напрыклад у выпадку прымянення смяротнай кары за асабліва цяжкія злачынствы. Але нават тут Міжнародны Біль аб правах выпрацаваў норму, якая забараняе выносіць смяротны прыгавор цяжарным жанчынам і асобам, маладзейшым за 18 гадоў. Міжнародны Біль аб правах заклікае ўсе краіны свету адмяніць смяротную кару. Цяпер больш за 40 % краін адмянілі смяротную кару.

Права на жыццё — вельмі ёмістае паняцце. Яно, акрамя права на непрымяненне пакарання смерцю, уключае недатыкальнасць асобы, недапушчальнасць замахаў на здароўе і існаванне чалавека, стварэнне неабходных экалагічных умоў для паўнакроўнай дзейнасці, аказанне медыцынскай дапамогі і інш.

Забеспячэнне права на жыццё з'яўляецца важным элементам міжнароднай палітыкі ва ўзаемаадносінах дзяржаў, стымулюе іх праводзіць палітыку, якая накіравана перш за ўсё на прадухіленне войнаў. Менавіта войны з'яўляюцца самым бесчалавечным адмаўленнем права на жыццё мільёнам людзей. Акрамя гэтага, права на жыццё, як міжнародны стандарт, абавязвае кожную дзяржаву весці нястомную барацьбу са злачыннасцю ў сваёй краіне, каб абараніць жыццё грамадзян.

Права на жыццё мае на ўвазе таксама абавязак дзяржавы ўсімі магчымымі сродкамі перашкаджаць самагубству чала-

века як акту штучнага спынення жыцця. Сёння заканадаўствам большасці развітых краін самагубства не разглядаецца як злачынства. Таму ў канстытуцыях гэтых краін заканадаўчай забароны на самагубства няма. Пакуль самагубства толькі з пункту погляду маралі лічыцца ў грамадстве заганным.

Права на жыццё непарыўна звязана з правам на асабістую недатыкальнасць. *Асабістая недатыкальнасць чалавека з'яўляецца прамым выказваннем свабоды і годнасці асобы.* Таму права на свабоду і асабістую недатыкальнасць таксама з'яўляецца фундаментальным правам чалавека. Артыкул 25 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь абвяшчае, што «дзяржава забяспечвае свабоду, недатыкальнасць і годнасць асобы».

Права на жыццё — гэта таксама права чалавека жыць у нармальных экалагічных умовах. У сучасным свеце існуюць вялікія тэхнагенныя нагрузкі на навакольнае асяроддзе, стан якога непасрэдна ўплывае на здароўе чалавека. Таму ў адпаведнасці з міжнароднымі стандартамі Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь у артыкуле 46 замацоўвае права кожнага на спрыяльнае навакольнае асяроддзе і на пакрыццё шкоды, якая стала вынікам парушэння гэтага права. У артыкуле 34 гарантуецца права на атрыманне, захоўванне і распаўсюджванне поўнай і своечасовай інфармацыі аб стане навакольнага асяроддзя (поруч з інфармацыяй аб палітычным, эканамічным і міжнародным жыцці). Разам з правам на спрыяльнае навакольнае асяроддзе Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь замацоўваецца права на ахову здароўя, у тым ліку бясплатнае лячэнне ў дзяржаўных установах па ахове здароўя (артыкул 45). У той жа час артыкул 55 нашай Канстытуцыі абвяшчае неабходнасць і абавязак кожнага ахоўваць навакольнае асяроддзе.






Санаторый-прафілакторый «Сосны» на курорце Нарач



У сувязі з катастрофай на Чарнобыльскай АЭС для нашай дзяржавы названыя канстытуцыйныя правы чалавека вельмі важныя і актуальныя. Яны абавязваюць дзяржаву ўдасканальваць заканадаўства па абароне гэтых правоў з тым, каб зменшыць наступствы аварыі і стварыць прымальныя ўмовы для жыцця на забруджаных тэрыторыях, а таксама нарматыўныя ўмовы жыцця для перасяленцаў на новых месцах.

**Вывады.** *1. Сучасная хартыя правоў чалавека абвяшчае права кожнага на грамадзянства, у адпаведнасці з гэтым ніхто не можа быць адвольна пазбаўлены свайго грамадзянства. 2. У прававой дзяржаве правы і свабоды грамадзяніна замацаваны ў Канстытуцыі. 3. Фундаментальнымі правамі чалавека з'яўляюцца права на жыццё, свабоду і недатыкальнасць асобы. 4. Права чалавека на спрыяльнае навакольнае асяроддзе, на ахову здароўя з'яўляецца вытворным ад права на жыццё.*

**Слоўнік**

**Дыскрымінацыя** — прыніжэнне правоў якой-небудзь групы людзей.

**Экалогія** (ад *грэч.* óikos — дом, радзіма і logos — вучэнне) — навука аб праблемах узаемаадносін чалавека і грамадства з навакольным асяроддзем.

**?**

1. У чым сутнасць тэорыі грамадскага дагавору?
2. Якімі павінны быць узаемаадносіны грамадзянскага грамадства і дзяржавы?
3. Чым адрозніваюцца грамадзянскія правы ад палітычных?
4. Якія вы можаце назваць прававыя нормы аб узаемаадносінах чалавека і грамадства з навакольным асяроддзем?

## ПРАКТЫКУМ

### ПАДУМАЙЦЕ

Вышэйшая каштоўнасць чалавека — жыццё. Па словах філасафа Канта, «пазбаўленне сябе жыцця ёсць злачынства (забойства)». У гэтым выпадку, лічыў ён, чалавек разбурае ў сабе асобу з усімі яе маральнымі абавязкамі і доўгам перад людзьмі і грамадствам.

Рэлігія таксама асуджае самагубства як грэх. Згодна з рэлігійнымі ўяўленнямі толькі ад Бога залежаць жыццё і смерць чалавека.

У нашы дні ў шэрагу краін ёсць аўтарытэтныя грамадскія рухі, якія выступаюць за заканадаўчае замацаванне не толькі права на добраахвотную эўтаназію (*грэч.* «эў» — добры і «танатас» — смерць), але і аказанне ў гэтым выпадку медыцынскай дапамогі для спынення празмерных пакут чалавека ад невылечнай і страшэннай хваробы.

Выкажыце сваё меркаванне па гэтым пытанні.

**Закон Рэспублікі Беларусь**
**«Аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь»**
**ад 18 кастрычніка 1991 г.**
(са зmяненнямі і дапаўненнямі на 9 лістапада 1999 г.)

Артыкул 4, які вызначае права на грамадзянства, абвяшчае, што грамадзянін Рэспублікі Беларусь не можа быць пазбаўлены грамадзянства Рэспублікі Беларусь або права змяніць грамадзянства.



Артыкул 7 гэтага закону канстатуе, што дакументам, які сведчыць аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь, з'яўляецца пашпарт грамадзяніна Рэспублікі Беларусь.

Якім артыкулам Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека 1948 г. адпавядаюць гэтыя палажэнні закону Рэспублікі Беларусь «Аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь»?

Артыкул 8 закону называе падставы для набыцця грамадзянства Рэспублікі Беларусь: 1. Па нараджэнні. 2. У парадку рэгістрацыі (ад 17). 3. У выніку прыёму ў грамадзянства Рэспублікі Беларусь.

У адносінах да якіх асоб і чаму называюцца гэтыя падставы?

**Грамадзянскі кодэкс Рэспублікі Беларусь** (Мн., 1999)

Артыкул 16. Правоздольнасць грамадзяніна ўзнікае ў момант яго нараджэння і спыняецца з яго смерцю.

Артыкул 18. Грамадзянін набывае і ажыццяўляе правы і абавязкі пад сваім імем, якое ўключае прозвішча, імя і імя па бацьку (калі такое ёсць)... Набыццё правоў і абавязкаў пад імем іншай асобы недапушчальна.

### ПРЫСЛУХАЕМСЯ

***Для грамадзян больш карысна, калі працвітае ўся дзяржава ў цэлым, а не калі асобныя людзі працвітаюць, цэлае ж разбураецца.***

*Фукідзід*

***Грамадзянскае праяўленне — гэта воля ўсіх, якую выконвае адзін або некалькі, па сіле законаў, вынесеных усімі.***

*Вальтэр*

***Жыццё жывое і цудоўнае энергічнай працай, жыццё не цяжар, а крылы, творчасць і радасць, а калі хтоператварыў яго ў цяжар, у гэтым ён сам вінаваты.***

*В. Верасаеў*

***Ніякая асоба і ніякое мноства асоб не маюць права сказаць іншай чалавечай істоце сталага ўзросту, што яна не смее для ўласнай выгады распараджацца сваім жыццём, як ёй пажадана.***

*Дж. Міл*

**Што можна прачытаць**

Котляр И. И. Права человека: Пособие для студентов. Мн., 1996.
Права человека: Сб. универсальных и региональных документов. М., 1990.
Сахаров А. Д. Мир, прогресс, права человека. М., 1990
Становление гражданского общества в Беларуси в контексте стратегии устойчивого развития: Тезисы докладов и сообщений Международной научно-практической конференции. Минск, 24—26 мая 1999 г. Мн., 1999.

# § 22. Правы і свабоды чалавека ў сучасным свеце

## Мы — носьбіты права

У сучасных дэмакратычных дзяржавах канстытуцыя замацоўвае правы і абавязкі чалавека і стварае надзейную аснову для абароны ім сваёй асобы і свабоды.

У гісторыі чалавецтва прававыя формы арганізацыі жыцця людзей пастаянна ўдасканальваліся. Калі ў эпоху антычнасці і сярэдневякоўя правы чалавека залежалі ад саслоўна-класавай прыналежнасці, у далейшым — у Новы час — атрымаў развіццё прынцып абстрактнай, фармальнай роўнасці фактычна розных людзей без іх прыналежнасці да таго або іншага слою грамадства. Сёння кожны чалавек з'яўляецца суб'ектам, носьбітам права і выступае ў ролі юрыдычна прызнанага ўдзельніка пэўных прававых адносін. Такія адносіны ў грамадстве рэгулююцца асаблівымі прававымі нормамі — кодэксамі грамадзянскага права, адміністрацыйнага права, крымінальнага права і інш.

*У сучаснай сістэме дэмакратычнага грамадства і дзяржавы статус грамадзяніна вызначаецца ўяўленнем аб чалавеку як аб свабоднай разумнай істоце.* Людзі ўступаюць у грамадзянскі стан і палітычны саюз з мэтай забеспячэння сваёй бяспекі, свабоды, уласнасці і шчасця. Такой была трактоўка ўзнікнення грамадства і дзяржавы яшчэ ў тэорыях грамадскага дагавору і натуральнага права XVII—XVIII стст. Асноўныя асабістыя правы чалавека разглядаліся тут як вечныя, неад'емныя, натуральныя і свяшчэнныя, уласцівыя яму ад прыроды. Лічылася, што менавіта забыццё і грэбаванне правамі чалавека, як заяўлялася і ў французскай Канстытуцыі 1791 г., «з'яўляюцца адзінымі прычынамі грамадскіх бядот і заган урада».






## Міжнародныя дакументы аб правах чалавека

Значэнне французскай рэвалюцыі 1789—1799 гг. заключаецца ў тым, што яна ў сваіх канстытуцыйна-прававых дакументах зрабіла пералік правоў асобы, які стаў асновай далейшага развіцця Міжнароднага права, у тым ліку і сучаснага Міжнароднага Біля аб правах чалавека. Біль аб правах чалавека ўключае ў сябе, акрамя Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, Міжнародны пакт аб эканамічных, сацыяльных і культурных правах і Міжнародны пакт аб грамадзянскіх і палітычных правах, якія былі прыняты Генеральнай Асамблеяй ААН у 1966 г. і ўвайшлі ў сілу ў 1976 г. Ва Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека заяўляецца, што

варварства і бязлітаснасць мінулай сусветнай вайны выкліканы грэбаваннем правамі чалавека і што іх прызнанне і абарона з'яўляюцца асновай усеагульнага міру, свабоды і сяброўскіх адносін паміж народамі.

За гады, якія прайшлі пасля заканчэння другой сусветнай вайны, у сістэме ААН былі распрацаваны і прыняты дзесяткі розных канвенцый, дэкларацый, пратаколаў і рэзалюцый аб правах чалавека. У іх выразна вызначыўся прававы статус чалавека як грамадзяніна, бежанца, беспрацоўнага, апатрыда (пазбаўленага радзімы), дзіцяці, зняволенага, веруючага, іншадумца і г. д.

Вельмі важным з'яўляецца тое, што *прававыя нормы, замацаваныя ў Статуце ААН і ў Білі аб правах, выступаюць цяпер як міжнародныя агульначалавечыя стандарты.* Яны маюць сілу юрыдычных норм як нацыянальна-дзяржаўнага, так і міжнароднага права. Да таго ж створана разгалінаваная сістэма Міжнароднага кантролю і абароны правоў асобы. Пры ААН дзейнічае Камітэт па правах чалавека. Ён вывучае справы ў гэтай галіне ў асобных краінах і ў свеце ў цэлым, дапамагае асобным грамадзянам і іх групам абараняць свае правы.

Разам з прававымі структурамі ААН у пасляваенны час складваліся сістэмы абароны правоў і свабод асобы з рэгіянальна-геаграфічнай спецыфікай. Так, яшчэ ў 50-я гг. была створана сістэма абароны правоў у Еўропе ў рамках так званага Еўрапейскага супольніцтва. Былі выпрацаваны Еўрапейская канвенцыя аб абароне правоў чалавека і асноўных свабод, Еўрапейская сацыяльная хартыя.

У цяперашні час Еўрапейскае супольніцтва паступова перарастае ў сістэму аб'яднання ўсіх краін Еўропы («Агульны еўрапейскі дом»). Ужо большасць дзяржаў планеты ў сваёй дзейнасці кіруюцца дакументамі, якія ўваходзяць у Міжнародны Біль аб правах. Гэта гаворыць пра тое, што чалавецтва цвёрда і ўпэўнена арыентуецца на ідэал свабоднай чалавечай асобы, якая валодае сістэмай агульнапрызнаных правоў і свабод.

## «Асновы ўсяго правапарадку»

У сучасным грамадстве правы чалавека набылі такую важную ролю, што іх часам называюць «фундаментальнымі асновамі ўсяго правапарадку» і нават усёй нашай цывілізацыі. Чаму?

Уся справа ў тым, што сёння прыйшло разуменне таго, што грамадства — гэта перш за ўсё людзі, і менавіта яны — рашаючая сіла гістарычнага прагрэсу. А прагрэс чалавечай культуры ўзвышае годнасць людзей, якая і заключаецца ў яе аўтаноміі, свабодзе і крытычным розуме.

Сучаснае разуменне свабоды асобы пачало фарміравацца тады, калі зараджаліся гарады і рамёствы, яшчэ ў часы сярэдневякоўя, калі рамеснікі, купцы пачалі разлічваць у сваёй жыццядзейнасці толькі на сябе, на сваё ўменне ствараць умовы для ўласнай працы, для рэалізацыі прадуктаў сваёй дзейнасці. З развіццём буржуазных адносін асоба, яе свабода, прадпрымальніцтва і актыўнасць ва ўсіх сферах чалавечай дзейнасці пачалі ўспрымацца як адна з асноў сацыяльнага жыцця. Таму падчас рэвалюцый XVII—XVIII стст. свабода асобы, яе галоўныя правы, якія прызнаваліся за «ўсімі членамі чалавечай сям'і», былі канстытуцыйна замацаваны.

У нашай тэхнагеннай цывілізацыі сацыяльны і прававы ўзровень чалавека, яго развіццё, кампетэнтнасць, уменне карыстацца сваёй свабодай і правамі звязаны з функцыяніраваннем складанай вытворчасці. Таму значнасць чалавечай асобы ў грамадстве вельмі ўзрасла. *Усё большае прызнанне і замацаванне годнасці чалавека ў форме правоў асобы азначае ўступленне чалавецтва ў «дарослы стан», імкненне да большай гуманізацыі і «ачалавечвання» грамадскіх адносін.* Забеспячэнне і абарона правоў і свабод асобы павінны стаць цвярджэнне і абарона правоў і свабод асобы павінны стаць асновай свабоды, справядлівасці і міру на Зямлі.

**Вывады.** *1. Суб'ектам (носьбітам і творцам) усіх правоў і свабод з'яўляецца чалавек як асоба, што гістарычна фарміруецца і развіваецца. 2. У сучасным свеце склалася і дзейнічае пад эгідай ААН стройная сістэма міжнародных дакументаў аб правах і свабодах чалавека. 3. Прызнанне і абарона правоў чалавека ляжаць у аснове сучаснай чалавечай цывілізацыі і міжнароднага супольніцтва.*

### Слоўнік

**Асоба** — індывід, які свядома вызначае свае адносіны да навакольнага свету.

**Грамадзянін** — чалавек, які характарызуецца сваёй прававой прыналежнасцю да той або іншай дзяржавы.

**Грамадзянства** — палітычная і прававая прыналежнасць чалаве-

ка да пэўнай дзяржавы; законы, дадзеныя свабоды і ўстаноўленыя абавязкі, якія на яго распаўсюджваюцца.

**Дэкларацыя** — афіцыйная заява, урачыстае абвяшчэнне прынцыпаў палітыкі, асноўных палажэнняў, якіх-небудзь праграм.

**Канвенцыя** (пагадненне) — адзін з відаў міжнароднага дагавору; устанаўлівае ўзаемныя правы і абавязкі дзяржаў у якой-небудзь асобнай галіне.

?

1. Ці можа быць асобай чалавек без правоў і свабод?
2. Назавіце асноўныя прававыя дакументы аб правах чалавека.
3. Якія спосабы і сродкі абароны правоў і свабод чалавека прадугледжаны міжнароднымі дакументамі аб правах чалавека?
4. Чаму адносіны да абароны правоў чалавека ў дзяржаве вызначаюць узровень дэмакратычнага развіцця грамадства?

## ПРАКТЫКУМ

### ПАДУМАЙЦЕ

1. У Дэкларацыі правоў чалавека і грамадзяніна 1789 г. (Францыя) гаворыцца, што грэбаванне правамі чалавека і іх парушэнне ёсць прычына грамадскіх бядот і заган правіцеляў і ўлады.

Як вы гэта растлумачылі б?

2. Пры вырашэнні якога-небудзь канфлікту, звязанага з парушэннем правоў чалавека на тэрыторыі нашай дзяржавы, магчыма сутыкненне норм нацыянальнага і міжнароднага права.

У адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь якімі нормамі неабходна кіравацца ў гэтым выпадку?

### ТЭСТ

Што з пералічанага адносіцца да прымет прававой дзяржавы: *а)* наяўнасць законаў; *б)* вяршэнства права; *в)* усенароднае выбранне прэзідэнта; *г)* падзел улад; *д)* наяўнасць двухпалатнага парламента; *е)* непахіснасць правоў і свабод грамадзяніна?

### ПРЫСЛУХАЕМСЯ

***Роўнасць — гэта вялікая формула людзей.***

*А. Барбюс*

***Ні адзін чалавек не змагаецца супраць свабоды, — змагаецца чалавек найбольш супраць свабоды іншых.***

*К. Маркс*



***Усе людзі па прыродзе роўныя.***

*Т. Гобс*

***Свабодным создан человек,***
***Свободен он, хотя б в оковах он родился.***

*І. Шылер*

***Задача права зусім не ў тым, каб свет, які ляжыць у зле, ператварыць у Царства Божае, а толькі ў тым, каб ён — да часу — не ператварыўся ў ад.***

*У. С. Салаўёў*

### Што можна прачытаць


Права человека: Сб. международных документов. ООН. Нью-Йорк, 1989.
Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь.
Обществознание в тестах и задачах. 9 кл. М., 1998.


# § 23. Права на асабістую свабоду

## Аснова правоў асобы

Годнасць чалавека замацоўваецца і прызнаецца ў цэласнай сістэме яго правоў як асобы — палітычных, эканамічных, культурных і інш. Сярод правоў грамадзяніна асаблівае месца займае яго права на свабоду. Свабода чалавека вызначаецца не толькі ў яго праве на недатыкальнасць і годнасць асобы. ***Свабода** — гэта наогул аснова прававога статусу асобы.*

У свядомасці людзей правы чалавека заўсёды былі звязаны з яго свабодай. Яшчэ Фларэнцін, адзін з вядомых старажытнагрэчаскіх юрыстаў, тлумачыў свабоду як «натуральную здольнасць кожнага рабіць тое, што яму пажадана, калі гэта не забаронена сілай чалавека або правам».

Пытанне аб свабодзе неабходна вырашаць гістарычна, разглядаць свабоду чалавека ва ўзаемаадносінах яго з грамадствам. А яно развівалася разам з прагрэсам чалавецтва. Свабода чалавека — *гэта яго здольнасць да выбару і дзеяння на аснове ўнутранага разважання, а не знешняга прымусу.* Яна шматгранная ў сваім праяўленні, як разнастайныя ўзаемаадносіны чалавека з грамадствам. Таму можна гаварыць аб палітычнай, асабістай, прафесійнай, маральнай, сямейнай, нават інтымнай, свабодах асобы. Але свабода не ёсць сама-

вольства і ўсёдазволенасць чалавека. Чалавек жыве не сам па сабе, а ва ўзаемадзеянні з грамадствам, з іншымі людзьмі. Па словах Д. Ролза, сучаснага амерыканскага вучонага, свабода з'яўляецца вызначанай структурай прававых, палітычных і іншых сацыяльных інстытутаў, вызначанай сістэмай публічных правіл, якія ўтрымліваюць правы і абавязкі грамадзян. Свабода чалавека заўсёды канкрэтная і мае свае межы. Гэтыя межы вызначаюцца інтарэсамі грамадства ў цэлым і правамі іншых людзей.

*Усведамленне чалавекам абмежаванасці сваёй свабоды азначае разуменне ім уласнай адказнасці за свае ўчынкі.* Адказнасць, уласна, і ёсць мяжа свабоды, яе вызначанасць, канкрэтнасць. Адказнасць, як і свабода, таксама шматгранная.

**СВАБОДА – АСНОВА ПРАВАВОГА СТАТУСУ АСОБЫ**

**"НАТУРАЛЬНАЯ МАГЧЫМАСЦЬ КОЖНАГА РАБІЦЬ ТОЕ, ШТО ЯМУ ПАЖАДАНА, КАЛІ ГЭТА НЕ ЗАБАРОНЕНА"**

**УНУТРАНАЕ РАЗВАЖАННЕ** → **ЗДОЛЬНАСЦЬ ДА ВЫБАРУ І ДЗЕЯННЯ** ← **ЗНЕШНЯЕ ПРЫМУШЭННЕ**

⇩

**УЯЎЛЕННЕ АБМЕЖАВАНАСЦІ СВАЁЙ СВАБОДЫ**

⇩

**РАЗУМЕННЕ ЎЛАСНАЙ І ЮРЫДЫЧНАЙ АДКАЗНАСЦІ ЗА СВАЕ ЎЧЫНКІ**

**СВАБОДА ЗАКЛЮЧАЕЦЦА Ў ПРАВЕ РАБІЦЬ УСЁ, ШТО НЕ ШКОДНА ІНШЫМ**



Асоба можа несці палітычную, грамадзянскую (асабістую), прафесійную і да т. п. адказнасць.

Свабода — аснова годнасці асобы, толькі свабодны чалавек можа адчуваць сябе годным і раўнапраўным з іншымі людзьмі.

*Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека абвяшчае, што ўсе людзі нараджаюцца свабоднымі і роўнымі ў сваёй годнасці і правах.* Сярод іх Дэкларацыя называе права чалавека на жыццё, свабоду і асабістую недатыкальнасць, на валоданне маёмасцю, на працу і роўную аплату за роўную працу, на адпачынак і вольны час, на сацыяльнае забеспячэнне, на адукацыю, свабоду слова, думкі і веравызнання, перакананняў і іх свабоднае выказванне і г. д.

## Канстытуцыйныя абмежаванні

Парушэнне кім-небудзь сваімі дзеяннямі меж свабоды, гэта значыць адказнасці, выклікае прававыя санкцыі. Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь устанаўлівае пэўныя абмежаванні правоў і свабод. Гэтыя абмежаванні ўтрымліваюцца ў артыкуле 23: «Абмежаванне правоў і свабод асобы дапушчальна толькі ў выпадках, якія прадугледжаны законам, у інтарэсах нацыянальнай бяспекі, грамадскага парадку, абароны маральнасці, здароўя насельніцтва, правоў і свабод іншых асоб».

Разам з тым *абмежаванне свабоды на аснове закону павінна выключаць самавольства ў адносінах да грамадзяніна.* Напрыклад, затрыманы, зняволены маюць права на судовую праверку законнасці затрымання або зняволення, яны не павінны падвяргацца жорсткаму або зняважліваму абыходжанню, тым больш катаванням і іншым падобным дзеянням.

Чалавек не можа быць прызнаны вінаватым у злачынстве, калі яго віна не будзе даказана ў прадугледжаным законам парадку і ўстаноўлена прыгаворам суда. Пры гэтым абвінавачваемы не абавязаны даказваць сваю невінаватасць і не павінен прымушацца даваць паказанні супраць сябе, членаў сваёй сям'і і сваякоў. А доказы, якія атрыманы з парушэннем закону, не маюць юрыдычнай сілы. Да таго ж індывід, які быў падвергнуты прававаму праследаванню, абараняецца законам.

Усе гэтыя палажэнні амаль літаральна ўтрымліваюць юрыдычныя прынцыпы так званай *прэзумпцыі* (допушчэння) *невінаватасці* і накіраваны, у першую чаргу, на абарону інтарэсаў і правоў грамадзян. Канстытуцыяй таксама гарантуецца судова-прававы разгляд парушэння правоў абвінавачваемага.

## Прававая абарона

Непасрэдным гарантам свабоды і недатыкальнасці чалавека з'яўляецца канстытуцыйная абарона яго ад незаконнага ўмяшальніцтва ў асабістае жыццё, ад замахаў на тайну карэспандэнцыі, тэлефонных і іншых паведамленняў, на гонар і годнасць асобы. Канстытуцыя таксама дэкларуе недатыкальнасць жылля і іншых валоданняў грамадзян (артыкулы 28, 29).

Адной з важных канкрэтных праяў свабоды чалавека з'яўляецца свабода перамяшчэння і выбару месца жыхарства не толькі ў межах сваёй дзяржавы, але і ў іншых краінах. У адпаведнасці з міжнароднымі стандартамі артыкул 30 Канстытуцыі нашай дзяржавы абвяшчае: «Грамадзяне Рэспублікі Беларусь маюць права свабодна перамяшчацца і выбіраць месца жыхарства ў межах Рэспублікі Беларусь, пакідаць яе і бесперашкодна вяртацца».



Полацкі Сафійскі сабор. XI—XVIII стст.

Асабістая свабода чалавека як самастойнай разумнай істоты ўключае ў сябе і неабходнае права на свабоду думкі, перакананняў і на свабоднае іх выказванне, а таксама права свабодна шукаць, атрымліваць і распаўсюджваць усякага роду інфармацыю. Артыкулы 31, 33 і 34 нашай Канстытуцыі абвяшчаюць свабоду друку і сродкаў масавай інфармацыі, свабоду сумлення, рэлігійных перакананняў і г. д.



Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь прадугледжвае меры ўздзеяння, у тым ліку і прымусовыя, якія накіраваны на забеспячэнне правапарадку, а таксама абарону правоў і свабод асобы. Так, артыкул 59 Канстытуцыі абавязвае дзяржаву прымаць усе даступныя меры для стварэння ўнутранага і міжнароднага парадку, неабходнага для поўнага ажыццяўлення правоў і свабод грамадзян Рэспублікі Беларусь, прадугледжаных Канстытуцыяй. Артыкул 60 гарантуе кожнаму грамадзяніну абарону яго правоў і свабод кампетэнтным, незалежным і непрадузятым судом у вызначаныя законам тэрміны. Артыкул 62 фармулюе права кожнага «на юрыдычную дапамогу для ажыццяўлення і абароны правоў і свабод, у тым ліку права карыстацца ў любы момант дапамогай адвакатаў і іншых сваіх прадстаўнікоў у судзе, іншых дзяржаўных органах, органах мясцовага кіравання, на прадпрыемствах, ва ўстановах, арганізацыях, грамадскіх аб'яднаннях і ў адносінах са службовымі асобамі і грамадзянамі. У выпадках, прадугледжаных законам, юрыдычная дапамога аказваецца за кошт дзяржаўных сродкаў. Процідзеянне аказанню прававой дапамогі ў Рэспубліцы Беларусь забараняецца».

Такім чынам, Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь прадастаўляе кожнаму чалавеку неабходную прававую абарону свабоды і недатыкальнасці асобы, гарантуе права чалавека на свабоду думкі, сумлення і перакананняў.

**Вывады.** *1. Свабода арганічна ўласціва чалавеку як самастойнай разумнай істоце. Яна напаўняе сэнсам яго жыццё, у сістэме прававых норм дазваляе рэалізаваць сябе ў актыўных узаемадзеяннях з іншымі людзьмі і з грамадствам. 2. Чалавек мае права на свабоду дзеянняў, думак, перакананняў. 3. Абмежаванне правоў і свабод асобы магчыма толькі на падставе закону ў мэтах выключэння самавольства ў адносінах да грамадзяніна. 4. Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь прадугледжвае прававую, судовую абарону правоў асобы, усёй сукупнасці яе канстытуцыйных правоў.*

### Слоўнік

**Адказнасць (сацыяльная) асобы** — яе здольнасць усведамляць межы сваёй свабоды і ўлічваць наступствы ўласных дзеянняў у адносінах да іншых людзей і грамадства.

**Адказнасць юрыдычная** — прававая рэакцыя дзяржавы на правапарушэнне (на проціpraўнае дзеянне).

**Злачынства** — усякае вінаватае дзеянне або бяздзеянне, якое ўяўляе грамадскую небяспеку для дзяржавы, яе канстытуцыйнага ладу і правапарадку.

**Пакаранне** — мера дзяржаўнага прымусу, які прымяняецца судом да асобы, што здзейсніла злачынства.

**Правапарушэнне** — грамадска-небяспечны замах на правапарадак.

**Прэзумпцыя невінаватасці** — палажэнне ў праве, згодна з якім абвінавачваемы лічыцца невінаватым, пакуль яго віна не будзе даказана ва ўстаноўленым законам парадку.

**Свабода асобы** — здольнасць чалавека дзейнічаць свядома і па сваёй волі ў межах дасягнутых сацыяльных магчымасцей.

?
1. Што такое свабода асобы?
2. У чым заключаецца адказнасць асобы?
3. Ці ёсць межы свабоды чалавека і ў чым яны заключаюцца?
4. Якія ёсць канстытуцыйныя гарантыі свабоды асобы ў нашай краіне?

## ПРАКТЫКУМ

### ПАДУМАЙЦЕ

Гегель пісаў, што прызнанне таго, што «свабода ёсць апошні стрыжань, каля якога паварочваецца чалавек, самая высокая вяршыня, з якой ні на што не прыходзіцца глядзець знізу ўверх. Так што нішто, у чым не паважаецца яго свабода, яго не абавязвае», з'яўляецца вялікім крокам наперад у развіцці грамадства. І далей Гегель падкрэслівае, што «права датычыцца свабоды — самага каштоўнага і самага годнага ў чалавеку, і ён сам павінен ведаць права, паколькі яно для яго абавязковае».

Як вы разумееце гэтыя выказванні і як з гэтага пункту погляду можна ацаніць сутнасць правоў чалавека?

### ПАЗНАЁМІМСЯ З ДАКУМЕНТАМІ

**Закон Рэспублікі Беларусь «Аб пракуратуры Рэспублікі Беларусь» ад 29 студзеня 1993 г.**

Артыкул 1 абвяшчае, што пракуратура ў Рэспубліцы Беларусь ажыццяўляе ад імя дзяржавы вышэйшы надзор за выкананнем законаў.

Артыкул 2 вызначае мэты і накірункі дзейнасці пракуратуры і гаворыць, што «дзейнасць пракуратуры накіравана на забеспячэнне вяршэнства закону, умацаванне законнасці з мэтай абароны правоў і свабод грамадзян, законных інтарэсаў дзяржавы, суб'ектаў гаспадарання, устаноў і арганізацый, грамадскіх аб'яднанняў...».

Артыкул 5 тлумачыць, што «пры ажыццяўленні сваёй дзейнасці пракурорскія работнікі забяспечваюць выкананне гарантаваных дзяржавай правоў і свабод асобы незалежна ад грамадзянства, сацыяльнага і маёмаснага стану, расавай і нацыянальнай прыналежнасці, мовы, полу, узросту, адукацыі, адносін да рэлігіі, палітычных правоў і іншых перакананняў. Абмежаванне грамадзян у іх правах і свабодах дапускаецца толькі на падставах і ў парадку, які прадугледжаны законам. Не дапускаецца распаўсюджванне звестак, якія адносяцца да асабістага жыцця грамадзяніна, зняслаўляюць яго гонар і годнасць або могуць нашкодзіць яго правам і законным інтарэсам, калі выкананне прадугледжаных законам абавязкаў не патрабуе гэтага.

Пракурорскія работнікі пры расследаванні злачынстваў прадастаўляюць затрыманым і зняволеным магчымасць рэалізацыі права на юрыдычную абарону.

Грамадзяне маюць права атрымліваць ад органаў пракуратуры тлумачэнні, інфармацыю аб абмежаванні іх правоў і свабод, знаёміцца з матэрыяламі, якія ёсць у адносінах да іх, пасля завяршэння праверкі або расследавання. Асоба, якая лічыць, што дзеяннямі пракурорскага работніка ўшчэмлены яе правы, свабоды і законныя інтарэсы, мае права абскардзіць іх вышэйстаячаму пракурору, а ў выпадках, прадугледжаных законам,— у суд».

Выкажыце сваё меркаванне, што аб'ядноўвае адвакатаў з суддзямі і што рознае ў іх функцыях.

**Крымінальны кодэкс Рэспублікі Беларусь па стану на 25 кастрычніка 1998 г.**

Адказнасць непаўналетніх

Артыкул 10. Крымінальнай адказнасці падлягаюць асобы, якім да ўчынення злачынства споўнілася 16 гадоў.

Артыкул 108. Асобы, якія ўчынілі злачынства ад 14 да 16 гадоў, падлягаюць крымінальнай адказнасці толькі за забойства, за замах на жыццё міліцыянера і народнага дружынніка, вайскоўца або іншай асобы, а таксама за замах на жыццё іх

блізкіх; за наўмыснае нанясенне цялесных пашкоджанняў, якія прывялі да расстройства здароўя, згвалтаванне, разбойны напад, рабаванне, раскраданне маёмасці ў асабліва буйных памерах, вымаганне (далей называюцца іншыя злачынныя дзеянні).

**ПРЫСЛУХАЕМСЯ**

***Жадаць свабоды сабе — значыць жадаць свабоды іншым.***
*С. Бавуар*

***Свабода чалавека заключаецца ў свабодным карыстанні сваімі здольнасцямі.***
*К. Гельвецый*

***Свабода заключаецца ў праве рабіць усё, што не шкодзіць іншым.***
*М. Клаўдзіус*

***Авечка і воўк па-рознаму разумеюць слова «свабода», у гэтым сутнасць рознагалоссяў, якія пануюць у чалавечым грамадстве.***
*А. Лінкальн*

***Свабода ёсць права рабіць усё, што дазволена законамі.***
*Ш. Мантэск'е*

***Свабода азначае адказнасць.***
*Б. Шоў*

***Склад думак некаральны.***
*Д. Уільпіян*

***Адмовіцца ад свабоды — значыць адмовіцца ад чалавечай годнасці, ад правоў чалавецтва, нават ад яго абавязкаў.***
*Ж. Ж. Русо*

**Што можна прачытаць**

Нерсесянц В. С. Право — математика свободы. Опыт прошлого и перспективы. М., 1990.
Права человека: история, теория, практика: Учеб. пособие. М., 1996.
Права человека в Республике Беларусь: механизмы защиты и реализации. Проблемы преподавания. Республиканская научно-практическая конференция (Брест, 1996 г.). Брест, 1997.



# § 24. Культура і правы чалавека

## Быць культурным чалавекам

Сёння грамадства ўступіла ў перыяд інфармацыйна-камп'ютэрнай цывілізацыі. Гэта значыць, што колькасць і якасць працы сталі непасрэдна залежаць ад культуры і адукацыі чалавека. Інакш кажучы, каб захаваць сваё месца і ролю ў сучаснай вытворчасці і грамадстве, выказаць сябе як асобу, неабходна быць у самым шырокім сэнсе культурным чалавекам. Як правільна заўважыў нямецкі эканаміст В. Рошар: «Чым вышэй культура, тым вышэй ацэньваецца праца».

Мы далучаемся да культуры перш за ўсё праз адукацыю. Таму натуральна, што права на адукацыю займае цэнтральнае месца ў групе тых сацыяльных правоў, якія дзейнічаюць у сферы культуры.

***Адукацыя** — аснова цывілізаванага грамадства. Гэта мэтанакіраваны працэс навучання і выхавання ў інтарэсах асобы, грамадства і дзяржавы.* Адукацыя характарызуецца імкненнем грамадзян (навучэнцаў) дасягнуць вызначаных дзяржавай адпаведных адукацыйных узроўняў (адукацыйных цэнзаў).

Права на адукацыю абвяшчаецца Усеагульнай дэкларацыяй правоў чалавека (артыкул 26), Міжнародным пактам аб


Галоўны корпус Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі


Тэатралізаванае прадстаўленне перад Нясвіжскім палаца-замкавым комплексам

эканамічных, сацыяльных і культурных правах (артыкул 13) і Канвенцыяй аб правах дзіцяці (артыкул 28). У адпаведнасці са стандартамі Міжнароднай Хартыі правоў чалавека артыкул 49 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь замацаваў гэта права за кожным грамадзянінам нашай дзяржавы. У ім гарантуецца даступнасць і бясплатнасць агульнай сярэдняй і прафесійна-тэхнічнай адукацыі, даступнасць сярэдняй спецыяльнай і вышэйшай адукацыі для ўсіх у адпаведнасці са здольнасцямі кожнага. *Сёння быць культурным чалавекам — значыць перш за ўсё быць адукаваным чалавекам.*

Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь разам з правам чалавека на адукацыю замацоўвае і гарантуе права кожнага грамадзяніна на ўдзел у культурным жыцці, на карыстанне дасягненнямі культуры, яе каштоўнасцямі. У той жа час Канстытуцыя абавязвае грамадзяніна берагчы гісторыка-культурную спадчыну і іншыя культурныя каштоўнасці свайго народа і ўсяго чалавецтва (артыкулы 50, 51).

У сучасных умовах канстытуцыйная абарона культурных каштоўнасцей і правоў чалавека ў сферы культуры набывае асобы сэнс. Культура, якая падвяргаецца дэгуманізацыі і вандалізацыі, як і экалогія, дэмаграфія, становіцца глабальнай праблемай сучаснасці. Гэта не можа не выклікаць заклапочанасць за будучыню чалавека, таму што менавіта ў сферы культуры фарміруецца і развіваецца асоба. Значыць, юрыдычна — *прававая абарона культуры ёсць абарона асобы, абарона яе фундаментальнага права на свабоднае і поўнае развіццё.*

## Правы дзіцяці

Асоба фарміруецца з дзяцінства. Між тым становішча з прававой абаронай дзяцей у многіх краінах катастрафічнае. Па даных ААН у наш час каля 100 млн дзяцей існуюць за кошт крадзяжу, прастытуцыі і жабрацтва, больш за 50 млн штогод паміраюць ад хвароб, каля 1 млн штогод застаюцца без сям'і, 120 млн дзяцей ва ўзросце ад 6 да 11 гадоў не ходзяць у школу.

Глыбокая заклапочанасць Сусветнага супольніцтва станам спраў з развіццём, выхаваннем і адукацыяй дзяцей у пасляваенны час знайшла адлюстраванне ў Дэкларацыі правоў дзіцяці 1959 г. і Канвенцыі аб правах дзіцяці 1989 г. (ААН),



| ЗАКАНАДАЎЧАЯ АБАРОНА ПРАВОЎ ДЗІЦЯЦІ | | |
|---|---|---|
| ДЭКЛАРАЦЫЯ ПРАВОЎ ДЗІЦЯЦІ 1959 г. | КАНВЕНЦЫЯ ПРАВОЎ ДЗІЦЯЦІ 1989 г. | ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ “АБ ПРАВАХ ДЗІЦЯЦІ” 1993 г. |

якая надала ідэям Дэкларацыі правоў дзіцяці больш выразную форму, а галоўнае — сілу норм міжнароднага права. У адпаведнасці з Канвенцыяй у Рэспубліцы Беларусь у 1993 г. быў прыняты закон «Аб правах дзіцяці».

Змест названых дакументаў у поўнай меры адносіцца і да кожнага з вас, пакольі, як бы вы ні хацелі быць старэйшымі і як бы ні імкнуліся хутчэй стаць паўнапраўнымі грамадзянамі сваёй краіны, вы ўсё яшчэ знаходзіцеся ў свеце дзяцінства. Згодна з крытэрыямі ААН, дзяцінства ахоплівае перыяд жыцця чалавека ад яго нараджэння да 18 гадоў. Таму вы павінны ведаць, што *Канвенцыя аб правах дзіцяці і іншыя агульнапрызнаныя міжнародныя дакументы гарантуюць усім дзецям планеты права выхоўвацца і развівацца фізічна і духоўна ў здаровых і нармальных умовах свабоды і годнасці.* Вы павінны ведаць, што *дзіця з моманту паяўлення на свет, у якой бы краіне яно ні нарадзілася, мае права на імя і грамадзянства, мае права на асаблівы клопат аб сабе і абарону, на добрае харчаванне, жыллё, медыцынскае абслугоўванне.*

«Дзіця павінна быць,— абвяшчае Канвенцыя,— сярод першых, хто чакае дапамогі і абароны, яно мае права на любоў і разуменне з боку родных і блізкіх, настаўнікаў і выхавацеляў, з боку ўрада і дзяржавы, калі яно не можа ўжо атрымаць іх ад родных. Калі дзіця адстае ў развіцці ў тых або іншых адносінах (фізічных або псіхічных), грамадства і дзяржава павінны забяспечыць яму права на асаблівы клопат».

Кожны з вас, як і ўсе дзеці, мае права бясплатна наведваць школу, свабодна размяркоўваць свой час паміж вучобай, гульнёй, забавамі і самаадукацыяй, пры гэтым імкнучца



Выступленне дзіцячага фальклорнага ансамбля ў Троіцкім прадмесці Мінска

быць адказным перад грамадствам і быць карысным яму.

Вы павінны ведаць, што грамадства і дзяржава абавязаны абараніць вас ад жорсткага абыходжання і эксплуатацыі, не дапускаць таго, каб ускладзеная на вас праца перашкаджала вашаму фізічнаму і духоўнаму развіццю.

Аднак вы павінны ўсвядоміць і тое, што разам з правамі на вас ускладаюцца і абавязкі перад грамадствам, дзяржавай і вашымі блізкімі.

Кожны з вас павінен вучыцца жыць у міры і ўзаемаразуменні з людзьмі, цярпліва адносіцца да слабасцей іншых людзей. З гэтага пачнецца ваша ўласнае разуменне шчасця і вызначэнне шляхоў яго дасягнення. Імкненне да шчасця ўласціва ўсім людзям, і сучаснае грамадства прызнала яго як права кожнага чалавека.

**Вывады.** *1. Кожны чалавек мае права дзейнічаць у сферы культуры, мае права на адукацыю як на неабходныя ўмовы свабоднага развіцця сваёй асобы. 2. Разам з правамі на кожнага з нас у сферы культуры ўскладаюцца абавязкі — берагчы культурныя каштоўнасці свайго народа і ўсяго чалавецтва. 3. Прававая дзяржава асаблівую ўвагу надае абароне правоў дзяцей, што з'яўляецца перадумовай і гарантыяй будучыні ў любым грамадстве.*

### Слоўнік

**Адукацыя** — сістэма ведаў, уменняў і навыкаў, якія неабходны ў якасці ўмовы падрыхтоўкі чалавека да жыцця і працы.

**Культура** — спосаб існавання грамадства, арганізацыі і развіцця творчых сіл і здольнасцей чалавека.



?

1. У чым заключаецца права чалавека на ўдзел у культурным жыцці, на адукацыю?
2. Якімі правамі валодаюць дзеці?
3. У чым вы бачыце свае абавязкі перад грамадствам?

## ПРАКТЫКУМ

### ПАДУМАЙЦЕ

1. Дэкларацыя ААН 1965 г. «Аб распаўсюджванні сярод моладзі ідэалаў міру, узаемаразумення і ўзаемапавагі паміж народамі» абвяшчае, што «мір, свабода і справядлівасць з'яўляюцца адной з асноўных гарантый ажыццяўлення імкнення людзей да шчаслівага жыцця... Моладзь павінна выхоўвацца на аснове павагі годнасці і роўнасці ўсіх людзей, без якой бы не было розніцы па прымеце расы, колеру скуры, этнічнага паходжання або перакананняў, а таксама ў духу павагі да асноўных правоў чалавека і да права народа на самавызначэнне».

У чым актуальнасць і значнасць гэтых тэзісаў Дэкларацыі ААН у сучасным свеце?

2. Тэлебачанне ў шмат якіх адносінах адкідвае нас назад, да свету неадукаванасці. Цэніцца візуальнае ўздзеянне на эмоцыі і страхі, а не прывабнасць строгай логікі думкі. Лагічнае ўздзеянне магчыма і праз электронныя СМІ, але яны больш падыходзяць для абуджэння эмоцый, чым для перадачы лагічнай інфармацыі. Чалавеку даводзіцца вучыцца чытаць. Гэта патрабуе працы, часу і выдаткаў. Вучыцца глядзець тэлевізар не трэба. Гэта не патрабуе намаганняў. Розніца вельмі вялікая. Слоўнікавы запас тых, хто выступае па тэлебачанні, увесь час звужаецца, і адначасова звужаецца лексіка тых, хто яго глядзіць. (Лестер Туроу. Будущее капитализма. Как экономика сегодняшнего дня формирует мир завтрашний // Новая постиндустриальная волна на Западе. М., 1999. С. 218—219.)

Якія вывады вы можаце зрабіць для сябе са слоў вядомага амерыканскага вучонага?

### ПРЫСЛУХАЕМСЯ

***Гісторыю цывілізацыі можна выказаць шасцю словамі: чым больш ведаеш, тым больш можаш.***

*Э. Абу*

*Кожны, у кім сядзіць Рафаэль, павінен мець магчымасць бесперашкодна развівацца.*

К. Маркс

*Паняцце аб культуры вельмі шырокае — ад умывання твару да апошніх высот чалавечай думкі.*

М. І. Калінін

*Адукацыя — клад, праца — ключ да яго.*

П. Буаст

*Адукацыя надае чалавеку годнасць, і раб пачынае ўсведамляць, што ён не народжаны для рабства.*

Д. Дзідро

*Чалавек, які сапраўды паважае чалавечую асобу, павінен паважаць яе ў сваім дзіцяці, пачынаючы з той хвіліны, калі дзіця адчула сваё Я і адасобіла сябе ад навакольнага свету.*

Д. І. Пісараў

*Пытанне аб адукацыі ёсць для сучасных грамадстваў пытанне жыцця або смерці, пытанне, ад якога залежыць іх будучыня.*

Ж. Э. Рэнан

*Адукацыя стварае розніцу паміж людзьмі.*

Дж. Лок

**Што можна прачытаць**

Рекомендации по образованию в области прав человека, гуманистического и международного воспитания: Сб. докладов и методических материалов ООН ЮНЕСКО. Республика Беларусь: Пособие для педагогов. Мн., 1997.

Смагина Л. И., Бубен С. С., Леонова Г. М. Права ребенка. Мн., 1997.

Гусев А. Д. Права ребенка и будущее страны // Чапавек. Грамадства. Свет. 1996. № 2.

# § 25. Сацыяльна-эканамічныя правы

## Умовы індывідуальнай свабоды грамадзяніна

Для годнага, шчаслівага і свабоднага жыцця чалавеку неабходны пэўныя матэрыяльныя ўмовы. Правы, якія датычацца гэтай сферы жыцця людзей, называюцца *сацыяльна-эканамічнымі правамі.*



У дакапіталістычныя часы, ва ўмовах панавання натуральнай гаспадаркі і дробнатаварнай вытворчасці задавальненне матэрыяльных і духоўных патрэбнасцей індывідаў толькі ў мінімальнай ступені цікавіла дзяржаву. Яна толькі замацоўвала за грамадзянінам і абараняла яго права ўласнасці. А ён ужо сам свабодна, без умяшальніцтва дзяржавы, вырашаў, якім чынам уладкаваць сваё жыццё. У гэтым сэнсе ўласнасць з'яўлялася галоўнай умовай і асновай свабоды індывіда.

З развіццём прадукцыйных сіл і ўзнікненнем буйной капіталістычнай вытворчасці, калі ў новыя вытворчыя адносіны былі ўцягнуты мільёны людзей, дзяржава пад націскам працоўных вымушана была ўмацаваць сваю сацыяльна-эканамічную ролю. З гэтага часу з дапамогай дзяржавы пачалі выпрацоўвацца такія сацыяльна-эканамічныя правы грамадзян, як права на працу і яе справядлівае ўзнагароджанне, на адпачынак, адукацыю, медыцынскае абслугоўванне, жыллё і г. д. Такім чынам, дзяржава вымушана была ўзяць на сябе больш шырокія функцыі па арганізацыі сацыяльна-эканамічнага жыцця грамадства і грамадзян. Такая дзяржава, як вы памятаеце, пачала называцца *сацыяльнай*

З сярэдзіны XIX ст. сацыяльна-эканамічныя правы чалавека замацоўваюцца ў канстытуцыях многіх дэмакратычных дзяржаў і ў міжнародных дакументах. Гэты працэс працягваецца і цяпер. Ён — вынік новых патрэбнасцей і інтарэсаў грамадства і асобы.

Нарада экспертаў ААН па Міжнароднаму пакту аб эканамічных, сацыяльных і культурных правах, якая адбылася ў Галандыі ў 1987 г., яшчэ раз пацвердзіла, што ўсе правы, у тым ліку сацыяльна-эканамічныя і культурныя, непадзельныя і ўзаемазвязаныя і ўтвараюць



Дом урада



Нацыянальны акадэмічны тэатр Беларусі імя. Я. Купалы

неад'емную ад міжнароднага права частку. Міжнародны пакт аб эканамічных, сацыяльных і культурных правах абавязвае дзяржавы, што ўступілі ў яго, прыняць усе меры (уключна заканадаўчыя і адміністрацыйныя) для ажыццяўлення мэт і задач Пакта «незалежна ад узроўню эканамічнага развіцця — хаця б у мінімальнай ступені».

У іншых сучасных міжнародных дакументах (Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека 1948 г., Дэкларацыя сацыяльнага прагрэсу і развіцця, прынятая Генеральнай Асамблеяй ААН у 1969 г., і г. д.) выпрацаваны пералік эканамічных, сацыяльных і культурных правоў чалавека. Гэта — права на працу і свабодны выбар працы, на справядлівыя і спрыяльныя ўмовы працы, на абарону ад беспрацоўя, на роўную аплату за роўную працу, на аб'яднанне ў прафсаюзы для абароны сваіх інтарэсаў, на адпачынак і вольны час, у тым ліку права на разумнае абмежаванне рабочага дня, на аплачваемы штогадовы адпачынак, на абарону дзяцінства і мацярынства, на сацыяльнае забеспячэнне, на адукацыю і свабодны ўдзел у культурным жыцці грамадства і інш.



Сцэна са спектакля «Паўлінка» Я. Купалы



## Права на працу

*У ліку важнейшых сацыяльна-эканамічных правоў было і застаецца права на працу.* Цяпер яно набывае новыя і больш складаныя адценні. Навукова-тэхнічны прагрэс, які стварае больш шырокія магчымасці для паляпшэння ўмоў жыцця людзей, у той жа час стварае сур'ёзныя сацыяльныя праблемы, пагражае правам і асноўным свабодам чалавека.

Асаблівае месца ў нашы дні займае праблема занятасці і беспрацоўя, а таксама падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі работнікаў. Таму ўсім нам карысна ведаць, што існуе спецыялізаваная арганізацыя ААН па праблемах працы і занятасці насельніцтва і грамадзян — *Міжнародная арганізацыя працы* **(МАП)**. У яе Канвенцыі аб абароне ад беспрацоўя, прынятай ў 80-я гг., прадугледжваецца абавязак дзяржаў і ўрадаў распрацоўваць і рэалізоўваць сацыяльныя праграмы, якія садзейнічаюць папярэджванню і скарачэнню беспрацоўя, стварэнню дадатковых працоўных месцаў, забеспячэнню эфектыўнай работы адпаведных устаноў сацыяльнай абароны грамадзян у пошуку работы і ў выплаце ім дапамогі ў выпадках часовай або поўнай страты працы.

## Права ўласнасці

Сёння ва ўмовах паскарэння навукова-тэхнічнага прагрэсу адбываюцца глыбокія змены ў адносінах правоў грамадзян на ўласнасць. Сама ўласнасць у апошні час у нашай краіне прымае розныя формы: побач з дзяржаўнай атрымліваюць шырокае развіццё прыватная, акцыянерная, калектыўная і іншыя формы ўласнасці.

У адпаведнасці з агульнапрызнанымі міжнароднымі стандартамі артыкул 44 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь *гарантуе кожнаму права ўласнасці, забяспечвае яе недатыкальнасць і права на спадчыну.* Прымусовае адчужэнне маёмасці дапускаецца толькі ў выпадках грамадскай неабходнасці пры захаванні ўмоў і парадку, вызначаных законам, са своечасовым і поўным кампенсаваннем вартасці адчужаемай маёма-

сці, а таксама згодна з прыгаворам суда. Пры гэтым у Канстытуцыі адзначаецца, што ажыццяўленне права ўласнасці не павінна шкодзіць навакольнаму асяроддзю, гісторыка-культурным каштоўнасцям, ушчамляць правы і інтарэсы іншых асоб, якія абараняюцца законам.

Узнікненне новых форм уласнасці і на гэтай аснове новых відаў гаспадарчай і іншай дзейнасці, якім дзяржава прадастаўляе роўныя правы, акрамя тых, што забаронены законам (артыкул 13 Канстытуцыі), дазваляе рашаць праблему працаўладкавання грамадзян і, такім чынам, праблему рэалізацыі іх права на працу. Напрыклад, малы і сярэдні бізнес, які атрымаў развіццё ў нашай краіне якраз на аснове новых форм уласнасці і гаспадарчай дзейнасці, з'яўляецца важнай формай самазанятасці грамадзян, якія праз цяжкасці ўладкавання на працу адкрываюць уласную справу. Згодна з даследаваннямі айчынных эканамістаў, доля самазанятых сярод эканамічна актыўнага насельніцтва Рэспублікі Беларусь зараз вагаецца паміж 9 і 43 %.

Рэалізацыя права на працу звязана не толькі з правам асобы на дастатковы жыццёвы ўзровень і бесперапыннае паляпшэнне ўмоў жыцця і развіцця асобы (артыкулы 11, 12 Міжнароднага пакта аб эканамічных, сацыяльных і культурных правах), але і з прызнаннем асноўнага права кожнага чалавека на свабоду ад голаду (артыкул 12 Пакта). У сучасным свеце гэта набывае асаблівае значэнне ў сувязі з тым, што на тэрыторыі, дзе пражывае $\frac{2}{3}$ насельніцтва планеты, выпрацоўваецца толькі $\frac{1}{3}$ прадуктаў харчавання.

У 1974 г. у рамках ААН была прынята Усеагульная дэкларацыя аб ліквідаванні голаду і недаядання. Яна заклікае ўрады да супрацоўніцтва ў справе павелічэння вытворчасці прадуктаў харчавання і іх эфектыўнага справядлівага размеркавання на аснове выкарыстання навукі і тэхнікі. У дакладзе Жэнеўскага цэнтра па правах чалавека «Права на паўнацэннае харчаванне», які накіраваны генеральнаму сакратару ААН у 1992 г., адзначаецца *права ўсіх народаў на справядлівы міжнародны парадак, свабодны ад войнаў і іншых сацыяльных канфліктаў, для дасягнення свабоды ад голаду і нястачы.* Дадзены дакумент, які прадугледжвае шырокае міжнароднае супрацоўніцтва ў рашэнні гэтай задачы, мяркуе ў дасягненне вытворчасці дастатковай колькасці харчавання зрабіць упор на прыватныя і кааператыўныя гаспадаркі.

Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь (у артыкулах 41—48 і інш.) замацоўвае і забяспечвае заканадаўчую падтрымку ўсім асноўным сацыяльна-эканамічным правам грамадзян у адпаведнасці з міжнароднымі стандартамі ААН.

**Вывады.** *1. Сацыяльна-эканамічныя правы забяспечваюць чалавеку ўмовы індывідуальнай свабоды і ўсталявання яго асобы ў асноўнай сферы жыцця грамадства — сферы матэрыяльнай вытворчасці і працы. 2. Права на працу як найбольш годны спосаб самасцвярджэння чалавека — адно з важнейшых сацыяльна-эканамічных правоў. 3. Дзяржава прадастаўляе ўсім роўныя правы для ажыццяўлення гаспадарчай і іншай дзейнасці, акрамя забароненай законам, гарантуе кожнаму права ўласнасці і здзяйсняе рэгуляванне эканамічнай дзейнасці ў інтарэсах чалавека і грамадства.*

### Слоўнік

**Наймальнік** — прадпрыемствы, арганізацыі, грамадзяне, якім заканадаўствам даецца права заключаць і спыняць працоўны дагавор з работнікамі.

**Працоўны дагавор (найм)** — пагадненне паміж работнікам і наймальнікам, па якім работнік абавязваецца выконваць адпаведную працу, а наймальнік абавязваецца выплачваць работніку заработную плату і забяспечваць прадугледжаныя ўмовы працы.

**Работнік** — асоба, якая заключае працоўны дагавор з наймальнікам.

**Сацыяльнае забеспячэнне** — сістэма забеспячэння і абслугоўвання састарэлых і непрацаздольных грамадзян, а таксама сем'яў, у якіх ёсць дзеці.

**Сацыяльнае заканадаўства** — прававыя нормы, якія рэгулююць адносіны працуючых па найму, а таксама пытанні сацыяльнага забеспячэння.

?

1. Якія сацыяльна-эканамічныя правы абвяшчаюцца ва Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і іншых міжнародных дакументах?
2. Якія ёсць у нашы дні магчымасці рэалізацыі права грамадзяніна на працу?
3. У чым заключаецца ўзаемасувязь права на працу і права ўласнасці?

## ПРАКТЫКУМ

### ПАДУМАЙЦЕ

Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека (1948 г.) у артыкуле 22 абвяшчае: «Кожны чалавек як член грамадства мае права на сацыяльнае забеспячэнне і на ажыццяўленне неабходных для падтрымання яго годнасці і для свабоднага развіцця асобы правоў у сацыяльнай, эканамічнай і культурнай галінах праз пасрэдніцтва нацыянальных намаганняў і міжнароднага супрацоўніцтва і ў адпаведнасці са структурай і рэсурсамі кожнай дзяржавы».

У артыкулах 23, 24, 25 Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека абвяшчаецца права на працу, на адпачынак і вольны час, на адпаведны жыццёвы ўзровень, у тым ліку харчаванне, жыллё, медыцынскае абслугоўванне і г. д.

Аналагічныя правы замацаваны ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь (артыкулы 41, 42, 43, 44, 45 і інш.).

Параўнайце змест адпаведных правоў чалавека у гэтых двух дакументах і ўстанавіце агульнае і рознае ў іх.

### ПРЫСЛУХАЕМСЯ

*Ніщто так, як праца, не надае высакароднасці чалавеку. Без працы не можа чалавек захаваць сваю чалавечую годнасць.*

*Л. М. Талстой*

*Великая радость — работа,*
*В полях, за станком, за столом!*
*Работай до жаркого пота,*
*Работай без лишнего счета,—*
*Все счастье земли — за трудом!*

*В. Брюсов*

*Шчаслівы той, хто знайшоў сваю справу; няхай ён не шукае іншага шчасця. У яго ёсць справа і мэта жыцця.*

*Т. Карлейль*

*Хто не працуе, той не есць.*

*Біблейскае выказванне*



*Ва ўласнасці ёсць свае абавязкі, таксама як і правы.*

*У. Драмонд*

*Чалавек багаты або бедны не сваёй маёмасцю, а сваім унутраным зместам.*

*Г. Бігер*

*Сорамна чалавеку, калі яму даюць параду быць працавітым, як мурашка; удвая сорамна, калі ён гэтай парады не прытрымліваецца.*

*Талмуд*

### Што можна прачытаць

Нерсесянц В. С. Философия права. М., 2000.
Государство и ты: права и обязанности. М., 1997.
Круглый стол: Права человека и стратегия устойчивого развития // Государство и право. 1998. № 11.

## § 26. Выбар прафесіі

### Праца як жыццёвая каштоўнасць

Вы, відаць, ужо думаеце аб сваім будучым, марыце пра набыццё прафесіі. Для многіх з вас зусім хутка вучэбны клас зменіцца працоўным калектывам. Як зацвердзіцца ў новых для вас абставінах — пра гэта пойдзе размова.

Мы ведаем, што для задавальнення сваіх шматлікіх, разнастайных і пастаянна ўзрастаючых патрэбнасцей чалавек павінен ажыццяўляць пэўныя дзеянні. *Задавальненне патрэбнасцей з'яўляецца асноўнай мэтай дзейнасці чалавека. І мы ведаем, што такая мэтанакіраваная дзейнасць называецца* ***працай***. Менавіта праз працу чалавек адначасова задавальняе свае патрэбнасці і рэалізуе свае здольнасці.

Здольнасці чалавека — гэта яго індывідуальныя асаблівасці. З аднаго боку, яны дадзены чалавеку ад прыроды як прыродныя задаткі, а з другога — фарміруюцца толькі ў пэўных умовах жыцця і дзейнасці. Таму *правільная ацэнка сваіх прыродных задаткаў і выбар адпаведнай сферы дзейнасці з'яўляюцца вельмі важным момантам у жыцці чалавека.*

Асноўная частка ўсіх відаў дзейнасці ажыццяўляецца ў працэсе грамадскай вытворчасці. Гэта значыць, што кожны яе ўдзельнік стварае пэўныя жыццёвыя даброты сумесна з іншымі людзьмі не толькі для сябе, але і для іншых. Адначасова іншыя людзі таксама ствараюць нейкія даброты, якія мы не вырабляем, але якія спажываем.

Сучасная вытворчасць настолькі складаная, што не можа функцыяніраваць без падзелу працы, г. зн. без спецыялізацыі. У стварэнні любога прадукту прымае ўдзел мноства людзей, якія спецыялізуюцца на якой-небудзь адной дзейнасці. Падзел працы ажыццяўляецца не толькі паміж людзьмі, але і паміж прадпрыемствамі, рэгіёнамі, краінамі. Прыкладам падзелу працы паміж людзьмі можа быць выкананне слясарных, такарных або зборачных работ (аперацый) па



| |
|---|
| ВЫБАР ПРАФЕСІІ |
| ВАШЫ ІНДЫВІДУАЛЬНЫЯ ЗДОЛЬНАСЦІ |
| УЗРОВЕНЬ ВАШАЙ АДУКАЦЫІ |
| ВЫТВОРЧАЯ СПЕЦЫЯЛІЗАЦЫЯ ВАШАГА РЭГІЁНА |

вырабу дэталяў для аўтамабіляў. Паміж прадпрыемствамі — вытворчасць грузавых (Мінскі аўтамабільны завод) і легкавых (Маскоўскі аўтамабільны завод) аўтамабіляў. Паміж краінамі — стварэнне легкавых аўтамабіляў «Фіат» (Італія) і «Жыгулі» (Расійская Федэрацыя). Паміж рэгіёнамі — вытворчасць каштоўнай пушніны на Поўначы і цытрусавых — на Поўдні.

### Свет прафесій

Падзел працы (спецыялізацыя) нараджае мноства прафесій. ***Прафесія*** *— гэта канкрэтны від працоўнай дзейнасці.*

*Выбар прафесіі з'яўляецца асабістай справай кожнага.* Гэта залежыць ад здольнасцей чалавека, а таксама ад



Наваполацкі нафтаперапрацоўчы завод

вытворчай спецыялізацыі таго рэгіёна або краіны, дзе ён жыве. Але, калі чалавек хоча знайсці тое месца ў жыцці, якое дапаможа яму найбольш поўна рэалізаваць сябе і задаволіць свае патрэбнасці,— неабходна выканаць адну агульную ўмову. Яе ставіць сучасная вытворчасць перад усімі работнікамі. Заключаецца яна ў тым, што *кожная прафесія патрабуе пэўнага ўзроўню агульнай і прафесійнай адукацыі,* якую на працягу жыцця чалавек імкнецца павышаць.

І гэта не пустыя словы. Змест любога канкрэтнага віду працоўнай дзейнасці ў сучасных навуковых, тэхнічных, сацыяльных і эканамічных умовах складаецца з вялікай колькасці абавязковых элементаў. У рамках адной прафесіі да іх можна аднесці: разнастайнасць, манатоннасць, самастойнасць, складанасць работ.

Разнастайнасць работ азначае неабходнасць пераключэння на працягу працоўнага часу з адной аперацыі на другую. Манатоннасць — гэта паўтаральнасць аперацый. Ступень самастойнасці — магчымасць творча рашаць абавязковыя або нечаканыя вытворчыя сітуацыі. Складанасць работы заключаецца ў прымяненні складаных машын, прылад, абсталявання.

Як бачым, чым глыбейшыя веды, тым вышэйшы ўзровень прафесійнай падрыхтоўкі, тым больш паспяхова і з большым задавальненнем працуе чалавек, тым больш поўна ён рэалізуе сябе і развівае свае здольнасці і, зразумела, тым вышэйшы попыт на яго рабочую сілу на рынку працы. Прынята лічыць, што ***рынак працы** — гэта сістэма эканамічных зносін, якія ўзнікаюць паміж чалавекам (работнікам), наймальнікам і дзяржавай.* На рынку працы вызначаецца, колькі работнікаў якіх прафесій неабходна на кожнай канкрэтнай вытворчасці. Калі попыт (патрэбнасць) на рабочую сілу высокі, тады будзе высокай яе вартасць, гэта значыць аплата працы.



Уборка бульбы






**Вывады.** *1. Чалавек у працы задавальняе свае патрэбнасці, рэалізуе сябе як асоба, праяўляе свае здольнасці. 2. Грамадскі падзел працы і яе спецыялізацыя нараджаюць разнастайныя прафесіі. 3. Сучасная вытворчасць прад'яўляе высокія патрабаванні да агульнай і прафесійнай падрыхтоўкі чалавека.*

**Слоўнік**

**Падзел працы** — дыферэнцыяцыя або спецыялізацыя працоўнай дзейнасці, якая прыводзіць да выдзялення і ажыццяўлення розных яе відаў; расчляненне вытворчага працэсу на шэраг асобных аперацый для стварэння складанага прадукту.

**Патрэбнасць** — адчуванне незадавальнення, наяўнасць патрэбы чалавека ў дабротах, неабходных для падтрымання і паляпшэння ўмоў жыцця і дзейнасці, унутраны рухавік актыўнасці.

**Прафесія** — канкрэтны від працоўнай дзейнасці, які адрозніваецца ад другой дзейнасці ўзроўнем разнастайных дзеянняў, самастойнасці, складанасці, манатоннасці.

1. Што такое падзел працы?
2. Што такое прафесія?
3. Якое галоўнае патрабаванне прад'яўляе сучасная вытворчасць да работніка?

## ПРАКТЫКУМ

### ТЭСТ

**Мае асабістыя якасці і мой прафесійны выбар**
(Французская методыка)

Тэсціраванне праводзіцца ў некалькі этапаў.

Першы этап: *мае асабістыя якасці.*

Прыводзіцца спіс якасцей. Для таго каб больш ці менш аб'ектыўна ацаніць вашы якасці, прапануецца наступнае:

а) вы ацэньваеце самі сябе;

б) тое ж робіць ваш таварыш (таварышы), з якім вы сябруеце або часта маеце зносіны;

в) сваю ацэнку даюць вашы настаўнікі.

Ацэнка робіцца шляхам адзнакі крыжыкам уласцівай вам якасці ў адпаведнай графе.

| № п/п | Я чалавек | Зусім не | Трошкі | Больш-менш | Хутчэй за ўсё | Поўнае |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| 1. | Спрытны на рукі | | | | | |
| 2. | Лідэр (умее весці за сабой) | | | | | |
| 3. | Сумленны, прамы | | | | | |
| 4. | Гатовы дапамагчы | | | | | |
| 5. | Упэўнены ў сабе | | | | | |
| 6. | Лагічны (здольны абгрунтаваць) | | | | | |
| 7. | Арыгінальны | | | | | |
| 8. | Здольны пераконваць | | | | | |
| 9. | Вынослівы фізічна | | | | | |
| 10. | Цікаўны | | | | | |
| 11. | Рэаліст (не рамантык) | | | | | |
| 12. | Энергічны, актыўны | | | | | |
| 13. | Спакойны, ціхі | | | | | |
| 14. | З багатым уяўленнем | | | | | |
| 15. | Уважлівы да іншых | | | | | |
| 16. | Добра ўзаемадзейнічае з іншымі | | | | | |



| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 17. | Незалежны | | | | | |
| 18. | Амбіцыёзны, славалюбівы | | | | | |
| 19. | Настойлівы | | | | | |
| 20. | Любіць канкурыраваць, спаборнічаць | | | | | |
| 21. | Папулярны | | | | | |
| 22. | Энтузіяст, аптыміст | | | | | |
| 23. | Схільны да разважанняў, удумлівы | | | | | |
| 24. | Любіць парадак, сістэму | | | | | |
| 25. | Наватар (любіць уводзіць новае) | | | | | |
| 26. | Стыхійны, непасрэдны | | | | | |
| 27. | Чуллівы да прыгажосці | | | | | |
| 28. | Кемлівы, знаходлівы | | | | | |
| 29. | Эмацыянальны | | | | | |
| 30. | Адказны | | | | | |
| 31. | Арганізатар | | | | | |
| 32. | Старанны | | | | | |
| 33. | Карпатлівы, руплівы | | | | | |
| 34. | Адданы | | | | | |
| 35. | Практычны, канкрэтны | | | | | |
| 36. | Варты даверу | | | | | |
| 37. | Наглядальны | | | | | |
| 38. | Абстрактны (любіць гуляць з ідэямі) | | | | | |
| 39. | Любіць адзіноцтва | | | | | |
| 40. | Разумее іншых | | | | | |

Другі этап: *мае асноўныя асабістыя якасці.*

Сярод адзначаных якасцей выберыце не менш за тры, якія найбольш выразна характарызуюць вашу асобу.

| № п/п | Як я іх сабе ўяўляю | Як лічаць мае таварышы | Што думаюць пра мяне мае настаўнікі |
|---|---|---|---|
| 1. | | | |
| 2. | | | |
| 3. | | | |

Трэці этап: *якасці, неабходныя для прафесіі.*

М э т а: вызначыць якасці, неабходныя для прапануемых прафесій. Лепш гэта зрабіць калектыўна, каб больш поўна пералічыць якасці, якія ўласцівы дадзенай прафесіі.

Дадатковую інфармацыю вы можаце атрымаць і дома.

| № п/п | Прафесія | Якасць | Мой выбар |
|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 |
| 1. | Акцёр | Выгляд, уменне трымацца, манеры і г. д. | А |
| | | Ведае толк у справах | Б |
| | | Наглядальнік | В |
| | | Любіць эксперыментаваць | Г |
| | | Руплівы | Д |
| 2. | Марскі афіцэр | Разумее іншых | А |
| | | Любіць падарожнічаць | Б |
| | | Вынаходлівы, дасціпны | В |
| | | Эмацыянальны | Г |
| | | Моцны фізічна | Д |
| 3. | Чарцёжнік | Моцны фізічна | А |
| | | Славалюбівы | Б |
| | | Руплівы (уважлівы да дэталяў) | В |
| | | Чуццё артыстычнае | Г |
| | | Звычайны, руцінны | Д |
| 4. | Скульптар | Стваральнік | А |
| | | Дысцыплінаваны | Б |
| | | Асцярожны | В |
| | | Заслугоўвае даверу | Г |
| | | Здольны пераконваць | Д |
| 5. | Аўтамеханік | Энергічны | А |
| | | Незалежны | Б |
| | | Жадае пастаянна вывучаць сваю справу | В |
| | | Уважлівы да іншых | Г |
| | | Знаходлівы | Д |
| 6. | Спецыяліст па электроніцы | Упэўнены ў сабе | А |
| | | Лагічны | Б |
| | | Чуллівы да прыгажосці | В |
| | | Спрытны на рукі | Г |
| | | Настойлівы | Д |
| 7. | Урач | Мітуслівы | А |
| | | Уседлівы, старанны | Б |



| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| | | Экспрэсіўны | В |
| | | Умее слухаць іншых | Г |
| | | Арыгінальны | Д |
| 8. | Вадзіцель аўтатранспарту | | |
| 9. | Электрык | | |
| 10. | Цырульнік | | |
| 11. | Настаўнік | | |
| 12. | Банкір | | |
| 13. | Прадпрымальнік | | |
| 14. | Будаўнік | | |
| 15. | Трактарыст | | |
| 16. | Кіраўнік | | |

Якасці, якія характарызуюць астатнія прафесіі, вы вызначыце самі. Гэта можна зрабіць і як хатняе заданне. Затым у класе абавязкова ўсе разам абмяркуйце гэтыя якасці ў далучэнні да прапануемых прафесій.

Ч а ц в ё р т ы  э т а п: мае асабістыя якасці і прафесіі.

З а д а н н е:

1. Ацаніце розныя прафесіі на аснове вашых асабістых якасцей. Паглядзіце, якія ўласцівыя вам якасці падыходзяць да пэўнай прафесіі.

2. Якую прафесію вы выбіраеце? Для пачатку можа быць выбрана некалькі прафесій.

3. Паведаміце пра ваш выбар таварышам па вучобе і спытайце іх, ці адпавядае ваш выбар іх думцы.

4. Аформіце ўсё гэта ў выглядзе наступнай табліцы.

| № п/п | Выбраныя вамі прафесіі | Якасці, уласцівыя вам і неабходныя для дадзенай прафесіі |
|---|---|---|
| 1.<br>2.<br>3. | | |

Гэта не значыць, што вы абавязкова будзеце працаваць па выбранай прафесіі. Але гэта можа стаць арыенцірам у пошуках вамі будучай прафесіі.

Шчаслівага вам выбару!

**ПРЫСЛУХАЕМСЯ**

***Усё багацце грамадства без выключэння заключаецца ў яго працы.***

*Д. І. Пісараў*

***Вышыня культуры заўсёды знаходзіцца ў прамой залежнасці ад любві да працы.***

*М. Горкі*

***Сапраўдны скарб для людзей — уменне працаваць.***

*Эзоп*

***Рамяство жыць дапамагае.***

*Прымаўка*

***Кожны чалавек павінен пераважна брацца за тое, што для яго магчыма і што для яго прыстойна.***

*Арыстоцель*

***Асоба характарызуецца не толькі тым, што яна робіць, але і тым, як яна гэта робіць.***

*Ф. Энгельс*

**Што можна прачытаць**

Ростунов А. Т. Психологическая подготовка школьников к труду и выбору профессии. Мн., 1995.

Борисова Е. М., Логинова Г. П. Индивидуальность и профессия. М., 1991.

## § 27. Як афармляюць працоўную дзейнасць

### Дзе вучацца прафесіі

Першыя працоўныя навыкі набываюць у сярэдняй школе. Але для таго, каб малады чалавек мог набыць якую-небудзь прафесію, дзяржава стварае сістэму прафесійнай адукацыі. Рабочымі спецыяльнасцямі авалодваюць у *прафесійна-тэхнічных вучылішчах* (ПТВ). Іх выпускнікі — гэта рабочыя, якія маюць *пачатковую прафесійную адукацыю*. Яны павінны валодаць адной або некалькімі прафесіямі, умець арганізаваць сваё працоўнае месца.



У *сярэдніх спецыяльных навучальных установах* (ССНУ) атрымліваюць прафесійную адукацыю на больш высокім узроўні. Выпускнік ССНУ — гэта ўжо *спецыяліст сярэдняй кваліфікацыі,* з больш высокай прафесійнай падрыхтоўкай, чым выпускнік ПТВ. Разам з прафесійнай дзейнасцю ён удзельнічае ў арганізацыі якога-небудзь канкрэтнага ўчастка працы.

У *вышэйшых навучальных установах* (ВНУ) авалодваюць ведамі і навыкамі на высокім прафесійным узроўні. Выпускнік ВНУ — гэта *высокакваліфікаваны спецыяліст.* Ён валодае не толькі ведамі ў якой-небудзь прафесійнай галіне, але і навуковымі ведамі, умее арганізаваць і кіраваць працай людзей, прадпрыемстваў і галін вытворчасці.

Для грамадства важна, каб кожны чалавек знайшоў сваё месца ў жыцці, а вытворчасць была забяспечана высокакваліфікаванай працоўнай сілай. Таму шмат якім прафесіям дзяржава забяспечвае бясплатнае навучанне і гарантуе працаўладкаванне спецыяліста.

Прайсці прафесійную падрыхтоўку можна таксама за кошт прадпрыемства або фірмы. Тады паміж прадпрыемствам, будучым работнікам і навучальнай установай (або паміж прадпрыемствам і навучальнай установай) заключаецца дагавор. У ім прадугледжваецца тэрмін навучання і спецыяльнасць, якую атрымае малады чалавек. У пералічаных выпадках будучы спецыяліст атрымлівае бясплатную прафесійную адукацыю, але ён абавязаны адпрацаваць пэўны час па спецыяльнасці на вызначаным працоўным месцы.

Разам з сістэмай размеркавання выпускнікоў па працоўных месцах навучальнымі ўстановамі існуе сістэма свабоднага працаўладкавання грамадзян. Яна складаецца з дзяржаўных і недзяржаўных арганізацый, якія дапамагаюць спецыялістам працаўладкавацца.

### Уладкаванне на працу

Вам неабходна ведаць, што існуюць спецыяльныя *установы дзяржаўнай службы занятасці.* У Рэспубліцы Беларусь у службу занятасці ўваходзяць: рэспубліканскі, абласныя, гарадскія, раённыя цэнтры занятасці насельніцтва. Асноўная іх задача — аказанне дапамогі грамадзянам краіны ў падборы месца працы, а наймальнікам — у забеспячэнні прадпрыемстваў работнікамі.

У некаторых краінах існуюць біржы працы. Гэта таксама дзяржаўныя ўстановы, якія рэгіструюць беспрацоўных і аказваюць пасрэдніцкія паслугі на рынку працы паміж работнікам і наймальнікам.

Пры ўладкаванні на працу (у дзяржаўную або прыватную установу, фірму) заключаецца працоўны дагавор паміж наймальнікам і наёмным работнікам.

***Працоўны дагавор*** *— гэта пагадненне, якое накіравана на ўстанаўленне, змяненне або спыненне правоў і абавязкаў работніка і наймальніка.* Па дагавору работнік абавязваецца выконваць працу па адной або некалькіх прафесіях (спецыяльнасцях) на адпаведнай пасадзе, а таксама падпарадкоўвацца ўнутранаму працоўнаму распарадку.

Згодна з працоўным дагаворам наймальнік абавязваецца выплачваць работніку грашовую кампенсацыю — заработную плату за затрачаную работнікам сілу. Наймальнік таксама абавязваецца забяспечыць пэўныя ўмовы працы, якія прадугледжаны Заканадаўствам аб працы (КЗАП) і калектыўным дагаворам з улікам спецыфікі вытворчасці.






ПРАЦАЎЛАДКАВАННЕ

САМАСТОЙНАЕ — ІНДЫВІДУАЛЬНАЯ ПРАЦОЎНАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ, ПРАДПРЫМАЛЬНІЦТВА

НА АСНОВЕ ДАГАВОРА — КАНТРАКТ, ПРАЦОЎНАЕ ПАГАДНЕННЕ З НАЙМАЛЬНІКАМ

У апошні час усё большае распаўсюджанне атрымліваюць такія віды працоўнага дагавора, як *кантракт, працоўныя пагадненні* і інш.

*Спыненне працоўнага пагаднення называецца* ***звальненнем.*** Яно можа адбыцца са згоды работніка і наймальніка, па ініцыятыве работніка або па ініцыятыве наймальніка. У некаторых выпадках спыненне працоўнага дагавора адбываецца па ініцыятыве трэціх асоб, якія не з'яўляюцца адным з бакоў працоўнага пагаднення. Да іх адносяцца ваенкаматы, суды, вышэйстаячыя органы (органы ўлады), прафсаюзныя або медыцынскія органы.

Ва ўсіх выпадках фармуліроўка прычын звальнення павінна дакладна адпавядаць заканадаўству і адпаведнаму пункту кантракта, дагавора, падраду або іншага дакумента прадпрыемства.

Асобым відам дзейнасці з'яўляецца *індывідуальная працоўная дзейнасць* (ІПД). Гэта сістэматычная, доўгатэрміновая дзейнасць па вытворчасці тавараў і паслуг, якую здзяйсняе чалавек самастойна, на свой погляд. Аднак ІПД не азначае поўнае самавольства чалавека ў арганізацыі вытворчасці. Нягледзячы на тое што ў любой краіне ІПД заахвочваецца дзяржавай, яна ўсюды ажыццяўляе кантроль і рэгуляванне некаторых бакоў гэтай дзейнасці. Размова ідзе аб якасці тавараў і паслуг, захоўванні санітарных і процілажарных норм, абароне правоў спажыўца, выкананні падатковых адлічэнняў і г. д.

Да пачатку арганізацыі індывідуальнай працоўнай дзейнасці чалавек павінен зарэгістравацца ў мясцовых органах улады і атрымаць на сваю дзейнасць дазвол *(ліцэнзію* або *патэнт)*. Займацца ІПД дазволена ўсім паўналетнім грамадзянам, якія гарантуюць, што іх індывідуальная працоўная дзейнасць і яе вынікі не нанясуць шкоды навакольнаму асяроддзю і спажыўцу.

## Працоўны калектыў

Чалавек, якога прынялі на працу, становіцца членам калектыву. ***Калектыў*** *— гэта група або супольнасць людзей, якія аб'яднаны сумеснай прадукцыйнай дзейнасцю і агульнай мэтай.* У залежнасці ад мэт і задач калектывы бываюць вельмі разнастайныя — вучэбныя, спартыўныя, мастацкай самадзейнасці і інш. *Калектыў, які склаўся на прадпрыемстве або ва ўстанове ці калектыўнай гаспадарцы, называецца* ***працоўным.***

***Прадпрыемства*** *— гэта дзеючы самастойны гаспадарчы суб'ект, які валодае правамі юрыдычнай асобы.* Прадпрыемства выконвае работы, аказвае паслугі з мэтай рашэння галоўнай задачы — атрымання прыбытку для задавальнення сацыяльных і эканамічных інтарэсаў працоўнага калектыву і ўласніка маёмасці.

Працоўны калектыў прадпрыемства складаюць усе работнікі, якія ўдзельнічаюць ў дзейнасці на аснове працоўнага дагавора, за выключэннем кіраўніка і яго намеснікаў. Справа ў тым, што кіраўнік і яго намеснікі працуюць па кантракту на аснове найму іх уласнікам прадпрыемства і тым самым з'яўляюцца «праваднікамі» палітыкі ўласніка. Яны прымаюць і звальняюць работнікаў, накладваюць спагнанні, арганізуюць працу ў цэлым, падпісваюць калектыўны дагавор і г. д. Іх інтарэсы і прававое становішча іншыя, чым у наёмных работнікаў. Менавіта таму кіраўнікі не ўключаюцца ў склад калектыву.

Працоўны калектыў прадпрыемства валодае шырокімі правамі. Ён можа рашаць у адпаведнасці з заканадаўствам пытанні, якія звязаны з прыватызацыяй прадпрыемства; выбіраць (адклікаць) прадстаўнікоў у савет (праўленне) прадпрыемства, заслухоўваць справаздачы аб іх дзейнасці; удзельнічаць у распрацоўцы і прыняцці рашэнняў па сацыяльна-эканамічных пытаннях дзейнасці прадпрыемства і інш.

На буйных прадпрыемствах іх вялікія калектывы падзяляюцца на калектывы брыгад, участкаў, цэхаў, змен, аддзелаў заводаўпраўлення і г. д.

*Вышэйшым органам працоўнага калектыву прадпрыемства з'яўляецца* ***агульны сход (канферэнцыя) работнікаў,*** адной з функцый якога становіцца прыняцце калектыўнага дагавора.

У калгасах, кааператывах і падобных да іх прадпрыемствах працоўныя калектывы маюць прынцыпова іншы прававы статус у параўнанні з калектывамі прадпрыемстваў.

Прадпрыемствы калектыўных форм уласнасці з'яўляюцца калектывамі ўласнікаў (калектыўных прадпрымальнікаў). Працоўныя калектывы прадпрыемстваў з'яўляюцца калектывамі наёмных работнікаў, г. зн. іх прымаюць на працу.

Работнікі прадпрыемстваў калектыўных форм уласнасці могуць вырашаць канчаткова практычна любое пытанне іх дзейнасці. Працоўныя калектывы наёмных работнікаў могуць вырашаць толькі некаторыя пытанні, у той час як асноўную іх частку вырашае ўласнік прадпрыемства, наймальнік.

**Вывады.** *1. Падрыхтавацца да працоўнай дзейнасці можна ў розных навучальных установах сістэмы прафесійнай адукацыі. 2. Уладкавацца на працу дапамагае Дзяржаўная служба занятасці. 3. Чалавек, які паступіў на працу, становіцца членам калектыву.*

### Слоўнік

**Кантракт** — дагавор, пагадненне паміж дзвюма або некалькімі асобамі, у якім вызначаюцца дзеянні, што падлягаюць выкананню, і адказнасць за выкананне (або невыкананне) гэтых дзеянняў.

**Ліцэнзія** — дазвол на права вытворчасці прадукцыі або від пэўнай дзейнасці. Ліцэнзаванне ўяўляе сабой сістэму дзяржаўнага кантролю за дзейнасцю юрыдычных (установы і арганізацыі) і фізічных (прадпрымальнікі) асоб.

**Патэнт** — *1.* Дакумент, пасведчанне, якое выдаецца дзяржаўнымі органамі вынаходніку. *2.* Дакумент, які дазваляе займацца якім-небудзь рамяством або промыслам.

**Рынак працы** — суадносіны паміж сукупнасцю працоўных месцаў у маштабах грамадскай вытворчасці, рэгіёна, прадпрыемства, установы і г. д. і наяўнасцю жадаючых уладкавацца на працу.

1. У якіх навучальных установах нашай краіны можна атрымаць прафесійную падрыхтоўку?
2. Якія асаблівасці індывідуальнай працоўнай дзейнасці?
3. Для чаго патрэбны калектыўны дагавор на прадпрыемстве?
4. Чым адрозніваецца калектыўны дагавор ад працоўнага дагавора?

## ПРАКТЫКУМ

### КАРЫСНА ВЕДАЦЬ

#### КЗАП

Кожны, хто ўдзельнічае ў грамадскай вытворчасці, мае права на вызначаныя ўмовы працы.

Гэтае права ў нашай краіне юрыдычна замацавана ў Кодэксе Законаў аб працы Рэспублікі Беларусь (КЗАП). Кодэкс (або звод) — гэта кніга, якая складаецца з многіх заканадаўчых актаў.

Працоўныя ўмовы, якія гарантуюцца КЗАП, прадугледжваюць:

парадак змянення і спынення часу працы чалавека ў дзяржаўных установах і арганізацыях;

працягласць і рэжым працоўнага дня, а таксама час адпачынку;

аплату працы;

гарантаваныя і кампенсацыйныя выплаты (аплата за час, затрачаны на атрыманне некаторых відаў адукацыі, адпачынку, хваробы, інваліднасць);

ахову працы;

льготы (пераважнае або частковае вызваленне ад выканання ўстаноўленых абавязкаў) і г. д.

#### Кантракт

Кантрактам называецца працоўнае пагадненне паміж работнікам і наймальнікам, у якім устанаўліваецца канкрэтны тэрмін дзеяння гэтага пагаднення. У кантракце выразна адлюстраваны: праца, якая выконваецца; тэрмін дзеяння кантракта; адказнасць бакоў; сума выплат па кантракту (у тым ліку формы і віды аплаты працы, а таксама перыядычнасць выплаты); арганізацыя працы; рэжым працы і адпачынку; сацыяльнае забеспячэнне (умовы жылля, прадастаўленне транспарту, пагашэнне банкаўскіх пазык і інш.); падставы датэрміновага скасавання кантракта (напрыклад, невыкананне службовых абавязкаў работнікам або парушэнне ўмоў аплаты працы наймальнікам). Звальненне па ўласным жаданні кантрактам не прадугледжваецца.



### ПРЫСЛУХАЕМСЯ

*Беда, коль пироги начнет печи сапожник,*
*А сапоги тачать пирожник.*

*І. А. Крылоў*

*Любімая праца падымае рана, і мы з радасцю прымаемся за яе.*

*В. Шэкспір*

*Адпачынак — гэта перамена заняткаў.*

*І. В. Паўлаў*

*Характар загартоўваецца працай, і хто ніколі не здабываў уласнай працай сабе надзённага харчу, той у большасці выпадкаў застаецца назаўсёды слабым і бесхарактарным чалавекам.*

*Д. І. Пісараў*

*Для таго каб жыць, трэба ўмець што-небудзь рабіць.*

*М. Горкі*

*Калектыў — гэта не нейкая безаблічная маса. Ён існуе як багацце індывідуальнасцей.*

*В. А. Сухамлінскі*

*Умець працаваць у калектыве — гэта ў першую чаргу правільна ўспрымаць крытыку і не саромецца крытыкаваць памылкі іншага.*

*М. Д. Зялінскі*

*Толькі ў калектыве індывід атрымлівае сродкі, якія даюць яму магчымасць усебаковага развіцця сваіх задаткаў, і, такім чынам, толькі ў калектыве магчыма асабістая свабода.*

*К. Маркс*

#### Што можна прачытаць

Трудовой договор. Коллективный договор, соглашение // Комментарий о труде с образцами по работе с кадрами. Мн., 1999.

Коллективный договор, соглашение // Юридический справочник. Мн., 1998.

# § 28. На працы

## Чалавек, які працуе,— правы і абавязкі

Амерыканскі паэт Джон Уіцьер (1807—1892) апяваў людзей працы ў цудоўных радках:

Пусть золото возьмут глупцы, а власть — злодеи,
Рабы удачи пусть трепещут перед ней;
Кто пашет землю, кто цветы лелеет,
Кто дерево растит — тот всех людей сильней!

Вы сталі чалавекам, які працуе, увайшлі ў дарослы працоўны калектыў. Цяпер у вас ёсць трывалая аснова пад нагамі, і вы можаце самі забяспечыць сваё існаванне. Можаце з упэўненасцю будаваць планы наперад. Цяпер у вас — усе правы грамадзяніна, які працуе. Якія?

Перш за ўсё вы маеце *права на працу і свабоднае распараджэнне сваімі здольнасцямі.* Вы можаце працаваць самастойна або на аснове дагавора. Самастойна — гэта, напрыклад у форме індывідуальнай прадпрымальніцкай дзейнасці. А можна добраахвотна заключыць працоўны дагавор з наймальнікам, у выніку чаго набываецца статус работніка.

На прадпрыемствах кожны работнік мае *права свабодна аб'ядноўвацца ў прафсаюзы для абароны сваіх інтарэсаў,* калектыўна весці перагаворы з наймальнікам, мае права на забастоўку як крайнюю меру вырашэння канфлікту паміж калектывам і наймальнікам.

На працы вы набываеце *права на ўдзел у кіраванні прадпрыемствам.* Ажыццяўляецца гэта права перш за ўсё праз






агульныя сходы (канферэнцыі) працоўнага калектыву.

Кожны работнік мае *права на частку прыбытку прадпрыемства.* Наймальнік за кошт атрыманага ім прыбытку можа ўстанаўліваць работнікам узнагароджванне па выніках работы за год. Памер узнагароджвання вызначаецца з улікам вынікаў працы работніка і працягласці бесперапыннага стажу працы ў дадзенага наймальніка.

Кожны работнік мае *права на здаровыя і бяспечныя ўмовы працы,* на павагу свайго прыватнага жыцця і асабістай годнасці. Непавага да права на асабістую годнасць можа мець месца, напрыклад, калі ў загадзе або характарыстыцы ёсць неадпавядаючыя сапраўднасці звесткі, якія зневажаюць работніка, або калі ў адрас работніка з боку кіраўніка дапушчана брыдкая лаянка і грубасць.

Работнік мае *права на своечасовую справядлівую аплату сваёй працы.* Аплата працы прадугледжвае неабходнасць пакрыцця працоўнай сілы чалавека, якую ён затраціў у працэсе працоўнай дзейнасці. Акрамя таго, кожны работнік мае права на перапынак на абед, выхадныя і святочныя дні, адпачынак. На працягу рабочага дня (змены) работнікам прадастаўляецца перапынак для адпачынку і харчавання працягласцю не больш за дзве гадзіны, у залежнасці ад таго, наколькі шкодныя ўмовы працы.

Працоўныя таксама маюць *права на сацыяльнае страхаванне,* пенсійнае забеспячэнне і гарантыі ў выніку прафесійнага захворвання, інваліднасці і страты працы.

Аднак правоў без абавязкаў не бывае. Якія ж абавязкі ўскладаюцца на работніка? Найбольш важныя з іх: добрасумленна працаваць; выконваць правілы тэхнікі бяспекі; беражліва адносіцца да маёмасці наймальніка і прымаць меры для прадухілення ўрону; выконваць пісьмовыя і вусныя распараджэнні і інструкцыі наймальніка ў адпаведнасці з прадастаўленымі яму паўнамоцтвамі; садзейнічаць павышэнню прадукцыйнасці працы; прытрымлівацца ўстаноўленых патрабаванняў да якасці вырабляемай прадукцыі, выконваемых работ, аказваемых паслуг; не выдаваць камерцыйную тайну наймальніка; падпарадкоўвацца правілам унутранага працоўнага распарадку, іншым дакументам, якія рэгламентуюць пытанні дысцыпліны працы; выконваць іншыя абавязкі, якія вынікаюць з заканадаўства, калектыўнага і працоўнага дагавораў.

Абавязкі работніка могуць канкрэтызавацца і ўдакладняцца ў правілах унутранага распарадку ў залежнасці ад асаблівасцей працы ў канкрэтнага наймальніка. Спецыфічныя абавязкі асобных работнікаў дзяржаўных прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый замацоўваюцца ў статутах або палажэннях аб дысцыпліне.

## Дысцыпліна і арганізацыя працы

Любая дзейнасць, накіраваная на дасягненне канкрэтнай мэты, патрабуе пэўнай арганізацыі і павінна быць падпарадкавана дакладнаму парадку правядзення работ, паводзінам работнікаў на працоўных месцах. Такі парадак называецца *дысцыплінай*.

Дысцыпліна — залог поспеху. Таму яе неабходна прытрымлівацца пры любых відах грамадска-карыснай дзейнасці. Як гаварылі старажытныя грэкі, «той, хто зрабіў, дынясе вынікі спраў сваіх». *За парушэнне працоўных абавязацельстваў работніка могуць прыцягнуць да адказнасці —* ***дысцыплінарнай, матэрыяльнай, адміністрацыйнай, крымінальнай.*** Дысцыплінарная адказнасць выяўляецца ў выглядзе вынясення вымовы, строгай вымовы, зняцця з пасады.

Дысцыплінарныя спагнанні прымяняюцца органам (кіраўніком), якому дадзена права прыёму (выбрання, зацвярджэння, назначэння на пасаду) і звальнення работнікаў. Наймальнік можа замест прымянення дысцыплінарнага спагнання перадаць пытанне аб парушэнні працоўнай дысцыпліны на разгляд працоўнага калектыву, таварыскага суда або грамадскай арганізацыі.

Матэрыяльная адказнасць прымяняецца да работнікаў, якія нанеслі наймальніку ўрон сваімі дзеяннямі або бяздзеяннем пры выкананні працоўных абавязкаў. Адміністрацыйная адказнасць выражаецца ў форме штрафу. Такія меры тлумачацца тым, што парушэнне працоўнай і асабліва вытворчай дысцыпліны можа прывесці да сур'ёзных сацыяльна-эканамічных вынікаў.

Дысцыпліна ляжыць у аснове арганізацыі працы на прадпрыемстве. ***Арганізацыя працы*** *— гэта забеспячэнне працэсу эфектыўнага функцыяніравання вытворчасці.* У рамках асобнага прадпрыемства арганізацыя працы ўключае: прафесійную падрыхтоўку і падбор кадраў; падзел і кааперацыю



працы ў працоўным калектыве; арганізацыю працоўных месцаў для выканання работнікамі ўскладзеных на іх функцый; стварэнне неабходных умоў працы; устанаўленне неабходнай меры працы пры дапамозе нарміравання; арганізацыю аплаты працы і ўстанаўленне працоўнай дысцыпліны.

У нашы дні арганізацыя працы павінна ажыццяўляцца на базе сусветных дасягненняў навукі і перадавога вытворчага вопыту. Толькі на гэтай аснове ствараюцца ўмовы для павышэння прадукцыйнасці працы і росту эфектыўнасці ўсёй грамадскай вытворчасці.

Важным паказчыкам эфектыўнасці працы любога прадпрыемства з'яўляецца прыбытак. ***Прыбытак*** *— гэта розніца паміж даходам прадпрыемства і выдаткамі прадпрыемства.* Пад тэрмінам «чысты прыбытак» разумеюць тую частку прыбытку, якая застаецца ў прадпрыемства пасля аплаты падаткаў і іншых плацяжоў у бюджэт.

Велічыня прыбытку кожнага канкрэтнага прадпрыемства залежыць ад якасці яго працы. Пры гэтым мае значэнне рацыянальнае выкарыстанне ўсіх фактараў вытворчасці — прыроды, рабочай сілы, тэхнікі, кааперацыі працы, навукі. Найлепшы шлях атрымання большага прыбытку — гэта вытворчасць найбольшай колькасці прадукцыі найвышэйшай якасці пры мінімальных выдатках вытворчасці ў параўнанні з канкурэнтамі. *Выдаткамі вытворчасці* называюць выража-



ныя ў грашовай форме затраты матэрыяльных і працоўных рэсурсаў на вытворчасць і рэалізацыю прадукцыі. Ад эфектыўнасці працы залежаць і памеры аплаты, якая можа выступаць у выглядзе заработнай платы, прэміі, даплат і г. д.

## Прафсаюзы і адміністрацыя

Пры паступленні на працу вы павінны ведаць, што паміж працоўным калектывам і адміністрацыяй прадпрыемства існуюць разнастайныя адносіны. *Агульныя інтарэсы работнікаў выказваюць прафесійныя саюзы.*

У працэсе працоўнай дзейнасці і проста ў жыцці паміж людзьмі аднолькавай прафесіі ўзнікае прафесійная салідарнасць. Яна праяўляецца ва ўзаемнай дапамозе, падтрымцы. Формай выказвання прафесійнай салідарнасці і агульнасці інтарэсаў, якая апраўдала сябе ў многіх краінах свету, сталі прафесійныя саюзы. ***Прафесійны саюз*** *— гэта добраахвотнае фарміраванне, якое ўзнікае ў выніку свабоднага волевыяўлення грамадзян, што аб'ядналіся на аснове агульных прафесійных інтарэсаў.*

Грамадзяне маюць права ствараць прафсаюзы на прадпрыемствах, ва ўстановах, арганізацыях, у вышэйшых, сярэдніх спецыяльных і прафесійна-тэхнічных навучальных установах.

*Асноўная мэта прафсаюзаў — абарона сацыяльна-эканамічных правоў і інтарэсаў сваіх членаў.* Прафсаюзы незалежныя ў сваёй дзейнасці і падпарадкоўваюцца толькі закону. Незалежнасць прафсаюзаў забяспечваецца іх эканамічнай самастойнасцю, наяўнасцю ў іх уласных фінансавых сродкаў і маёмасці.

Адна з найбольш важных задач прафсаюзаў і іх органаў — не дапускаць канфліктных сітуацый паміж наймальнікам і наёмнымі работнікамі, забяспечваць нармальныя адносіны паміж прафсаюзам і адміністрацыяй.



Дом прафесійных саюзаў. Мінск



**Вывады.** *1. На прадпрыемстве ў кожнага работніка ёсць свае правы і абавязкі. 2. Кожны работнік абавязаны захоўваць працоўную дысцыпліну. 3. Агульныя інтарэсы членаў працоўнага калектыву выказвае і абараняе прафсаюзная арганізацыя.*

### Слоўнік

**Забастоўка** — прыпыненне, спыненне працы арганізаванай групай рабочых (працоўным калектывам, прафсаюзам) на вызначаны або неабмежаваны тэрмін з вылучэннем канкрэтных патрабаванняў.

**Працоўная дысцыпліна** — захоўванне правіл і норм любой працоўнай дзейнасці.

**Прыбытак** — даход таваравытворцы (прадпрыемства, фірмы, прадпрымальніка). *Валавы прыбытак* — розніца паміж сукупнасцю даходаў і расходаў да выплаты падаткаў. *Чысты прыбытак* — астатак валавога прыбытку пасля выплаты ўстаноўленых заканадаўствам падаткаў.

?

1. У чым заключаюцца асноўныя правы і абавязкі работніка?
2. Якія ёсць віды дысцыплінарнай адказнасці работніка?
3. Што такое прафесійная салідарнасць?

## ПРАКТЫКУМ

### КАРЫСНА ВЕДАЦЬ

### Умовы працы

Здаровыя ўмовы працы — гэта такія ўмовы, якія адпавядаюць санітарна-гігіенічным, псіхафізіялагічным і сацыяльна-эканамічным нормам, нарматывам і правілам. Умовы працы павінны забяспечыць захаванне ў працэсе працоўнай дзейнасці здароўя і працаздольнасці работнікаў.

Бяспечныя ўмовы працы не дапускаюць траўматызму або іншых пашкоджанняў здароўя ў працэсе працы (пашкоджанне асобных частак цела, страта прытомнасці і г. д.). Рашаць гэтыя пытанні — абавязак наймальніка.

### Абавязкі наймальніка

Наймальнік абавязаны арганізаваць працу работніка, стварыць умовы для росту прадукцыйнасці працы, забяспечыць працоўную і вытворчую дысцыпліну, няўхільна выконваць заканадаўства аб працы і правілы аховы працы, уважліва адносіцца да патрэб і запатрабаванняў работнікаў, паляпшэння ўмоў іх працы і быту.

Гэта асноўныя абавязкі наймальніка. Яны могуць быць канкрэтызаваны. Так, наймальнік абавязаны: своечасова выплачваць заработную плату; ствараць работнікам здаровыя і бяспечныя ўмовы працы; укараняць найноўшыя сродкі і тэхналогіі; своечасова і правільна праводзіць расследаванне і ўлік няшчасных выпадкаў на вытворчасці; патрабаваць ад людзей, якія паступаюць на працу, прад'яўлення адпаведных дакументаў; знаёміць тых, хто паступае на працу, з умовамі і аплатай працы, правіламі ўнутранага працоўнага распарадку і калектыўным дагаворам; інструктаваць па тэхніцы бяспекі, вытворчай санітарыі і гігіене працы, супрацьпажарнай бяспецы і інш.

Службовыя асобы, вінаватыя ў парушэнні заканадаўства аб працы, у невыкананні абавязацельстваў па калектыўных дагаворах і пагадненнях па ахове працы, нясуць дысцыплінарную, адміністрацыйную і крымінальную адказнасць.

### Кодэкс аб працы Рэспублікі Беларусь

(па стану на 1 кастрычніка 1997 г.)

Артыкул 173. Не дапускаецца заключэнне працоўнага дагавора з асобай, маладзейшай за 16 гадоў. З пісьмовай згоды аднаго з бацькоў (апекуноў або папячыцеляў) працоўны дагавор можа быць заключаны з асобай, якая дасягнула 14 гадоў.

Артыкул 174. Непаўналетнія (асобы, якія не дасягнулі 18 гадоў) у працоўных праваадносінах прыраўноўваюцца да правоў паўналетніх, а ў галіне аховы працы, рабочага часу, адпачынкаў і некаторых іншых умоў працы карыстаюцца льготамі.

### ПРЫСЛУХАЕМСЯ

***Без дысцыпліны няма калектыву, без калектыву няма арганізацыі.***

*Д. А. Фурманаў*



***Кожнаму чалавеку адпавядае пэўны род дзейнасці, які робіць яго карысным для грамадства і адначасова прыносіць яму шчасце.***

*М. Барэс*

***Калі ты што-небудзь робіш, рабі гэта добра. Калі ж ты не можаш або не хочаш рабіць добра, лепш зусім не рабі.***

*Л. М. Талстой*

***Жыве свабодна толькі той, хто знаходзіць радасць у выкананні свайго доўгу.***

*Цыцэрон*

***Беражыце час: гэта тканіна, з якой саткана жыццё.***

*С. Рычардсан*

#### Што можна прачытаць

Технология делового общения /Авт.-сост. И. А. Кузнецов. Мн., 1999.

## § 29. Чалавек як спажывец

### Заработная плата

Любая праца павінна быць аплачана. На прадпрыемствах работніку за працу выдаюць заработную плату. ***Заработная плата*** *— гэта сукупнасць узнагароджванняў у грашовай або (і) натуральнай форме, якія атрымлівае работнік за фактычна выкананую працу.* Адрозніваюць намінальную і рэальную заработную плату. *Намінальная заработная плата* — гэта сума грашовых сродкаў, якія атрымлівае работнік за сваю працу ў адпаведнасці з яе колькасцю і якасцю. *Рэальная заработная плата* — сукупнасць матэрыяльных даброт і паслуг, якія работнік можа набыць на атрыманую ім заработную плату пры дадзеным узроўні цэн на тавары і паслугі.

Выкарыстоўваюцца дзве асноўныя формы заработнай платы — *здзельная* і *пачасовая.* Пры здзельнай аплаце працы заработная плата работніку (або групе работнікаў) налічваецца за кожную адзінку выкананай працы або выробленай прадукцыі (выражанай у вытворчых аперацыях, штуках, кілаграмах, кубічных метрах і да т. п.).

Па спосабах налічэння заработнай платы здзельная аплата падраздзяляецца на *індывідуальную* і *калектыўную*. Пры індывідуальнай памер заработнай платы залежыць ад колькасці зробленых работнікам прыгодных вырабаў (прадукцыі) у адзінку часу (гадзіна, дзень), памножаных на здзельныя расцэнкі за адзінку гэтых вырабаў (прадукцыі).

Пры калектыўнай аплаце калектыўны здзельны заработак разлічваецца на аснове агульных вынікаў працы брыгады (участка, цэха) па калектыўных здзельных расцэнках. Гэты






заработак размяркоўваецца паміж членамі брыгады ў адпаведнасці з тарыфным разрадам работніка і фактычным адпрацаваным часам.

У сельскай і лясной гаспадарках, дзе ёсць значны разрыў паміж часам ажыццяўлення працоўных затрат і атрыманнем канчатковых вынікаў, прымяняецца *падрадная форма арганізацыі аплаты працы.* Да разліку за канчатковыя вынікі працы тут работнікам выплачваецца аванс у памеры ўстаноўленых калектыўным дагаворам тарыфных ставак, акладаў або іх частак.

*Пры пачасовай форме аплаты працы* заработак работніка вызначаецца па ўстаноўленай тарыфнай стаўцы (акладзе) за фактычна адпрацаваны час. Гэта форма прымяняецца для аплаты працы кіраўнікоў, спецыялістаў і служачых, а таксама рабочых у галінах прамысловасці на тых вытворчых участках, дзе індывідуальная выпрацоўка не залежыць ад рабочага, а вызначаецца тэхналагічным працэсам.

Акрамя асноўнай заработнай платы, дадатковым стымуляваннем работнікаў за высокакваліфікаваную працу, за іх уклад у павышэнне эфектыўнасці вытворчасці з'яўляецца прэміраванне, узнагароджванне па выніках працы за год, перадача работнікам часткі прыбытку наймальніка.

Чалавек зарабіў грошы. Яны патрэбныя яму для таго, каб траціць іх на задавальненне сваіх матэрыяльных і духоўных запатрабаванняў. Чалавек у гэтым выпадку выступае ў ролі спажыўца.

## Пражытачны мінімум і «спажывецкі кошык»

*Спажыванне — гэта выкарыстанне неабходных чалавеку тавараў і паслуг для задавальнення яго разнастайных і шматлікіх патрэбнасцей.* Чым больш у краіне вырабляецца даброт і паслуг, тым больш поўна задавальняюцца патрэбнасці грамадзян. Адначасова асабісты ўзровень спажывання будзе залежаць і ад узроўню асабістага даходу.

Аднак задаволіць усе патрэбнасці чалавека немагчыма. Гэта звязана са шмат якімі прычынамі. Па-першае, разнастайнасць прадметаў спажывання абмежаваная, хаця на рынку іх вельмі шмат. Чалавек абавязкова будзе незадаволены або выглядам, або якасцю, або колькасцю тавараў і паслуг. Па-другое, абмежаваны магчымасці самога чалавека ў набыцці




неабходных яму матэрыяльных або духоўных каштоўнасцей. Таму ў кожным канкрэтным выпадку чалавек стаіць перад выбарам: як распарадзіцца сваім грашовым даходам, каб больш поўна задаволіць свае патрэбнасці.

Паколькі жыццёвыя магчымасці і грашовыя рэсурсы кожнага спажыўца абмежаваны, ён павінен вырашыць, што ў першую чаргу неабходна набыць і ад чаго адмовіцца. Як правіла, з мноства варыянтаў спажывання кожны выбірае той, пры якім цана выбару будзе найменшай. *Цана выбару — гэта жыццёвыя даброты або даходы, якія мы хацелі б мець, але пазбаўляемся іх, паколькі аддаём перавагу нейкаму іншаму варыянту.* Напрыклад, працягваючы вучобу ў ВНУ, мы па-




Будынак Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь

збаўляемся даходу, які маглі б мець, калі б пайшлі працаваць. Або калі мы набываем веласіпед, мы пазбаўляемся магчымасці наведваць тэатр.

Падчас прыняцця рашэння ў першую чаргу ўлічваецца магчымасць задавальнення пражытачнага мінімуму — гэта значыць задавальнення мінімальных патрэбнасцей у прадуктах харчавання, адзенні, жыллі, транспартных паслугах, прадметах санітарыі і гігіены. *Найбольш тыповыя матэрыяльныя даброты і паслугі, якія спажывае ў сярэднім чалавек, называюцца **«спажывецкім кошыкам»**.* Гэта паняцце выкарыстоўваецца для аналізу ўзроўню дабрабыту людзей у адной краіне, а таксама для параўнання гэтага ўзроўню ў розных краінах.

*На аснове пражытачнага мінімуму дзяржава ўстанаўлівае мінімальны ўзровень аплаты працы або заработнай платы.* Пры яго вызначэнні дзяржава зыходзіць з таго, што перш за ўсё патрэбна чалавеку для ўзнаўлення сваёй працоўнай сілы і для выхавання хаця б аднаго дзіцяці.

Зразумела, чым багацейшая краіна (чым больш даброт і паслуг у ёй вырабляецца), тым больш багаты кожны чалавек, і тым больш самых разнастайных даброт чалавек можа спажываць, і тым больш разнастайны яго «спажывецкі кошык».

## Правы спажыўца

Такім чынам, усе мы выступаем у якасці спажыўцоў. Нашы асноўныя юрыдычныя, эканамічныя і сацыяльныя правы як спажыўцоў тавараў і паслуг, а таксама адносіны з вытворцамі гэтых тавараў і паслуг замацаваны ў законе Рэспублікі Беларусь «Аб абароне правоў спажыўцоў». У ім адзначаецца, што *любы спажывец мае права на дзяржаўную*

15. Зак. 148.

*абарону сваіх інтарэсаў; адпаведную якасць тавараў; іх бяспечнасць; поўную і дакладную інфармацыю пра кожны тавар; пакрыццё шкоды прадпрыемствам або гандлем, якая была зроблена чалавеку ў выніку набыцця тавару нізкай якасці і г. д.*

Спажывец, якому прадалі тавар неадпаведнай якасці, мае права патрабаваць бясплатна ліквідаваць недахопы, часткова або поўнасцю пакрыць свае расходы, адпаведна знізіць цану або замяніць тавар на дабраякасны. Пры гэтым прадпрыемствы гандлю, бытавога, жыллёва-камунальнага і іншых відаў абслугоўвання абавязаны стварыць усе ўмовы для высакаякаснага задавальнення патрэбнасцей чалавека. У пералік такіх умоў уваходзяць: ветлівае і хуткае абслугоўванне, забеспячэнне поўнай інфармацыяй аб неабходных таварах і паслугах, своечасовая замена няякасных тавараў або кампенсацыя затрат на іх набыццё. Абарона правоў спажыўцоў ажыццяўляецца праз дзяржаўныя органы ўлады, у тым ліку і праз суд, саюзамі і таварыствамі спажыўцоў, мясцовымі органамі кіравання.

**Вывады.** *1. У вытворчасці наша праца кампенсуецца ў выглядзе заработнай платы. 2. Ад узроўню заработнай платы залежыць ступень задавальнення патрэбнасцей чалавека. 3. Кожны спажывец мае права на абарону сваіх інтарэсаў.*

**Слоўнік**

**Заработная плата** — цана або грашовае ўзнагароджванне за працу (за выкарыстанне паслуг працы) за адзінку часу (гадзіна, дзень, тыдзень, месяц, год).

**Мінімальная заработная плата** — афіцыйна ўстаноўлены дзяржавай нарматыў (памер), які вызначае мінімальна дапушчальны ўзровень грашовых або натуральных выплат работніку наймальнікам любых форм уласнасці за выкананую для яго працу.

**Пражытачны мінімум** — кошт мінімальна неабходнага чалавеку набору даброт (жыццёвых сродкаў), якія дазваляюць падтрымліваць жыццядзейнасць.

**Спажывецкі кошык** — навукова абгрунтаваны збалансаваны набор тавараў і паслуг, якія забяспечваюць натуральныя функцыянальныя патрэбы чалавека і характарызуюць тыповы ўзровень і структуру месячнага (гадавога) спажывання чалавека або сям'і (харчаванне, адзенне, жыллё, прадметы культурна-бытавога і гаспадарчага прызначэння, лекі і інш.— усяго 1200 найменняў).



?
1. Якія існуюць віды і формы заработнай платы?
2. Што такое «пражытачны мінімум» і «спажывецкі кошык»?
3. У чым заключаюцца правы спажыўца?

## ПРАКТЫКУМ

### ПАЦІКАЎЦЕСЯ ДОМА

1. Якія формы і сістэмы заработнай платы прымяняюцца на працы вашых бацькоў?

2. Як ажыццяўляецца стымуляванне іх працы?

### КАРЫСНА ВЕДАЦЬ

Найменні ўсіх прафесій рабочых і пасад служачых устаноўлены Агульнадзяржаўным класіфікатарам Рэспублікі Беларусь «Прафесіі рабочых і пасады служачых».

Характарыстыка работ і патрабаванні да ведаў па кожнай прафесіі рабочых устанаўліваюцца Адзіным тарыфна-кваліфікацыйным даведнікам работ і прафесій рабочых (АТКД), а па пасадах служачых — Кваліфікацыйным даведнікам (КД). Гэтыя дакументы зацвярджаюцца Міністэрствам працы Рэспублікі Беларусь.

### ПРЫСЛУХАЕМСЯ

***Добры тавар без цяжкасцей знойдзе пакупнікоў.***
*Плаўт*

***Чужой працай напаўняць свой страўнік.***
*Гесіёд*

***Праца, стваральніца багаццяў, мае права валодаць усім, што яна стварае.***
*У. Філіпс*

***Скнара заўсёды бедны. Ведай мэту і мяжу жаданняў.***
*Ф. Петрарка*

***Нават самы шчодры чалавек стараецца заплаціць як мага менш за тое, што купляе кожны дзень.***
*Б. Шоу*

***Нажыць шмат грошай — храбрасць; захаваць іх — мудрасць; а ўмела расходаваць іх — майстэрства.***

*Б. Авербах*

**Што можна прачытаць**

Долбик А. С. и др. Защита прав потребителей: Учебно-практическое пособие для вузов и учащихся общеобразоват. шк. Мн., 1998.
Потребитель в законе. Самоучитель разумного потребительского поведения. М., 1995.
Райзбер Б. А., Лозовский Л. Ш. Учебный экономический словарь. М., 1999.

## ЗАКЛЮЧЭННЕ

# Дыспут «Я — грамадзянін Рэспублікі Беларусь»

Апошнія дні навучальнага года. У вас цяпер ёсць базавая адукацыя. Вы можаце вучыцца далей. А для некаторых 9-ы клас — гэта развітанне са школай. Але наперадзе ў вас поўнае спадзяванняў і цяжкасцей, цікавае і супярэчлівае, шматграннае і складанае, уласным розумам і рукамі стваранае, хутка ўжо зусім дарослае жыццё — жыццё ў свеце людзей.

Наступае пара не толькі мар і разважанняў аб будучыні, але час рэальных намаганняў для прафесійнага і асобаснага самасцвярджэння. Некалі В. Р. Бялінскі мудра заўважыў, што «добра быць вучоным, паэтам, воінам, заканадаўцам і г. д. Але дрэнна не быць пры гэтым чалавекам».

На працягу вывучэння курса «Свет людзей» мы разам з вамі раскрывалі ўзаемаадносіны людзей, іх жыццё ў грамадстве і дзяржаве, высветлілі, што чалавеку ўласціва надзвычайная колькасць чалавечых якасцей. Адной з самых важных з'яўляецца *грамадзянскасць.* Гэта якасць належыць да сацыяльнага «кола быцця» людзей.

Сёння валодаць грамадзянскасцю — значыць актыўна праяўляць сябе ў свеце людзей, фарміраваць у сабе законапаслухмянства, сцвярджаць правы чалавека, садзейнічаць росквіту грамадства, ганарыцца сваёй дзяржавай.

Кожны з нас — грамадзянін Рэспублікі Беларусь. Наша краіна валодае вяршэнствам права і паўнатой улады на сваёй тэрыторыі, самастойна ажыццяўляе ўнутраную і знешнюю палітыку. Наша краіна — дзяржава, у якой зацвердзілася дэмакратыя, разнастайнасць форм уласнасці, створаны неабходныя ўмовы для свабоднага развіцця асобы. Наша дзяржава развівае сувязі з краінамі СНД і далёкага замежжа. Умацоўваецца саюз Беларусі і Расіі. Усё гэта напаўняе паняцце грамадзянскасці глыбокім сэнсам.

Разам з тым наша грамадства сёння перажывае цяжкія часы, якія звязаны, у першую чаргу, з распадам СССР і складанасцямі самастойнага развіцця. У гэты пераходны перыяд наглядаюцца негатыўныя з'явы ў эканоміцы, культуры і іншых сферах жыцця грамадства. Захоўваецца высокі ўзровень злачыннасці. Праяўляюцца элементы бездухоўнасці.

У такіх умовах не заўсёды ў поўнай меры ажыццяўляюцца нават самыя добрыя намеры.

Вось і напрошваюцца магчымыя пытанні нашага дыспуту.

У артыкуле 2 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь гаворыцца, што «дзяржава нясе адказнасць перад грамадзянамі за стварэнне неабходных умоў для свабоднага і годнага развіцця асобы».

*У чым, на ваш погляд, выражаецца на практыцы гэта канстытуцыйнае патрабаванне?*

Там жа гаворыцца: «Грамадзянін нясе адказнасць перад дзяржавай за няўхільнае выкананне абавязкаў, якія ўскладзены на яго Канстытуцыяй».

*Якія абавязкі грамадзяніна Рэспублікі Беларусь?*

Вы, магчыма, ужо чулі гэтыя словы:

Ты должен посвятить отечеству свой век,
Коль хочешь навсегда быть честный человек.

*Д. І. Фанвізін*

Відаць, да гэтай парады неабходна прыслухоўвацца і ў нашы дні.

*А як вы мяркуеце?*

## *Слоўнік імён*

Абу Эдмонд (1828—1885) — французскі пісьменнік.

Авідзій (43 да н. э.— каля 18 н. э.) — рымскі паэт.

Адлер Фелікс (1851—1933) — амерыканскі педагог.

Алізароўскі Адам (каля 1618 — каля 1654) — палітычны мысліцель, правазнаўца Беларусі і Літвы.

Амаду Жоржы (нар. у 1912) — бразільскі пісьменнік.

Анаксагор (500—428 да н. э.) — старажытнагрэчаскі філосаф.

Анаксімандр (каля 610 — каля 547 да н. э.) — старажытнагрэчаскі філосаф.

Анаксімен (каля 585 — каля 525 да н. э.) — старажытнагрэчаскі філосаф.

Арон Раймон (1905—1983) — французскі сацыёлаг.

Арыстарх Самоскі (каля 320—250 да н. э.) — старажытнагрэчаскі астраном.

Арыстоцель (384—322 да н. э.) — старажытнагрэчаскі філосаф, вучоны-энцыклапедыст.

Аўгусцін Аўрэлій, «Блажэнны» (354—430) — епіскап з Гіпона (Паўночная Афрыка). Лаціна-хрысціянскі пісьменнік.

Аўрэлій Марк (121—180) — рымскі дзяржаўны дзеяч і філосаф.

Бавуар Сімона дэ (1908—1986) — французская пісьменніца.

Бальзак Анарэ дэ (1799—1850) — французскі пісьменнік.

Барбюс Анры (1873—1935) — французскі пісьменнік і грамадскі дзеяч.

Барэс Марыс (1862—1923) — французскі пісьменнік.

Бебель Аўгуст (1840—1913) — нямецкі сацыял-дэмакрат.

Бёрне Карл Людвіг (1786—1837) — нямецкі публіцыст і крытык.

Бічар Генры Уорд (1813—1887) — амерыканскі грамадскі дзеяч.

Браўн Томас (1605—1682) — англійскі пісьменнік.

Бруна Джардана (1548—1600) — італьянскі філосаф, вучоны, паэт.



Буаст П'ер Клод Віктуар (1765—1824) — французскі пісьменнік.

Бубер Марцін (1878—1965) — яўрэйскі пісьменнік і філосаф.

Буш Вільгельм (1832—1908) — нямецкі паэт, мастак.

Бэкан Фрэнсіс (1561—1626) — англійскі філосаф, дзяржаўны дзеяч.

Бялінскі Вісарыён Рыгоравіч (1811—1848) — рускі літаратурны крытык, філосаф, публіцыст.

Бярдзяеў Мікалай Аляксандравіч (1874—1948) — рускі рэлігійны філосаф.

Вальтэр Франсуа (1694—1778) — французскі пісьменнік, філосаф, гісторык.

Верасаеў Вікенцій Вікенцьевіч (1867—1945) — рускі савецкі пісьменнік.

Волан Андрэй (1530—1610) — беларускі палітычны дзеяч і філосаф.

Вярнадскі Уладзімір Іванавіч (1863—1945) — савецкі вучоны-мінеролаг і геахімік.

Гадамер Ханс Георг (нар. у 1900) — нямецкі філосаф.

Галіфакс Джордж Сэвіл (1633—1695) — англійскі дзяржаўны дзеяч, публіцыст.

Гандзі Махандас Карамчанд (1869—1948) — дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху ў Індыі.

Ганчароў Іван Аляксандравіч (1812—1891) — рускі пісьменнік.

Гаўг Іаган (1761—1829) — нямецкі паэт.

Гебель Хрысціян Фрыдрых (1813—1863) — нямецкі пісьменнік.

Гегель Георг Вільгельм Фрыдрых (1770—1831) — нямецкі філосаф.

Гелен Арнольд (1904—1976) — нямецкі філосаф.

Гельвецый Клод Андрыян (1715—1771) — французскі філосаф.

Гераклід Эфескі (каля 544 — каля 483 да н. э.) — старажытнагрэчаскі філосаф.

Герцэн Аляксандр Іванавіч (1812—1870) — рускі пісьменнік, публіцыст, рэвалюцыйны дзеяч.

| | |
|---|---|
| Гесіёд (VIII—VII стст. да н. э.) | — старажытнагрэчаскі паэт. |
| Гётэ Іаган Вольфганг (1749—1832) | — нямецкі пісьменнік, мысліцель, прыродазнавец. |
| Гобс Томас (1588—1679) | — англійскі філосаф. |
| Горкі Максім (сапр. імя Пешкаў Аляксей Максімавіч) (1868—1936) | — рускі савецкі пісьменнік. |
| Гумбальт Вільгельм (1767—1835) | — нямецкі філосаф, мовазнавец, дыпламат. |
| Гусоўскі Мікалай (каля 1488 — пасля 1533) | — беларускі паэт эпохі Адраджэння. |
| Гюго Віктор (1802—1885) | — французскі пісьменнік. |
| Давідовіч Усевалад Яўгенавіч (нар. у 1922) | — расійскі філосаф. |
| Данілеўскі Мікалай Якаўлевіч (1822—1885) | — рускі публіцыст, сацыёлаг і прыродазнавец. |
| Дарвін Чарльз Роберт (1809—1882) | — англійскі вучоны-прыродазнавец. |
| Дастаеўскі Фёдар Міхайлавіч (1821—1881) | — рускі пісьменнік. |
| Джонсан Сэмуэл (1709—1784) | — англійскі паэт, крытык. |
| Джэмс Уільям (1842—1910) | — амерыканскі філосаф і псіхолаг. |
| Дзідро Дэні (1713—1784) | — французскі філосаф, пісьменнік. |
| Дэкарт Рэнэ (1596—1650) | — французскі філосаф, матэматык. |
| Дэмакрыт (каля 460—370 да н. э.) | — старажытнагрэчаскі філосаф. |
| Еўрыпід (каля 480—407 да н. э.) | — старажытнагрэчаскі драматург. |
| Жан Поль (1763—1825) | — нямецкі пісьменнік. |
| Залускі Лука (1604—1672) | — беларускі філосаф. |
| Зандэрс Даніель (1819—1885) | — нямецкі вучоны-філолаг. |
| Зізаній (Тустаноўскі) Стэфан (каля 1570 — каля 1621) | — украінскі і беларускі пісьменнік і публіцыст. |
| Зэйме Іаган Готфрыд (1763—1810) | — нямецкі публіцыст і паэт. |
| Зялінскі Мікалай Дзмітрыевіч (1861—1953) | — савецкі вучоны-хімік. |



| | |
|---|---|
| Ільін Іван Аляксандравіч (1882—1954) | — рускі філосаф. |
| Ірвінг Вашынгтон (1783—1859) | — амерыканскі пісьменнік. |
| Казьма Пруткоў | — калектыўны псеўданім паэтаў А. К. Талстога і братоў Жамчужнікавых (50—60-я гг. XIX ст.). |
| Калінін Міхаіл Іванавіч (1875—1946) | — савецкі дзяржаўны дзеяч. |
| Камю Альбер (1913—1960) | — французскі пісьменнік і філосаф. |
| Кант Імануіл (1724—1804) | — нямецкі філосаф. |
| Канфуцый (Кун-цзы) (каля 551—479 да н. э.) | — старажытнакітайскі мысліцель. |
| Капернік Мікалай (1473—1543) | — польскі астраном, стваральнік геліяцэнтрычнай сістэмы свету. |
| Карлейль Томас (1795—1881) | — англійскі пісьменнік, гісторык, філосаф. |
| Кафка Франц (1883—1924) | — аўстрыйскі пісьменнік. |
| К'еркегор Сёрэн (1813—1855) | — дацкі філосаф, пісьменнік. |
| Клаўдзіус Мацiяс (1740—1815) | — нямецкі паэт. |
| Колас Якуб (1882—1956) | — народны паэт Беларусі. |
| Крылоў Іван Андрэевіч (1769—1844) | — рускі байкапісец. |
| Ксенафан (580—450 да н. э.) | — старажытнагрэчаскі філосаф. |
| Купала Янка (1882—1942) | — народны паэт Беларусі. |
| Курцый (Квінт Курцый Руф) (I ст.) | — рымскі гісторык і рытар. |
| Лабруер Жан дэ (1645—1696) | — французскі пісьменнік. |
| Ламенэ Фелісітэ Робер дэ (1782—1854) | — абат, французскі публіцыст і рэлігійны філосаф. |
| Лао Цзы (579—499 да н. э.) | — старажытнакітайскі філосаф. |
| Лаплас П'ер Сімон (1749—1827) | — французскі астраном, матэматык, фізік. |
| Ларашфуко Франсуа дэ (1613—1680) | — французскі пісьменнік. |
| Лафатэр Іаган Каспар (1741—1801) | — швейцарскі пісьменнік. |
| Леанарда да Вінчы (1452—1519) | — італьянскі жывапісец, скульптар, архітэктар, вучоны, інжынер. |

Лебок Джон (1834—1913) — англійскі археолаг і этнограф.

Лейн Томас (1737—1809) — амерыканскі палітычны дзеяч, пісьменнік.

Лейбніц Готфрыд Вільгельм (1646—1716) — нямецкі філосаф, матэматык, фізік, мовазнавец.

Ленін Уладзімір Ільіч (1870—1924) — мысліцель, рэвалюцыянер, заснавальнік Савецкай дзяржавы.

Лесінг Готхальд Эфраім (1729—1781) — нямецкі драматург і літаратурны крытык, тэарэтык мастацтва.

Лец Станіслаў Ежы (1909—1966) — польскі пісьменнік, сатырык і гумарыст.

Лінкальн Аўраам (1809—1865) — амерыканскі палітычны дзеяч.

Ліхтэнберг Георг Крыстоф (1742—1799) — нямецкі пісьменнік, вучоны.

Лондан Джэк (1876—1916) — амерыканскі пісьменнік.

Лорэнц Конрад (нар. у 1903) — аўстрыйскі заолаг, адзін са стваральнікаў эталогіі.

Лосеў Аляксандр Фёдаравіч (1893—1988) — рускі савецкі філосаф і філолаг.

Лоскі Мікалай Ануфрыевіч (1870—1965) — рускі філосаф.

Лоўэл Джэймс Расел (1819—1891) — амерыканскі паэт, крытык, публіцыст.

Лявонаў Леанід Максімавіч (1899—1994) — рускі савецкі пісьменнік.

Мантэнь Мішэль дэ (1533—1592) — французскі філосаф, пісьменнік.

Мантэск'е Шарль Луі (1689—1755) — французскі пісьменнік, філосаф, публіцыст.

Маркс Карл (1818—1883) — мысліцель, рэвалюцыянер, тэарэтык рэальнага гуманізму.

Мапасан Гі дэ (1850—1893) — французскі пісьменнік.

Маруа Андрэ (1885—1967) — французскі пісьменнік.

Мечнікаў Ілья Ільіч (1845—1916) — рускі вучоны-біёлаг.

Мікалай Кузанскі (1401—1464) — філосаф, тэолаг, вучоны, царкоўны дзеяч.

Міль Джон Сцюарт (1806—1873) — англійскі філосаф, эканаміст.

Мічурын Іван Уладзіміравіч (1855—1935) — рускі вучоны-біёлаг.



Міцкевіч Адам (1798—1855) — польскі паэт.

Надсан Сямён Якаўлевіч (1862—1887) — рускі паэт.

Нарбут Казімір (1738—1807) — беларускі грамадскі дзеяч і мысліцель.

Ніцшэ Фрыдрых (1844—1900) — нямецкі філосаф.

Ньютан Ісаак (1643—1727) — англійскі матэматык, астраном і фізік, стваральнік класічнай механікі.

Паскаль Блэз (1623—1662) — французскі вучоны, філосаф.

Паўлаў Іван Пятровіч (1849—1936) — рускі вучоны-фізіёлаг.

Петрарка Франчэска (1304—1374) — італьянскі паэт.

Пісараў Дзмітрый Іванавіч (1840—1868) — рускі публіцыст і літаратурны крытык.

Піт Уільям (1759—1806) — дзяржаўны дзеяч Вялікабрытаніі.

Піфагор Самоскі (каля 570—500 да н. э.) — старажытнагрэчаскі філосаф і матэматык.

Планк Макс (1858—1947) — нямецкі фізік, адзін з заснавальнікаў квантавай тэорыі.

Платон (427—347 да н. э.) — старажытнагрэчаскі філосаф і пісьменнік.

Плаўт Ціт Макцый (сяр. III ст. да н. э.— каля 184 да н. э.) — старажытнагрэчаскі паэт-камедыёграф.

Пліній Старэйшы (23/24—79) — рымскі пісьменнік, вучоны.

Пляханаў Георгій Валянцінавіч (1856—1918) — рускі рэвалюцыянер, філосаф, публіцыст.

Пратагор (каля 480—410 да н. э.) — старажытнагрэчаскі філосаф.

Прышвін Міхаіл Міхайлавіч (1873—1954) — рускі савецкі пісьменнік.

Пталемей Клаўдзій (каля 90— каля 160) — старажытнагрэчаскі астраном, стваральнік геацэнтрычнай сістэмы свету.

Публілій Сір (нар. у 16 г. да н. э.) — старажытнарымскі паэт.

Пушкін Аляксандр Сяргеевіч (1799—1837) — рускі паэт.

Ралан Рамэн (1866—1944) — французскі пісьменнік.

Расел Бертран (1872—1970) — англійскі філосаф, матэматык, логік, грамадскі дзеяч.

Рукерт Фрыдрых (1788—1866) — нямецкі паэт і вучоны, перакладчык паэзіі Усходу.

Русо Жан Жак (1712—1778) — французскі філосаф і пісьменнік.

Рэнан Жазэф Эрнэст (1823—1892) — французскі пісьменнік, філолаг і гісторык.

Рэнар Жуль (1864—1910) — французскі пісьменнік.

Рэрых Мікалай Канстанцінавіч (1874—1947) — рускі жывапісец, пісьменнік.

Рывароль Антуан (1753—1801) — французскі пісьменнік.

Сакрат (470/469—399 да н. э.) — старажытнагрэчаскі філосаф.

Салаўёў Уладзімір Сяргеевіч (1853—1900) — рускі філосаф, паэт, публіцыст.

Саламон (965—928 да н. э.) — цар Ізраільска-Іудзейскага царства.

Сантаяна Джордж (1863—1952) — амерыканскі філосаф.

Сартр Жан Поль (1905—1980) — французскі філосаф і пісьменнік.

Сафокл (497 або 495—406 да н. э.) — старажытнагрэчаскі паэт-драматург.

Сенека (Малодшы) Луцый Аней (каля 4 да н. э.— 65 н. э.) — рымскі пісьменнік, філосаф, палітычны дзеяч.

Сенека (Старэйшы) Луцый Аней (каля 4 да н. э.— каля 39 н. э.) — рымскі рытар і гісторык.

Сервантэс Сааведра Мігель дэ (1547—1616) — іспанскі пісьменнік.

Сімяон Полацкі (1629—1680) — беларускі грамадскі дзеяч, пісьменнік, паэт.

Скаварада Рыгор Савіч (1722—1794) — украінскі філосаф, паэт, педагог.

Скарына Францыск (да 1480 — не пазней 1551) — беларускі першадрукар і асветнік.

Спенсер Герберт (1820—1903) — англійскі філосаф, сацыёлаг і псіхолаг.

Сухамлінскі Васіль Аляксандравіч (1918—1970) — савецкі педагог.

Стывенсан Роберт Луіс (1850—1894) — англійскі пісьменнік.

Талстой Леў Мікалаевіч (1828—1910) — рускі пісьменнік.



Тойнбі Арнольд Джозэф (1889—1975) — англійскі гісторык.

Тофлер Альвін (нар. у 1928) — амерыканскі сацыёлаг і публіцыст.

Тургенеў Іван Сяргеевіч (1818—1883) — рускі пісьменнік.

Тэнісан Алфрэд (1809—1892) — англійскі паэт.

Уайлдэр Торнтан (1897—1974) — амерыканскі пісьменнік.

Фалес (каля 625—547 да н. э.) — старажытнагрэчаскі філосаф.

Фама Аквінскі (1225—1274) — філосаф і тэолаг.

Фаскала Уга (1778—1927) — італьянскі пісьменнік, філолаг.

Фёдараў Мікалай Фёдаравіч (1828—1903) — рускі рэлігійны мысліцель.

Філіпс Уэндэл (1811—1884) — амерыканскі палітычны дзеяч.

Фларэнскі Павел Аляксандравіч (1882—1937) — рускі рэлігійны філосаф, вучоны, інжынер.

Флаяна Эніа (нар. у 1910) — італьянскі пісьменнік.

Франклін Бенджамін (1706—1790) — амерыканскі пісьменнік-асветнік, грамадскі дзеяч, вучоны.

Франс Анатоль (1844—1924) — французскі пісьменнік.

Фром Эрых (1900—1980) — нямецка-амерыканскі псіхолаг і сацыёлаг.

Фрэйд Зігмунд (1856—1939) — аўстрыйскі ўрач-псіхіятр, псіхолаг.

Фукідзід (каля 460 — каля 400 да н. э.) — старажытнагрэчаскі пісьменнік, гісторык.

Фурманаў Дзмітрый Андрэевіч (1891—1926) — рускі савецкі пісьменнік.

Хайдэгер Марцін (1889—1976) — нямецкі філосаф.

Цільe Клод (1801—1844) — французскі пісьменнік.

Ціміразеў Клімент Аркадзьевіч (1843—1920) — рускі вучоны-прыродазнавец.

Цімафееў-Рэсоўскі Мікалай Уладзіміравіч (1900—1981) — савецкі біёлаг.

## ЗМЕСТ

Вучэбнае выданне

**Бяляева** Алена Валер'еўна, **Ганушчанка** Надзея Мікалаеўна, **Грышчанка** Міхаіл Піліпавіч, **Гурына** Алена Вацлаваўна, **Данілаў** Аляксандр Мікалаевіч, **Міськевіч** Уладзімір Іосіфавіч, **Паноў** Сяргей Веньямінавіч, **Пазнякоў** Валерый Уладзіміравіч, **Палоннікаў** Аляксандр Андрэевіч, **Рабкоў** Ігар Аляксандравіч, **Фонатава** Эльвіра Андрэеўна, **Харын** Юрый Андрэевіч

**ЧАЛАВЕК. ГРАМАДСТВА. ДЗЯРЖАВА**

Вучэбны дапаможнік для 9 класа
агульнаадукацыйнай школы
з беларускай мовай навучання

У ЧАТЫРОХ КНІГАХ

Кніга другая

СВЕТ ЛЮДЗЕЙ

Рэдактар *Л. А. Цімафеева.* Мастакі *К. М. Гардзееў, Р. С. Фралоў.* Мастацкія рэдактары *Р. С. Фралоў, Л. А. Дашкевіч.* Тэхнічны рэдактар *С. І. Ліцкевіч.* Карэктары *С. А. Яновіч, С. Т. Асташэвіч.*

Здадзена ў набор 06.12.2000. Падпісана ў друк 30.01.2001. Папера афс. № 1. Фармат $60\times90^1/_{16}$. Гарнітура школьная. Афсетны друк. Умоўн. друк. арк. 15+0,25 форз. Умоўн. фарба-адбіт. 55,5. Ул.-выд. арк. 11,06+0,4 форз. Тыраж 66 400 экз. Заказ 148.

Падатковая льгота — Агульнадзяржаўны класіфікатар Рэспублікі Беларусь АКРБ 007-98, ч. 1; 22.11.20.100.

Выдавецкае рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Народная асвета» Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку.
Ліцэнзія ЛВ № 4 ад 08.09.2000.
220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Набрана на рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве «Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа». 220600, Мінск, Чырвоная, 23.

Мінская фабрыка каляровага друку. 220024, Мінск, Каржанеўскага, 20.

(Назва і нумар школы)

| Навучальны год | Імя і прозвішча вучня | Стан вучэбнага дапаможніка пры атрыманні | Адзнака вучню за карыстанне вучэбным дапаможнікам |
|---|---|---|---|
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |

Чалавек па сваёй прыродзе ёсць істота грамадская.

Арыстоцель







Рафаэль Санці. Афінская школа.
Фрэска. Ватыкан. XVI ст.